

*Эль Грэка. Св. Дамінік у малітве.*
*1585–1590 (з прыватнай калекцыі).*

Ксёндз Ян Сохань

# Плод

Няшмат ведаю, але ж памірае
галінка спакою, моўкнуць кветкі,
сціхае дождж.

Няшмат ведаю, але даспяваю,
як плод, прашыты насеннем.
Час — хвіліна кароткая,
час — вільготныя вочы:
згаджаюся на ўсё.

*Пераклад з польскай мовы*
*Крыстыны Лялько*



У нумары 2/2015

НАША ВЕРА



# Кароткі нарыс пра пачатак існавання дамініканскага ордэну

Паданні кажуць, што маці святога Дамініка, благаслаўлёная Ёанна, калі была цяжарная, мела прарочы сон: яна ўбачыла сабаку, які трымаў у зубах паходню і бег па ўсім свеце, распальваючы ў ім агонь. Гэты сон павінен быў значыць, што дзіця, якое мелася нарадзіцца, будзе запальваць на зямлі агонь Божай любові. Гэты агонь павінен быў таксама сімвалізаваць святло праўды, якое разыходзіцца па ўсім свеце праз прапаведнікаў Евангелля ў духу навучання святога Грыгорыя Вялікага, які зрабіў адным з хрысціянскіх сімвалаў вобраз сабакі — прапаведніка пры Боскім Пастыры Хрысце. Сабака з паходняю ў зубах стаў таксама сімвалам ордэну дамініканаў, лацінская назва якога — *Domini canes* — перакладаецца як «Божыя сабакі».

Пра жыццё святога мы ведаем з біяграфіі, напісанай адным з яго першых паслядоўнікаў — Ярданам Саксонскім. Ён апісвае, што аднойчы, падчас дыпламатычнага падарожжа ў Данію праз Паўднёвую Францыю, Дамінік усю ноч правёў у дыскусіі з адным з ерэтыкоў-катараў, спрабуючы пераканаць яго вярнуцца да каталіцкай веры. Пасля таго, як гэты чалавек выракся ерасі, у Дамініку пачала ўзрастаць думка стаць вандроўным тэолагам-прапаведнікам. Такім чынам, два элементы веры павінны былі стаць падмуркам новай манаскай супольнасці: апостальства ва ўбостве, посце, самаўтаймаванні і вандроўнае прапаведаванне ад вёскі да вёскі, ад горада да горада, каб не чакаць людзей, якія шукаюць Бога, а знаходзіць іх самім. Вяртаючыся з Даніі, Дамінік застаўся ў Паўднёвай Францыі, каб прысвяціць сябе прапаведаванню і змаганню з ерассю катараў.

У 1206 годзе ўзнікла першая дамініканская супольнасць: у французскім мястэчку Пруйль, недалёка ад Фанжо, быў заснаваны першы кляштар дамініканскіх манашак. Ордэн нарадзіўся ў складаныя для Касцёла часы і ў тым месцы, дзе асабліва адчуваўся крызіс Касцёла. У Еўропе множыліся ерасі, паўднёвая Францыя была галоўным месцам дзейнасці секты катараў — там гэты рух квітнеў, далучаючы прадстаўнікоў усіх саслоўяў. Мужчыны катары найчасцей вандравалі, прапаведуючы сваё вучэнне, а жанчыны жылі вялікімі супольнасцямі ў дамах, якія фундавала мясцовая арыстакратыя. І першымі манашкамі дамініканкамі сталі менавіта катаркі, якіх святы Дамінік навярнуў у каталіцтва. Кляштар святой Марыі ў Пруйлі стаў альтэрнатываю для жанчын, якія жадалі вярнуцца ў Каталіцкі Касцёл, але выраслі ў катарскіх сем'ях і таму надавалі вялікае значэнне аскетычнасці жыцця, пакуце і малітве, чаго бракавала Касцёлу, які перажываў вялікі крызіс. Прыклад любові, веры і аскетычнага жыцця святога Дамініка прывёў іх да навяртання. Дамінік, адораны вялікім духам апостальства, стаў іх духоўным айцом і кіраўніком. Магчыма, сутнасць дамініканскага ордэну і яго яснае бачанне нарадзіліся ў святым Дамініку менавіта пасля навяртання катарскіх жанчын. Ён пажадаў, каб у месцы духоўнай згубы ўзнікла супольнасць, якая несла б святло праўды і стала знакам жывой прысутнасці Хрыста. Дамініканскія манашкі занялі асаблівае месца ў евангелізацыйным служэнні. Ведаючы, што плённасць абвяшчэння Еван-

гелля цесна звязаная з малітваю, Дамінік далучыў манашак з заснаванай ім супольнасці да сваёй справы прапаведавання праз іх заступніцкую малітву. (Цяпер на тэрыторыі Беларусі, на жаль, няма кляштара дамініканскіх манашак, але некалькі сясцёр беларусак жывуць у кляштары ў Дрохедзе, у Ірландыі.)

З цягам часу вакол Дамініка пачалі збірацца паслядоўнікі і ў Тулузе ўзнікла першая супольнасць з шасці братоў. У 1215 годзе падчас IV Латэранскага Сабору Дамінік выправіўся ў Рым з просьбаю да папы Інацэнта III зацвердзіць Статут новага манаскага ордэну.

Паданні кажуць, што папа Інацэнт III прысніў, што па сценах касцёла святога Яна на Латэранскім пагорку пайшлі расколы, і касцёл вось-вось мог абрушыцца, але падбег Дамінік і рукамі ўтрымаў будынак. Пад уплывам гэтага сну Папа вырашыў зацвердзіць новы ордэн, абаперты на рэгулу святога Аўгустына, выбраную Дамінікам.

Датай узнікнення ордэну лічыцца 22 снежня 1216 года, калі было афіцыйна зацверджанае яго існаванне, а 21 студзеня 1217 года булаю *Religiosam vitam* наступнага Папы, Ганорыя III, была абвешчаная навізна канцэпцыі, прапанаванай святым Дамінікам, і заснаваную ім супольнасць назвалі Ордэнам Прапаведнікаў (*Ordo Praedicatorum, OP*).

Аднойчы падчас малітвы Дамінік убачыў святых апосталаў Пятра і Паўла. Пётр даў яму ласку быць вандроўным прапаведнікам, а Павел працягнуў Евангелле, сказаўшы: «Ідзі і абвяшчай, для гэтага ты быў пасланы». Пасля Дамінік убачыў сваіх братоў, якія па двое ідуць у свет, каб прапаведаваць. Пад уплывам гэтага відзежу, а таксама словаў з папскай булы пра тое, што ордэн пакліканы для таго, каб ва ўсім свеце абвяшчаць імя Хрыста, Дамінік паслаў сваіх братоў у свет, кажучы: «Пасеянае зерне дае плён, але калі яго збіраць у адным месцы, пачынае гніць». 15 жніўня 1217 года святы Дамінік выслаў у свет з Пруйля першых братоў прапаведнікаў. Іх было мала, і таму браты разыходзіліся па свеце без надзеі на далейшыя сустрэчы, задаючы сабе пытанне: «Што мы будзем рабіць у Парыжы, Балоны і Рыме?». У адказ яны пачулі: «Абвяшчаць слова Божае, вучыцца і засноўваць кляштары».

Дамінік памёр у 1221 годзе ў Балоны, дзе і цяпер знаходзяцца яго парэшткі. Ён быў кананізаваны ў 1234 годзе папам Грыгорыем IX.

Святы Дамінік лічыў, што слова Божае неабходна абвяшчаць усім сабою, што пацвярджае і дэвіз ордэну, які фармулюе сутнасць дамініканскай духоўнасці: *contemplata aliis tradere*, што значыць вучыць іншых таму, у чым ты сам укаранёны з дапамогаю кантэпляцыі. Коранем дамініканскай духоўнасці з'яўляецца ўсведамленне таго, што абвяшчэнне Евангелля і развіццё Касцёла не ёсць самамэтаю. Павага да чалавека, спачуванне да яго духоўных бедаў і клопат пра яго збаўленне — найбольш характэрныя рысы апостальства. Асаблівае месца ў дамініканскай духоўнасці займаюць навука і навучанне ў духу праўды. Шукаць яе — адна з галоўных задачаў дамініканіна, і гэта павінна весці яго да канкрэтнай мэты. Першая канстытуцыя ордэну кажа: «Нашае навучанне перадусім і з усёю палкасцю павінна служыць таму, каб мы маглі прынесці карысць душам бліжніх». Апроч таго, у супольнасці, якая называецца Ордэнам прапаведнікаў Божага слова, абвяшчэнне словам зусім не лічыцца першаснай задачай — канстытуцыі ордэну парадаксальна ставяць гэта на апошняе месца: «Сярод элементаў, з якіх складаецца жыццё дамініканаў, найважнейшым з'яўляецца жыццё ў супольнасці, цэлебраванне літургіі і асабістая малітва, выкананне манаскіх шлюбаў, нястомнае паглыбленне праўды і апостальскае служэнне».

Дамініканe — адна з першых каталіцкіх манаскіх супольнасцяў, якая з'явілася на Беларусі і вяла на нашых землях актыўную дзейнасць. Цяпер на Беларусі браты прапаведнікі служаць у Віцебску і Магілёве.

Дамініканскі ордэн праславіўся мноствам святых і благаслаўлёных, настаўнікаў Касцёла. Сярод іх папа Пій V, які распачаў рэформу Трыдэнцкага Сабору; тэолагі, філосафы і містыкі святы Альберт Вялікі, святы Тамаш Аквінскі, святы Вінцэнт Ферэр, благаслаўлёны мастак Фра Анжэліко. Благаслаўлёны Барталамей дэ лас Касас стаў вядомы сваёю грамадскаю дзейнасцю, змагаючыся за правы індзейцаў падчас іспанскай каланізацыі Паўднёвай Амерыкі; грамадскаю антыфашысцкаю дзейнасцю займаўся ў Італіі благаслаўлёны П'ер Джорджо Фрасаці, дамініканскі тэрцыяр. Тэрцыяркаю была таксама святая Кацярына Сіенская, тэолаг і містык, адна з чатырох настаўніц Касцёла, якая спрыяла вяртанню Святога Пасаду з Авіньёнскага выгнання ў Рым.

Лічыцца, што трэцяя галіна дамініканскага ордэну, дамініканскія тэрцыяры, таксама пачала існаваць з часоў святога Дамініка, уключыўшы ў сябе свецкіх людзей, цесна звязаных з Ордэнам прапаведнікаў і яго апостальскай місіяй: праз малітву, навучанне і прапаведаванне, адпаведна свайму свецкаму стану. Аднак уласны Статут і прававы статус яны атрымалі пазней: у 1285 годзе, пры сёмым генерале дамініканскага ордэну Муньё дэ Самора. Цяпер трэцяя галіна Ордэну Прапаведнікаў існуе ў многіх краінах свету. Найбольшае развіццё яна атрымала ў В'етнаме, дзе да Трэцяга дамініканскага ордэну належаць больш за 100 000 братоў і сясцёр. Супольнасці — фратэрні — свецкіх дамініканаў звычайна існуюць пры кляштарах братоў дамініканаў або дамініканскіх манашак. На Беларусі фратэрня Святой Тройцы свецкіх дамініканаў дзейнічае пры кляштары благаслаўлёнага Міхала Чартарыйскага ў Віцебску.

*Падрыхтавала Юлія Шэдзько.*
*Паводле дамініканскіх інфармацыйных крыніцаў.*

# Шляхамі святога Дамініка



Калеруэга. Касцёл св. Себасцьяна.

Вобраз святога Дамініка і яго справы заўсёды захаплялі мастакоў і архітэктараў, таму зямное існаванне святога мае сімвалічнае выяўленне ў мастацтве.

Народжаны ў 1170 г. у кастыльскім мястэчку Калеруэга, Дамінік дэ Гусман Гарсэс (*Domingo de Guzman Garces*) быў ахрышчаны ў мясцовым фарным касцёле імя святога Себасцьяна. Раманскі па стылі касцёл пабудавалі ў XII ст. Гэты храм быў новым архітэктурным помнікам радзімы святога, а ў гістарычным сэнсе ён належаў да адной з ім эпохі — драматычнага змагання Рэканкісты за вызваленне ад мусульманскіх захопнікаў. Вобраз храма-крэпасці быў вельмі распаўсюджаны ў іспанскай архітэктуры. Пабудаваныя з каменных квадраў муры і вежа (разам з прэзбітэрыем яна захавала свой першапачатковы выгляд), вузкія праёмы вокнаў — усё суровае, падпарадкаванае лаканічнаму геаметрызму. Хрысцільня, у якой быў ахрышчаны Дамінік, на працягу стагоддзяў захоўвалася ў фарным касцёле, але потым была перавезеная ў Мадрыд, у каралеўскі кляштар імя святога Дамініка (*Santo Domingo el Real*), дзе прымаюць хрост члены каралеўскай сям’і Іспаніі. А замыкае цыкл зямнога жыцця святога яго грабніца ў базыліцы св. Дамініка ў Балоны. Працу над грабніцаю распачаў у 1267 г. вялікі скульптар Протарэнесанса Нікола Пізана з вучнямі, але над ёю шчыравалі і іншыя скульптары: Нікола да Бары (XV ст.), малады Мікеланджэла, Альфонса Ламбардзі (XVI ст.), а завяршыў працу —рэльефам «Смерць св. Дамініка» — француз Жан-Батыст Будар ажно ў 1768 годзе. Вынікам калектыўнай творчасці стала прыгожая, складаная кампазіцыя ў славу знакамітага каталіцкага святога.

Чатырнаццацігадовы Дамінік прыехаў у кастыльскі горад Паленсія з вызначанай жыццёваю мэтаю — стаць святаром. З 1184-га па 1198 г. ён вывучаў тэалогію і мастацтвы ў адным з самых старажытных цэнтраў адукацыі хрысціянскай Іспаніі — *Studium Generale de Palencia*. У 1212 г. каралеўскім загадам Альфонса VIII Кастыльскага *Studium* атрымаў статус універсітэта, а ў 1263 г. папа Урбан IV даў гэтаму ўніверсітэту прывілеі, якія прыраўнівалі яго да Парыжскага ўніверсітэта. Усё гэта адбывалася ўжо па-за рамкамі жыцця св. Дамініка. На жаль, ад паленсійскай старонкі яго біяграфіі не засталося амаль нічога. Краязнаўцы дагэтуль вядуць спрэчкі пра месцазнаходжанне гістарычнага будынка *Studium*, а потым універсітэта ў Паленсіі. Традыцыйна (на гэтым заўсёды настойвалі дамініканe) такім месцам лічыўся Дом святога Дамініка (*Casa de Santo Domingo*) у гістарычнай частцы горада, але гэты будынак быў разбураны ў 1892 г. (засталася толькі фатаграфія з яго выяваю). Пасля заканчэння вучобы Дамінік стаў прафесарам у *Studium*. У 1190 г. у Паленсіі ён быў высвечаны на святара і распачаў сваю гуманітарную дзейнасць. Малады ксёндз нават арганізаваў распродаж сваіх рукапісных кніг, каб на гэтыя грошы падтрымаць беднякоў, якія пакутавалі ад голаду. Неўзабаве ён атрымаў



Дом св. Дамініка ў Паленсіі. Фота да 1892 г.



Осма. Замак.

прызначэнне на служэнне рэгулярным канонікам у саборы горада Осма, таксама ў Кастыліі, непадалёк ад родных мясцінаў.

Невялікая раманская святыня, у якой распачаў служэнне будучы святы, не задавальняла патрэбаў шматлікай паствы, і на пачатку 1230-х гадоў на гэтым месцы распачалося будаўніцтва вялікага гатычнага сабора Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Менавіта ў гэтым саборы ў 1235 г. адбылася ўрачыстасць кананізацыі святога Дамініка. Галоўным гістарычным сведкам знаходжання святога ў Осме дагэтуль застаецца старажытны замак, пабудаваны ў X–XI стст. і абноўлены ў XIV–XV стст. Доўгі час на гэтых землях ішло змаганне Рэканкісты, і хрысціяне замацавалі сваю лакальную перамогу пабудоваю магутнай крэпасці. Муры і вежы замка маюць яшчэ больш даўнюю гісторыю: у іх умураваныя карнізы і іншыя архітэктурна-пластычныя фрагменты перыяду Рымскай імперыі. Кельцка-іберыйскі горад Уксама-Аргелаэ, які стаяў на гэтым месцы, згадвалі ў сваіх тэкстах Клаўдзій Пталемей і Пліній Старэйшы.

Малады святар хутка становіцца ўдзельнікам міжнароднай палітыкі. У 1205 г. кароль Альфонса VIII Кастыльскі пасылае яго ў складзе дэлегацыі на чале з біскупам Осмы Дзіега дэ Асэбэсам у Данію з мэтаю дамовіцца аб заручынах каралеўскага сына з дацкаю прынцэсаю. З гэтай жа мэтаю св. Дамінік упершыню наведаў Рым. Даследчыкі лічаць, што менавіта адкрыццё шырокага свету паспрыяла яго рашэнню ў выбары галоўнай жыццёвай справы — місіянерства. Верагодна, што гэтыя падарожжы (асабліва ў Рым) адбыліся па сушы, праз поўдзень Францыі, дзе святар мог на ўласныя вочы ўбачыць панаванне альбігойскай ерасі. У Капенгагене, на жаль, не засталося ніводнага храма, у якім маліўся будучы святы. Усе касцёлы, якія існавалі ў сталіцы Даніі ў XIII ст., згарэлі ў пажарах або былі разбураныя і перабудаваныя.

Падчас аўдыенцый у папы Інацэнта III св. Дамінік гаварыў пра пакліканне да місіянерскага служэння і жаданне аднаўляць каталіцкую веру ў паўднёвай Францыі. У 1206 г. ён заснаваў першы кляштар у мястэчку Пруйль у французскім рэгіёне Лангедок. У кляштары быў таксама арганізаваны прытулак, дзе жылі жанчыны, якія навярнуліся з катарызму ў каталіцкую веру. Гэты Божы дом лічыцца пачаткам місіянерскай справы дамініканаў. Будынак існаваў да Французскай рэвалюцыі, падчас якой быў цалкам разбураны. У 1879 г. на гэтым месцы адбудавалі дамініканскі кляштар Нотр-Дам у неараманска-візантыйскім стылі.



Пруйль. Дамініканскі кляштар Нотр-Дам.



Рым. Касцёл св. Сабіны. Інтэр'ер.

У 1215 г. св. Дамінік засноўвае ў сталіцы княства Лангедок — Тулузе, ордэн братоў-місіянераў (пазнейшы дамініканскі). Дагэтуль адной з архітэктурных дамінантаў Тулузы з'яўляецца вялікі дамініканскі Якубаўскі касцёл (названы так паводле дамініканскага кляштара на вул. св. Якуба ў Парыжы; дарэчы, там жа падчас Французскай рэвалюцыі пасля секулярызацыі будынка была створана сумнавядомая палітычная секцыя якабінцаў). Але будаўніцтва касцёла распачалося ў 1230 г., ужо пасля смерці заснавальніка ордэну. У 1389 г. папа Урбан V перадаў у гэты касцёл рэліквіі доктара Касцёла св. Тамаша Аквінскага (у 1385 г. касцёл быў асвечаны ў яго гонар).

У Рыме з св. Дамінікам звязаны кляштар і касцёл св. Сабіны на Авентыне. У 1219 г. падчас свайго пятага падарожжа ў Вечны горад з дазволу папы Ганорыя III Дамінік сабраў у гэтым (з тае пары дамініканскім) кляштары братоў ордэну. Кляштар стаў цэнтрам кіравання ордэну дамініканаў. *Santa Sabina* — адзін са старэйшых касцёлаў Рыма, пабудаваны ў 420-я гады, адразу пасля разгрому горада вестготамі Аларыха. На гэтым месцы некалі стаяў дом матроны Сабіны (II ст.), пазней кананізаванай рымскай хрысціянкі. Касцёл св. Сабіны з'яўляецца класічным прыкладам палеахрысціянскай базылікі — ён мае тры навы, падзеленыя каланадамі, і вялікую апсіду. Чысціня яго архітэктурных формаў і ясная прыгажосць прапорцый — гэта рысы рымскай архітэктуры V ст., якія дагэтуль захаваліся ў першасным выглядзе. Вялікай мастацкай каштоўнасцю касцёла з'яўляюцца яго драўляныя дзверы V ст. з рэльефнымі выявамі біблійных сцэнаў. Сярод іх — адна з першых вядомых выяваў Укрыжавання Хрыста.



Тулуза. Дамініканскі касцёл імя св. Тамаша Аквінскага (Якубаўскі).

Найважнейшым цэнтрам ордэну неўзабаве становіцца Балонья, дзе ў 1220 г. св. Дамінік праводзіць першы генеральны капітул ордэну. 6 жніўня 1221 г. у Балоньі, завяршыўшы справу свайго зямнога жыцця, св. Дамінік памёр у кляштары св. Ніколы на Вінаградніку (*San Nicolo delle Vigne*), дзе працаваў над структурызацыяй ордэну і правёў першыя два капітулы. Яго пахавалі за алтаром св. Ніколы. У 1228–1240 гг. былі арганізаваныя працы па разбудове новага касцёла на гэтым месцы — базылікі св. Дамініка. Самым аўтэнтычным элементам пабудовы застаецца фасад касцёла ў раманскім стылі. Гладкая цагляная канструкцыя мае мінімум дэкору, але ўзбагачаная вялікім круглым акном-«ружаю». У архітэктурна-пластычным вырашэнні фасада адлюстраваны прынцып беднасці і сціпласці братоў ордэну. Белы мармуровы портык фасада — гэта ўжо элемент неараманскага стылю, дададзены ў кампазіцыю фасада замест барочнага портыка ў 1910 годзе. У XVIII ст. раманска-гатычная гармонія інтэр'ера базылікі была заменена ў выніку вялікай перабудовы раскошным барочным ансамблем архітэктуры, пластыкі і манументальнага жывапісу. Грабніца заснавальніка ордэну знаходзіцца ў капліцы св. Дамініка, пабудаванай у



Балонья. Касцёл св. Дамініка. Фасад.



Грабніца св. Дамініка ў касцёле яго імя ў Балоны.

XVII ст. Фларыяно Амбразіні на месцы гатычнай капліцы.

Іканаграфія св. Дамініка ў выяўленчых мастацтвах надзвычай багатая. Да вобраза святога звярталіся найвялікшыя творцы розных пакаленняў. Адна з самых ранніх выяваў св. Дамініка — фрэска ў базыліцы яго імя ў Балоны. Святы паказаны ў белай туніцы дамініканскага манаха, белым скапулярыі і чорным плашчы. Гатычная традыцыя прадыктавала крохкія формы і лініі малюнка фрэскі. У левай руцэ святы трымае Евангелле, а правая рука паказана ў жэсце благаслаўлення. Да лаканізму мастацкага вырашэння імкнуўся ў сваім творы «Св. Дамінік у малітве» і Фра Беата Анжэліка (к. 1395–1455), мастак кватрачэнта. Але мастацкая форма ранняга Рэнесанса ўжо засвойвае прастору і рэалістычнае ўспрыняцце чалавечага вобраза. Геній позняга Рэнесанса Тыцыян (1480/85–1576) намаляваў карціну «Св. Дамінік» (к. 1565) напрыканцы свайго вельмі доўгага жыццёвага шляху. «Яго» святы нібы сатканы з цёплага святла (безумоўна, святла веры), у якім увасоблена выдатнае дасягненне венецыянскай школы жывапісу. Найбольш драматычная па вобразным і фармальна-каларыстычным вырашэнні карціна вялікага іспанца Эль Грэка (1541–1614) — на ёй святы Дамінік кленчыць перад крыцыфіксам, абапертым на камень, моцна сціснуўшы рукі ў малітоўным жэсце. Гэтае маленне ў полі і пейзажны фон ствараюць вобраз усяго сусвету, што кіруецца воляй Усявышняга...

Жыццё святога Дамініка ў творах мастацтва бясконцае, як і само хрысціянскае мастацтва.

*Валеры Буйвал*

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбургу (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

Раіса Зянюк

# Ордэн прапаведнікаў на землях Беларусі

Гісторыя дамініканаў на беларускіх землях налічвае амаль восем стагоддзяў. Вельмі хутка пасля зацвярджэння новага ордэну папам Ганорыем III у 1216 г. яго члены з'явіліся ў маладой еўрапейскай дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім.

Датай пачатку дзейнасці першай дамініканскай місіі на землях ВКЛ можна лічыць мірнае пагадненне паміж Міндоўгам і крыжакамі ў 1250 годзе. Яно стварыла спрыяльныя ўмовы для працы каталіцкіх місіянераў на землях княства. Аднак удзельнікі місіі і іх колькасць невядомыя. Адзінае, аб чым можна казаць з пэўнай верагоднасцю, — гэта пра кіраўніка і аднаго з удзельнікаў місіі – біскупа Віта[1].

Пасля таго, як Міндоўг прыняў хрост, з'явілася магчымасць прызначэння біскупа для ВКЛ. Першым літоўскім біскупам у 1253 годзе быў абраны прыбліжаны да Міндоўга крыжацкі святар Хрысціян[2]. Амаль аднačасова біскупскія пасвячэнні атрымаў і Віт. Некаторыя даследчыкі лічаць, што першыя біскупскія пасвячэнні атрымаў менавіта ён. Гісторык-дамініканін а. Славамір Бжазецкі OP адзначае, што, згодна з сярэднявечным звычаем, біскупа абіралі з шэрагу місіянераў, якія дзейнічалі на той тэрыторыі, бо менавіта яны ведалі ўмовы працы і мову людзей, сярод якіх працавалі[3].

Дамінікане дзейнічалі ў ВКЛ і падчас кіравання Гедыміна, які ў лісце ад 1323 г. да Папы пісаў і аб тым, што пры ім знаходзяцца манахі дамініканскага і францішканскага ордэнаў, якім дадзена права прапаведаваць хрысціянскае вучэнне. Гедымін прасіў прыслаць да яго манахаў, якія б ведалі літоўскую і рускую мовы, і прапаноўваў пабудаваць для іх святыні на ўзор існаваўшых у Вільні і Навагрудку касцёлаў, пры якіх былі супольнасці францішканаў і дамініканаў[4].

Першыя віленскія дамінікане прыбылі ў новую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага з Германіі і жылі ў невялікай хатцы, каля якой прыбудавалі капліčку[5]. Сустракаюцца звесткі і аб тым, што сакратаром Гедыміна на пачатку 1320-х гг. быў дамініканін Мікалай, які ўваходзіў у склад Вялікакняскай Рады[6], а браты ордэну былі пісарамі князя, але іх імёны не захаваліся. Пры Альгердзе наяўнасць братоў ордэну на беларуска-літоўскіх землях не пацвярджаецца, хаця першапачатковая капліца ў Вільні, па некаторых звестках, працягвала існаваць[7].

Пасля хросту Ягайлы распачалася новая хваля місіянерскай дзейнасці каталіцкіх святароў і манахаў на абшарах ВКЛ. Сярод братоў ордэну, чые імёны захаваліся, можна назваць каралеўскага прапаведніка, дамініканіна Мікалая Вэнжыка. Ён вызначыўся падчас выправы на Жмудзь у 1413 г., калі праз перакладчыка рыхтаваў людзей да хросту[8]. Ёсць згадкі пра дамініканіна Мікалая, інквізітара, які ў 1435 г. быў прысланы ў Вільню Жыгімонтам I[9].

У актах правінцыяльнай капітулы ў Варцы пад 1468 г. адзначаецца факт накіравання братоў у Навагрудскі кляштар[10]. Беларуска-літоўскія землі да канца XV ст. з'яўляліся для ордэну місійнымі тэрыторыямі, але з пачатку XVI ст. дамінікане стала абасноўваліся ў ВКЛ. Да пачатку XIX ст. ордэн адчыніў на беларускіх землях 50 кляштараў (49 – мужчынскіх, 1 – жаночы).

Для захавання адзінства і аблягчэння кіравання былі створаны тэрытарыяльна-адміністрацыйныя адзінкі – правінцыі. На чале кожнай з іх стаяў правінцыял, які не меў абсалютнай улады і ў кіраванні абапіраўся на правінцыяльны капітул, падначалены генеральнаму капітулу і генералу ордэну.

Да XVII ст. кляштары на беларуска-літоўскіх землях належалі да Польскай правінцыі, створанай каля 1228 года. Першапачаткова ў яе ўваходзілі польскія, чэшскія і мараўскія землі[11]. На пачатку XVII ст. Польская правінцыя мела 63 кляштары, аб'яднаныя ў 8 кантратаў; кляштары на беларуска-літоўскіх

**Раіса Зянюк** — кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі. У 2004 г. скончыла БДПУ імя М. Танка, у 2010 г. — аспірантуру Інстытута гісторыі НАНБ. У 2015 г. абараніла дысертацыю на тэму «Навучальныя ўстановы Рыма-каталіцкай Царквы ў Беларусі (1772–1914): структура і дзейнасць». Даследуе канфесійную гісторыю Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст. Жыве ў Мінску.

землях уваходзілі ў Рускую (17 кляштараў) і Літоўскую (1 кляштар) кантраты[12].

У 1622 г. была створана і зацверджана Руская правінцыя імя св. Гіяцынта. У яе ўвайшлі кляштары ў Астроўне, Беліцы, Шклове. У 1772 г. Руская правінцыя на беларускіх землях мела 23 кляштары. Перад першым падзелам Рэчы Паспалітай у Рускай правінцыі дзейнічалі 63 кляштары з 565-цю дамініканамі[13].

Зацвярджэнне Рускай правінцыі стала штуршком для іншых беларуска-літоўскіх кляштараў у справе стварэння асобнай правінцыі. З канца XVI ст. ролю наймацнейшага асяродку апазіцыі Кракаўскаму кляштару пачаў адыгрываць Віленскі кляштар. Менавіта ў Вільні пачалі нараджацца першыя праекты (Адама Пякарскага, біскупа Віленскага Бэнэдыкта Войны, Даміяна Фанцэзы і інш.)[14] па адасабленні кляштараў на літоўска-беларускіх землях і стварэнні ўласнай ордэнскай тэрытарыяльна–адміністрацыйнай адзінкі.

Вынікам гэтай дзейнасці стала зацвярджэнне генеральным капітулам у Рыме ў 1644 г. кангрэгацыі Анёла Апекуна, у склад якой увайшлі 12 канвентаў (у Вільні — Св. Духа, Сейнах, Мярэчы, Дзярэчыне, Астраўцы, Гродна, Высокім Двары, Коўна, Расенях, Кальварыі Жмудскай, Вярбілаве і ў Вільні на Лукішках) са 155-цю законнікамі. Згодна з пастанаўленнем генеральнага капітула ў Валенсіі ў 1647 г. кангрэгацыя стала правінцыяй[15]. Пачатак яе існавання быў азмрочаны войнамі з Маскоўскім царствам. Маладая правінцыя панесла значныя страты: 15 чалавек былі забітыя, 27 чалавек памерлі у выніку эпідэмій 1655–1658 гг.[16]. Нягледзячы на гэта, першае стагоддзе існавання правінцыі адзначылася шматлікімі фундацыямі: з 1667-га па 1766 г. на яе тэрыторыі было заснавана 26 кляштараў, з якіх 15 – на беларускіх землях. Гэты час адзначаны ростам колькасці дамініканаў у Літоўскай правінцыі: з 155-ці ў 12 кляштарах на момант яе заснавання да 679-ці ў 43-х кляштарах на момант першага падзелу Рэчы Паспалітай[17]. Кляштары на беларускіх землях актыўна ўдзельнічалі ў жыцці правінцыі.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і зменаў дзяржаўнай прыналежнасці беларускіх земляў становішча Каталіцкага Касцёла змянілася. У Расійскай імперыі ў адносінах да манаскіх ордэнаў былі прынятыя заканапалажэнні, у адпаведнасці з якімі забараняліся кантакты з замежнымі генераламі і правінцыяламі. Кляштары і манахі траплялі пад юрысдыкцыю мясцовых біскупаў[18]. У гэтай сітуацыі дамінікане палічылі мэтазгодным стварыць у 1782 г. уласную правінцыю, якая атрымала назву Беларускай. У склад правінцыі ўвайшлі 7 кляштараў Літоўскай правінцыі і 9 — Рускай. Першы капітул Беларускай правінцыі адбыўся ў Княжыцах у лютым 1783 года. Тады ж быў абраны правінцыял для 16-ці кляштараў — ім стаў а. Альберт Шалухэ. Акты капітулу былі зацверджаныя не генералам ордэну, а біскупам С. Богушам-Сестранцэвічам па вышэйзгаданых прычынах[19]. Беларуская правінцыя праіснавала да другога падзелу Рэчы Паспалітай (пасля кляштары ізноў увайшлі ў межы Літоўскай і Рускай правінцый[20]). У 1839 г. Руская і Літоўская правінцыі ордэну былі аб'яднаныя ў Літоўска-Рускую правінцыю. У гэтым жа годзе быў абраны апошні правінцыял, прызнаны расійскімі ўладамі, — а. Дамінік Заленскі.

З'яўленне пляцовак дамініканаў на беларускіх землях не заўсёды было вынікам дзейнасці толькі ордэну, але і ініцыятываю пэўных асобаў. Сярод фундатараў дамініканскіх касцёлаў і кляштараў былі манархі (фундацыя ў Вільні належала вялікаму князю Аляксандру[21]), духавенства (кляштар дамініканаў у Полацку фундаваў кс. Тамаш Гірскі, прэлат Віленскі[22]), а таксама прадстаўнікі магнатэрыі і шляхты.

Прычыны, якія пабуджалі да фундацыі кляштара, былі рознымі: шлюб, нараджэнне дзіцяці, аздараўленне, старасць, адсутнасць нашчадкаў, цесная сувязь сям'і альбо пэўнай асобы з ордэнам. З нагоды шлюбу, напрыклад, фундавалі кляштар дамініканаў у Ракаве Г. Сангушка і Канстанцыя Тэадора з Сапегаў. Яны ж фундавалі кляштар у Смалянах пасля нараджэння першынца Казіміра. Пасля аздараўлення дзіцяці Марыі-Лукрэцыі Капцёвай Строццы ад першага шлюбу (Дамініка Радзівіла) жанчына фундавала кляштар дамініканаў у Пінску. На схіле жыцця вырашыў заснаваць дамініканскі кляштар у Чашніках Ж. Слушка. Адсутнасць сям'і і нашчадкаў была прычынай для фундацыі кляштара ў Палонцы С. Бжуханьскім (у гэтым выпадку ордэн станавіўся спадкаемцам фундатара). Значную групу фундатараў складалі ўдовы. На беларускіх землях імі былі заснаваны кляштары ў Хатаевічах (Барбарай Канстанцыяй Друцка-Горскай) і ў Ельні (Зоф'яй Марыянай Адахоўскай і Ганнай Пшэслаўскай). Адной з прычынаў фундацыі была цесная сувязь сям'і альбо пэўнай асобы з ордэнам: членства ў Трэцім ордэне, уступленне ў першую ці другую галіну ордэну. Такімі сувязямі вызначаліся сем'і Сапегаў, Радзівілаў, Патоцкіх. Сапегі былі фундатарамі дамініканскіх кляштараў у Астроўне, Гродне, Беліцы, Заслаў'і[23]. Пра Патоцкіх

існавала нават пагаворка: «*tam diu domus Potociana, quam diu religio dominicana*» (так доўга будзе стаяць дом Патоцкіх, як і дамініканская традыцыя)[24].

Фундуш агаворваў абавязкі братоў ордэну, якія ў далейшым павінны былі жыць і працаваць у канкрэтным касцёле і кляштары. Напрыклад, першапачатковымі фундушавымі абавязкамі дамініканаў Стаўбцоўскага кляштара былі наступныя: 1) кожную нядзелю адпраўляць адну Імшу за душы фундатараў; 2) кожную суботу за душу Багуслава адпраўляць адну Імшу; 3) таксама ў суботу за душу Ганны Слушкі — адну Імшу і адну за Міхала Даманьскага; 4) штомесяц — за душу Яна Коса і асобна — за душу Ганны Акіньчовай па дзве св. Імшы; 5) штомесяц за душы Яна Цельшаўскага і Багуслава Пясецкага па дзве Імшы; 6) за душу Зоф'і Пілецкай — дзве Імшы штомесяц і за душы Максімільяна і Юдыты Стравіньскіх — адну Імшу[25]. Фундатар мог вызначыць і іншыя кірункі дзейнасці, якія павінны былі рэалізоўвацца пры кляштары (утрыманне школы, шпіталю і г.д.).

Дамініканскія храмы часцей за ўсё будаваліся ў стылі барока, які найбольш уражваў вернікаў. Не апошнюю ролю адыгрывала жаданне фундатараў і значнасць дадзеных імі фундушаў. Першапачаткова большасць дамініканскіх касцёлаў будавалася з дрэва, але з цягам часу на іх месцы ўзводзіліся мураваныя будынкі (у Нясвіжы, Навагрудку, Пінску і г.д.). Прычыны для перабудовы былі розныя. Часцей за ўсё — аварыйны стан альбо пажары. XVIII ст. – гэта час перабудовы драўляных дамініканскіх касцёлаў у мураваныя. Большасць дамініканскіх комплексаў другой паловы XVII ст. паўстала ў перыяд росквіту ідэалогіі сарматызму, таму многія касцёлы былі збудаваныя ў стылі «сармацкага» барока. Шматлікія святыні ордэну былі пабудаваны і перабудаваны ў стылі позняга беларускага барока. Першаўзорам для іх стала перабудова касцёла Св. Духа ў Вільні[26].

Выгляд кляштараў, згодна з ордэнскімі канстытуцыямі, не павінен быў мець аніякіх празмернасцяў, адпавядаць сваім мэтам, а таксама звычаям і архітэктурным традыцыям мясцовасці і часу[27]. Канстытуцыі ордэну мелі распараджэнні адносна знешняга выгляду кляштараў. Кляштары на беларускіх землях ніколі не выглядалі бедна, што было немагчыма ў сувязі са значнасцю фундушаў, але ніколі не мелі вялікай колькасці прадметаў раскошы, калі не лічыць багатых бібліятэк, што не толькі было дазволена канстытуцыямі, але і заахвочвалася імі[28].

Звыклы дамініканскі кляштар быў двухпавярховым, меў як мінімум тры келлі, бібліятэку, рэфектар, 2 печы. У келлі дамініканіна знаходзіліся стол, крэсла, ложак, шафа. Прыёр мог займаць 2-3 больш багата абстаўленыя пакоі.

На беларускіх землях ордэн займаўся не толькі прапаведаваннем — дамінікане актыўна ўдзельнічалі ў адукацыйнай, культурнай, грамадска-палітычнай дзейнасці, у сферы аховы здароў'я і сацыяльнай апекі.

Душпастырская дзейнасць палягала перадусім на працы ў парафіях з-за недахопу дыяцэзіяльных святароў. Так, парафіі існавалі пры дамініканскіх касцёлах у Маляцічах, Полацку, Беліцы, Астроўне, Астраўцы, Галоўчыне, Смалянах, Дудаковічах, Забелах, Оршы і г.д.[29]. На тэрыторыі Мінскай губерні ў XIX ст. парафіі існавалі пры 9-ці з 14-ці дамініканскіх пляцовак. Парафій не мелі кляштары ў Дунілавічах, Мінску, Пінску, Заслаў'і, Клецку. Некаторыя кляштары забяспечвалі духоўныя патрэбы вернікаў не з адной, а з некалькіх парафій. Так рабілі, напрыклад, дамінікане Забельскага кляштара, абслугоўваючы, акрамя ўласнага, 5 іншых парафіяльных касцёлаў.

Дамініканскія парафіі былі дастаткова колькаснымі: Стаўбцоўская, напрыклад, налічвала 1267 чалавек (1804 г.), Хатаевіцкая — 1558 (1808 г.), Ракаўская – 2257 (1818 г.), Зембінская — 1001 чалавека (1829 г.).

Аб ступені заангажавання ў душпастырскую працу сведчыць таксама і працэнт святароў, якія мелі права спавядаць: у дамініканаў у 1773 г. гэты працэнт быў самы высокі сярод усіх ордэнаў. У Рускай правінцыі такую юрысдыкцыю мелі амаль усе святары, у Літоўскай – 82%. Гэтак жа выглядала справа і з наяўнасцю пастаянных прапаведнікаў: сярод дамініканаў перад падзеламі Рэчы Паспалітай іх налічвалася 338 чалавек, сярод бэрнардынаў — 251, сярод езуітаў — 200[30].

Адным з кірункаў душпастырскай дзейнасці была арганізацыя ружанцовых брацтваў і правядзенне місій. Ружанцовыя брацтвы існавалі пры кожным дамініканскім кляштары і касцёле. Іх дзейнасць была адной з формаў прапаганды марыйнага культу, характэрнага для ордэну. Права на заснаванне ружанцовых брацтваў мелі толькі дамінікане. У храме брацтва зазвычай мела свой алтар і фундуш. Асноўнай дзейнасцю членаў брацтва былі супольныя і прыватныя малітвы і харытатыўныя справы.

Не менш значным кірункам дзейнасці дамініканаў з'яўлялася правядзенне місій. Місіі, якія праводзілі члены ордэну ў парафіях, працягваліся ад двух да васьмі тыдняў і ахплівалі, у залежнасці ад мясцовасці, да дзясяткаў тысяч людзей. Для правядзення місій у парафію

прыбывала некалькі дамініканаў, вызначаных правінцыялам альбо капітулам. Яны праводзілі набажэнствы, прамаўлялі пропаведзі, навучалі парафіянаў праўдам веры і малітве[31].

Дамініканe распаўсюджвалі на тэрыторыі беларускіх земляў культ святых, якія належалі да іх ордэну: св. Дамініка, св. Гіяцынта, св. Кацярыны Сіенскай, св. Тамаша Аквінскага. На Беларусі значнае распаўсюджанне атрымаў культ св. Вінсэнта Ферэра: алтары з яго абразамі былі ў кожным дамініканскім касцёле, а ў Оршы абраз з яго выяваю знаходзіўся ў галоўным алтары. Развіццё гэтых культаў было адной з прычынаў, па якой дамініканскія храмы наведвала значная колькасць вернікаў.

Адукацыйная дзейнасць рэалізоўвалася дамініканамі ў двух кірунках: унутрыордэнскім і знешнім — утрыманне школаў для свецкіх асобаў). Кожны кляштар у той ці іншай ступені быў уключаны ў адукацыйную дзейнасць. Важную ролю ва ўнутрыордэнскай адукацыі адыгрывалі кляштары ў Мінску і Шклове, Гродне, Нясвіжы, Пінску, Забелах, Дзярэчыне[32].

Пры дамініканскіх кляштарах утрымліваліся і рознаўзроўневыя школы для свецкіх асобаў. Пасля забароны дзейнасці езуітаў у 1773 г. дамініканам была перададзена частка сярэдніх навучальных установаў, што раней належалі езуітам. Папулярнымі былі павятовыя школы і гімназіі дамініканаў у Забелах, Гродне, Навагрудку, Нясвіжы. Князь Адам Казімір Чартарыйскі, які ў першай чвэрці XIX ст. быў куратарам Віленскай навучальнай акругі, адзначаў, што: «Усё ж дамініканe і базыляне мелі найбольш колькасныя і найлепш забяспечаныя школы» (*пераклад з польск. аўт.*)[33]. Навагрудская павятовая школа была адной з самых буйных у Гродзенскай губерні. Сёння яна вядома перш за ўсё тым, што там атрымаў адукацыю Адам Міцкевіч. Навучанне ў ёй, як і ў іншых павятовых школах, праводзілася па праграме, зацверджанай Віленскім універсітэтам. У школе меліся выдатна забяспечаныя кабінеты фізікі і прыродазнаўства. У навучальным працэсе дапамагала і бібліятэка кляштара. У 1826 г. у школе налічвалася 9 настаўнікаў і 141 вучань. Існавала яна да 1831 года[34]. Парафіяльныя школкі існавалі амаль пры кожным кляштары (у Маляцічах, Беліцы, Астроўне, Смалянах, Дудаковічах, Княжыцах і г.д.). Дзейнасць Каталіцкага Касцёла ў сферы адукацыі была спынена пасля паўстання 1830–1831 гг.

**Касцёлы і кляштары ордэну на беларускіх землях**




Складальнік карты – Р. Зянюк, графічнае выкананне – В. Муская

Дамініканe не заставаліся ў баку і ад грамадска-палітычных падзей. Незадаволенасць каталіцкага духавенства змяненнем свайго становішча пасля падзелаў Рэчы Паспалітай праявілася ў стварэнні імі тайных арганізацый. У 1796 г. была створана Віленская асацыяцыя, сярод удзельнікаў якой быў прыёр віленскіх дамініканаў кс. Ф. Цяцерскі[35]. У 1797 годзе Ф. Цяцерскі быў асуджаны на катаргу, але Паўлам І гэтая мера была замененая на высылку ў Нерчынск.

Дамініканe ўдзельнічалі ў паўстаннях 1830–1831 і 1863–1864 гг. У. Заеўскі пісаў, што «на Літве патрыятычным стаўленнем адрозніваліся законнікі, асабліва з жабрачых ордэнаў, такіх як дамініканe, кармэліты, бэрнардыны, францішкане»[36]. Падчас падрыхтоўкі і правядзення паўстання 1830–1831 гг. у касцёлах зачытваліся дакументы паўстанцаў, некаторыя святары змагаліся ў іх атрадах[37]. Дамініканін Людвік Барталамей Ясіньскі ў касцёльным убранні са стулаю на грудзях і з крыжам у руках заклікаў народ да зброі. 14 красавіка ён удзельнічаў у абароне Ашмянаў, пасля, як капелан 12-га палка ўланаў, дзяліў з паўстанцамі ўсе трыумфы і паражэнні. Быў арыштаваны і сасланы ў Сібір[38].

Святары былі ініцыятарамі збору ахвяраванняў на патрэбы паўстання. Вядома, што ў Друйскім дамініканскім кляштары падчас паўстання 1830–1831 гг. рыхтавалі зброю для паўстанцаў, што і стала прычынаю касацыі кляштара ў 1832 годзе. Звесткі аб

удзеле каталіцкага духавенства ў паўстанні сталі прычынай для М. Мураўёва даслаць імператару запіску з прапановаю аб пераводзе католікаў з-пад улады Папы Рымскага пад уладу імператара. Пасля атрымання гэтай запіскі Мікалай I пагадзіўся з прапановаю Мураўёва скасаваць частку кляштараў. Дамінікане страцілі свае кляштары ў Заслаўі, Друі, Дзярэчыне, Галоўчыне, Шклове, Княжыцах, Крычаве, Смалянах, Беліцы, Дудаковічах і іншых мясцовасцях.

Актыўнасць удзелу каталіцкага святарства ў паўстанні 1863–1864 гг. бачная па колькасці клеру сярод асуджаных, у тым ліку і на смяротнае пакаранне. У 1863 г. смяротны прысуд атрымалі 8 святароў. Сярод іх быў 56-гадовы дамініканін Тэафіл Рачкоўскі, якога арыштавалі падчас бітвы каля в. Палішкі 5 (17) жніўня 1863 года. У якасці меры пакарання яму быў вызначаны расстрэл, здзейснены 11 жніўня 1863 года[39].

Дамінікане былі неабыякавымі да справы уніі на беларускіх землях. У адной з келляў віцебскага дамініканскага кляштара часова пражываў Язафат Кунцэвіч[40]. Дамінікане Забельскага кляштара на тэрыторыі сваёй парафіі ўласным коштам пабудавалі ўніяцкую царкву і прызначылі на яе ўтрыманне пэўную суму грошай. У 1811 г., калі стан царквы пагоршыўся, стараннямі тагачаснага прыёра Забельскага кляштара яна была адрэстаўравыная. Калі ўніятаў пераводзілі ў праваслаўе, у Забелах да 1837 г. яны змагаліся за захаванне сваіх пазіцый, у чым полацкім праваслаўным архіепіскапам Васілём Лужынскім былі абвінавачаны дамінікане. Менавіта дамінікане, па словах В. Лужынскага, сваёй дзейнасцю падтрымлівалі унію. Аб гэтым жа сведчыў епіскап Полацкі і Віленскі Ісідор, адзначаючы ў сваіх лістах, што 52 забельскіх дамініканіна, якія маюць парафію і мноства капліцаў на яе тэрыторыі, куды горнуцца ўніяты, спрычыняюцца да развіцця уніі і да супрацiўлення распараджэнням ураду[41]. У 1840 г. разглядалася справа «о противозаконных поступках забельских ксендзов доминикан». Заключалася яна ў тым, што частка свалнянскіх прыхаджанаў (былых уніятаў) не жадала прымаць праваслаўе і перайшла ў каталіцтва. На ўсе звароты праваслаўнага духавенства свалнянскія прыхаджане заяўлялі, што «вера наша ёсць толькі адна <...>, і мы яе ніколі не пакінем», або што «вера ваша руская ўсё роўна як жыдоўская»[42], і лічылі за грэх хадзіць у царкву. У тым, што склалася такое становішча, былі абвінавачаныя дамінікане Забельскага кляштара[43].

Сярод членаў дамініканскага ордэну былі навукоўцы, педагогі, мастакі, архітэктары. Вядома, напрыклад, прозвішча Адама Аўгустына Яцыны (1785–1822 гг., нарадзіўся на Віцебшчыне), выкладчыка дамініканскіх школ у Гродне і Наваградку (1809–1810 гг.), дзе яго вучнем быў Адам Міцкевіч. Навучанню лацiне ў школе ён прысвяціў сваю працу *Observationes de studio linguae latinae*. Дунілавіцкі прапаведнік Антоні Клімашэўскі (1758–1827 гг.) з'яўляўся аўтарам надрукаваных дыспутаў *Aktas scholastcus publicus*. Фаўст Цяцерскі (1760–1833 гг.) у 1818–1824 гг. выконваў абавязкі візітатара дамініканскіх школаў у Літве. Яго «Дзённік візітатара» («Дневник визитатора доминиканских монастырей Северо–Западного края») за 1821–1832 гг. быў надрукаваны Віленскай археаграфічнай камісіяй. Пазней ён займаўся гісторыяй Літоўскай правінцыі, напісаўшы пра яе другі том — *Historia domestica Provinciae Lithvanae Ordinis Praedicatorum. Pars altera Anno, 1824*.

Пры кожным дамініканскім кляштары існавалі багатыя бібліятэкі. У Мінскай губерні гэта былі кнігазборы, колькасць тамоў у якіх дасягала ад 28-мі (у Хатаевіцкім кляштары) да 1200 кніг (у Нясвіжскім канвенце). Пінскі кляштар меў у сваёй бібліятэцы 410 кніг у 521-м томе, 324 тамы налічвала бібліятэка Мінскага кляштара, 261 — Заслаўскага, 168 — Дунілавіцкага, 251 — Друйскага, 173 працы ў 218-ці тамах меў Халопеніцкі кляштар, 62 — Клецкі[44].

Значную ўвагу дамінікане ўдзялялі развіццю музычнай культуры. У Забелах і Пінску яны ўтрымлівалі музычныя школы. Кожны дамініканскі касцёл меў арган, чаго не маглі сабе дазволіць многія парафіяльныя касцёлы альбо касцёлы, што належалі іншым манаскім ордэнам. Члены ордэну падчас фармацыі абавязкова вывучалі музыку.

Ордэн дамініканаў ніколі мэтанакіравана не быў заангажаваны ў справу арганізацыі аховы здароў'я і сацыяльную службу. Утрыманнем шпіталяў і хворых, згодна з уласнымі канстытуцыямі, займаліся прадстаўнікі іншых манаскіх супольнасцяў, але пры кожным кляштары дамініканаў утрымліваўся шпіталь — дакладней, невялікія прытулкі для бедных, старых, бяздомных і хворых[45]. Такога роду шпіталі існавалі пры кляштарах дамініканаў у Стоўбцах, Зембіне, Ракаве, Друі, Халопенічах, Дунілавічах. Так, у 1818 г. дамінікане Друйскага кляштара па ўласнай ініцыятыве давалі прытулак 9-ці бедным[46]. Былі выпадкі пражывання старых і бедных людзей непасрэдна пры кляштары, калі спецыяльнай пабудовы для іх не існавала, а фундушу на іх утрыманне не прадугледжвалася. Такім чынам утрымліваліся 4 асобы пры Халопеніцкім кляштары[47].

З фундушавага абавязку шпіталь утрымліваўся пры кляштары ў Дунілавічах, дзе быў пабудаваны будынак для 7-мі бедных. На іх утрыманне Дунілавіцкі двор выдзяляў па 7 кашуляў, бочцы жыта і палове бочкі ячменю, а з маёнтка Лучай — па 15 рулонаў сукна штогод. Акт візітацыі 1818 г. зазначае, што, нягледзячы на пажар 1812 г., пасля якога шпіталь згарэў, будынак быў адноўлены і нагляд за хворымі быў належны[48].

Першапачаткова ордэн прапаведнікаў быў заснаваны як жабрацкі, г.зн. не мог мець аніякай уласнасці і павінен быў існаваць выключна за кошт міласціны. Але Марцін V у 1425 г. і Сікст IV буламі 1475 і 1477 гг. дазволілі ордэну мець ва ўласнасці зямлю і сталыя крыніцы даходу.

Такім чынам, ад моманту атрымання фундушу ордэн і яго кляштары ўключаліся ў эканамічныя і гаспадарчыя адносіны. Маючы ва ўласнасці пэўную колькасць зямлі, залежных сялянаў, населеныя пункты, прадпрыемствы, члены ордэну станавіліся адказнымі за захаванне і памнажэнне гэтай уласнасці. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у дачыненні да ўсіх сфераў жыццядзейнасці неправаслаўных канфесій былі выдадзены розныя ўказы, прадпісанні і палажэнні. У 1795 г. «определено было настоящее значение духовных имуществ: все они, как движимые, так и недвижимые, числившиеся за белым ли или монашествующим духовенством, признаны общим достоянием духовенства, а не принадлежностью отдельных церквей и монастырей <...> сообразно с этим <...> запрещено монастырям продавать их, дарить и выменивать, а епископам вменено в обязанность наблюдать, чтобы церковная собственность не была расточаема»[49]. Аднак каталіцкія кляштары і духавенства з'яўляліся землеўласнікамі да 1842 г., калі іх маёмасць была перададзена ў ведамства Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў, а капіталы духавенства — у Міністэрства ўнутраных справаў і фінансаў з прызначэннем духавенству штатнага ўтрымання замест прыбытку, які яны атрымлівалі са сваіх уладанняў[50].

Колькасць кляштараў каталіцкіх ордэнаў зменшылася ў сувязі з грамадска-палітычнымі падзеямі ў XIX ст. Першая хваля касацыі кляштараў згодна з урадавымі пастановамі распачалася пасля падаўлення паўстання 1830–1831 гг. На беларуска-літоўскіх і ўкраінскіх землях было скасавана 58 дамініканскіх кляштараў. У 1832 г. было скасавана 32 кляштары. У перыяд паміж паўстаннямі (1833–1862 гг.) Ордэн прапаведнікаў страціў яшчэ 6 кляштараў. Адразу пасля паўстання 1863–1864 гг. былі скасаваны 3 кляштары. Апошні дамініканскі кляштар на Беларусі быў скасаваны ў 1875 г. у Нясвіжы.

---

1 Brzozecki S. Litewska prowincja dominikanów // Dominikanie. Gdańsk – Polska – Europa / red. D.A. Dekański, A. Golembnik, M. Grubka. – Gdańsk –Pelplin. – S. 141; Вялікае княства Літоўскае: у 2 т. / рэдкал. Г. Пашкоў [і інш.]. – Мінск, 2005 - 2007. – Т. 1 – С. 446.
2 Міндаў, кароль Літовіі ў дакумэнтах і сьведчаннях. / Укл. А. Жлутка. Менск, 2005. – С. 109.
3 Brzozecki S. Litewska prowincja dominikanów. – S. 141.
4 Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-западного края. – Санкт-Петербург, 1890. – С. 67.
5 Podręczna encyklopedya kościelna (PEK) – T. 9-10: D-E. – S. 88.
6 Brzozecki S. Litewska prowincja dominikanów. – S. 142.
7 PEK. – T. 9-10: D-E. – S. 88.
8 Brzozecki, S. Misje ludowe Dominikanów prowincji Litewskiej w latach 1751 – 1826: praca doktorska. – Lublin, 2005. – S. 51.
9 PEK. – T. 9-10. – S. 88.
10 Brzozecki S. Litewska prowincja, s. 143.
11 PEK. – T. 9-10. – S. 87.
12 Spież J.A. Dominikanie w Polsce // Dominikanie. Szkice z dziejów zakonu / red. M.A. Babraj. – Poznań, 1986. – S. 272.
13 Spież J.A. Dominikanie w Polsce. – S. 273.
14 Brzozecki S. Litewska prowincja dominikanów. – S. 146-148.
15 Wołyniak. Wykaz klasztorów Dominikańskich prowincji Litewskiej. – S. 1-2.
16 Brzozecki S. Litewska prowincja dominikanów. – S. 153.
17 Brzozecki S. Litewska prowincja dominikanów. – S. 153.
18 Никотин И.А. Столетний период (1772–1872) русского законодательства в воссоединённых от Польши губерниях и законодательство о евреях (1649–1876): в 2 т. – Вильно, 1886. – 2 т. – С. 194-203, Толстой Д. А. Римский католицизм в России.: ист. исслед.: в 2 т. – Санкт-Петербург, 1876. – 2 т.
19 Brzozecki S. Misje ludowe Dominikanów prowincji Litewskiej. – S. 68-69.
20 Spież J.A. Dominikanie w Polsce. – S. 296.
21 Brzozecki S. Misje ludowe Dominikanów. – S. 64.
22 Gwiazda H. Fundacje i fundatorzy klasztorów dominikańskich w Wielkim Księstwie Litewskim w latach 1648 – 1696 // Studia nad historią dominikanów w Polsce 1222-1972: w 2 t. / red. J. Kłoczowskiego. – T. 1. – Warszawa, 1975. – S. 626.
23 Gwiazda H. Fundacje i fundatorzy. – S. 630-634.
24 Brzozecki S. Misje ludowe Dominikanów. – S. 64.
25 Borejko Chodźko, I. Diecezja Mińska około 1830 r. : w 2 cz. – Lublin, 1998. – Cz. 2 Struktury zakonne. – S. 43.
26 Архітэктура Беларусі: нарысы эвалюцыі ва ўсходнеславянскім і еўрапейскім кантэксце: у 4 т. / рэдкал. А.І. Лакотка [і інш.]. – Мінск, 2005 – 2006. – Т.2. – С. 293
27 Księga Konstytucji i zarządzeń braci zakonu Kaznodziejów.–Poznań, 2003. – 150 s.
28 Księga Konstytucji...
29 Brzozecki S. Misje ludowe Dominikanów prowincji Litewskiej. – S. 66.
30 Spież J.A. Dominikanie w Polsce. – S. 287.
31 Brzozecki S. Litewska prowincja dominikanów. – S. 155.
32 Świętochowski R. Szkolnictwo teologiczne dominikanów. – Kraków, 1977. – S. 2-4.
33 Rękopisy z Archiwum Kuratorii ks. Adama Czartoryskiego // Бібліятэка Віленскага Універсітэта. – F 2. – KC 31. – k. 33.
34 Rękopisy z Archiwum Kuratorii ks. Adama Czartoryskiego. – k. 576.
35 Канфесіі на Беларусі. – С. 22.
36 Zajewski W. Powstanie listopadowe 1830 – 1831. Polityka-wojna-dyplomacja. Toruń, 2002.– S. 189.
37 Канфесіі на Беларусі. – С. 25.
38 Świętochowski R. Wkład kulturalny. – S. 31.
39 Rok 1863 / Red. W. Studnicki. – Warszawa, 1977 (Wileńskie źródła archiwalne). – S. 93.
40 Кулагін А.М. Каталіцкія храмы на Беларусі. – С. 171.
41 Wołyniak. Wykaz klasztorów Dominikańskich prowincji Litewskiej. – S. 316.
42 Цыт. па: Канфесіі на Беларусі (к. XVII–XX ст.). – С. 28.
43 Канфесіі на Беларусі (к. XVII–XX ст.). – С. 28.
44 Pidłypczak-Majerowicz M. Inwentarze bibliotek klasztornych w białoruskich zbiorach archiwalnych i bibliotecznych w Mińsku. – Warszawa, 2006. – S. 14.
45 Świętochowski R. Wkład kulturalny Zakonu Kaznodziejskiego. – S.13.
46 НГАБ. – Фонд 1781. – Воп. 27. – Спр. 355. – арк. 11 адв.
47 НГАБ. – Фонд 1781. – Воп. 27. – Спр. 355. – арк. 3 адв.
48 НГАБ. – Фонд 1781. – Воп. 27. –Спр. 355. – арк. 19.
49 Толстой Д. А. Римский католицизм в России. – С. 117.
50 Католическая Церковь накануне революции 1917 г. Сборник документов / Сост. и отв. ред. М. Радван. – Люблин, 2003. – С. 47.




Абраз благаслаўлёнага Віта
з Віленскага мастацкага музея.

Алесь Жлутка

# БЛАГАСЛАЎЛЁНЫ ВІТ — ПЕРШЫ БІСКУП ЛІТВЫ-БЕЛАРУСІ: ПРАЗ ЦЕРНІ ДА СВЯТАСЦІ

У ранняй гісторыі Касцёла ў Літве-Беларусі дасюль застаецца шмат нерасчытаных старонак. Некаторыя паглынутыя часам падзеі і постаці толькі сёння пачынаюць, нібы прывіды, паўставаць з імглы стагоддзяў. Быццам знічкі на небасхіле, яны на імгненне загарэліся і згаслі, каб потым прадоўжыць свой шлях ужо ў іншай нябачнай сутнасці.

Такі лёс напаткаў і нашага першага легітымнага, засведчанага пісьмовымі крыніцамі і называнага святым, біскупа Віта з ордэну дамініканаў. Нам невядома, дзе і калі ён нарадзіўся, дзе вучыўся і выхоўваўся, калі і як памёр. Толькі пункцірна, абапіраючыся на нешматлікія дакументы і сціслыя паведамленні храністаў, няпэўныя звесткі агіяграфічных твораў, мы можам паспрабаваць узнавіць яго жыццярыс.

Асабліва цьмяным застаецца жыццё Віта да прыняцця біскупскай сакры. Толькі ў другой палове XIII ст. яго імя з'яўляецца на старонках дакументаў і хронік. І адбылося гэта ў сувязі з узнікненнем на нашых землях магутнай сярэднявечнай дзяржавы. У канцы 40-х – пачатку 50-х гадоў XIII ст., але не раней за ліпень 1251 г., прымае хрост наваградскі князь Міндаў і, уклаўшы дамову з Нямецкім ордэнам у Лівоніі, пасылае да папы Інацэнта IV паслоў з просьбаю аб каранацыі на караля Лютовіі і прызначэння для ягонай дзяржавы біскупа. Прыгадайма, што Літвой (у дакументах: Лютовіяй, Літовіяй ці Летовіяй) называлася наша тэрыторыя да гвалтоўнага ўлучэння ў склад Расійскай імперыі, пасля чаго назва «Літва» стала таксама ўжывацца ў дачыненні да суседняй балцкай краіны, якая раней была Жамойцю. 15, 17 і 26 ліпеня 1251 г. Папа выдае, вітаючы князя з прыняццем хросту і ідучы насустрач ягоным просьбам, шэсць булаў, у якіх бярэ яго і ягоную краіну пад апеку і абарону Святога Пасаду, даручаючы біскупу Кульма ў Прусіі (сёння Хэлмна ў Польшчы) дамініканіну Гайдэнрыку каранаваць Міндава на караля Літовіі, а таксама выбраць вартую асобу і высвяціць яе на біскупа краіны, папярэдзіўшы гэтага біскупа і святароў пра неабходнасць быць памяркоўнымі пры збіранні дзесяціны ў будучай дыяцэзіі. У чацвёртай буле ад 17 ліпеня, скіраванай да Кульмскага біскупа, папа Інацэнт IV дае яму такія наказы:

«Давяраючы тваёй абазнанасьці, даручаем табе моцаю гэтага ліста паставіць нашай уладаю мужа дастойнага і разважлівага, дасьведчанага ў духовых і сьвецкіх справах, пры-

---

**Алесь ЖЛУТКА** — кандыдат філалагічных навук (абараніў дысертацыю па лацінскай паэзіі Беларусі эпохі Асветніцтва). Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Заполле на Магілёўшчыне. Падрыхтаваў да выдання кнігу дакументаў і сведчанняў «Міндаў — кароль Літовіі» (Мінск, 2005). У яго перакладзе на беларускую мову друкаваліся паэзія Гарацыя, байкі Эзопа і творы анакрэотыкаў. Займаецца даследаваннем ранняй гісторыі Касцёла на Беларусі, беларускай анамастыкай.

датнага для пантыфікальнага абавязку і годнасьці, біскупам і пастырам памянёнай Літовіі ды, заклікаўшы да сябе двох ці трох біскупаў, удзяліць яму дар пасьвячэньня. Але перш памянёны кароль [павінен] вызначыць яму найлепшы надзел зямлі для заснаваньня катэдральнага касьцёла, ды належныя і годныя ўпасажаньні. Мы хочам, каб яму было дазволена, у зручны для сябе час, наведаць зямлю гэтага караля і выканаць там усё, што павінен выконваць біскуп. Урэшце, пасьля таго як памянёны біскуп, які з нашай волі мае падпарадкоўвацца толькі рымскаму пантыфіку, згодна са зьместам нашага даручэньня будзе пастаўлены, вазьмі ад яго прысягу звычайнай вернасьці на імя нашага і Рымскага Касьцёла паводле формы, якую мы дасылаем табе запячатанаю пад нашай булаю»[1].

Са зместу дакумента вынікае, што кароль браў на сябе абавязак перад высвячэннем біскупа забяспечыць яго ўсім неабходным для заснавання і функцыянавання біскупскай катэдры і дыяцэзіі. Будучы біскуп павінен быў наведаць зямлю караля. Ён меўся падпарадкоўвацца наўпрост Пантыфіку і скласці яму прысягу вернасці.

Справа каранацыі і высвячэнне біскупа, аднак, здзейсніліся не так хутка з розных прычынаў, і, магчыма, перадусім з-за супрацьдзеяння арцыбіскупа Лівоніі і Прусіі Альберта, які меў свае планы адносна будучага біскупа. Каранацыя адбылася толькі ў ліпені 1253 г. у Навагрудку ці ў яго ваколіцах. У тым жа годзе быў высвечаны таксама і першы наш біскуп, дамініканін Віт. Пра гэтую падзею апавядаюць польскія хронікі XIII ст. У Хроніцы Богухвала і Гадзіслава Паска паведамляецца: «У тым жа годзе (1253) былі пасвячоныя вялебным Пэлкам, Гнёзненскім арцыбіскупам, Пазнанскі элект Пётр і першы біскуп літвінаў брат Віт з Ордэну прапаведнікаў»[2]. Другая хроніка — «Вялікапольскі гадавік», удакладняе: «У тым жа годзе (1253) у вёсцы князя Земавіта Казлове быў высвечаны на біскупа Пазнанскі элект Пётр. Таксама ў тым жа годзе быў пастаўлены першы біскуп у Літовію брат Віт з Ордэну прапаведнікаў і там жа ў Казлове быў высвечаны разам з Пятром»[3]. Відаць, гэтае высвячэнне закранула інтарэсы незадоўга перад тым пастаўленага Папам арцыбіскупа Лівоніі і Прусіі Альберта, які прэтэндаваў на духоўную ўладу над дзяржаваю Міндава, бо 24 чэрвеня таго ж 1253 г. папа Інацэнт IV ужо яму дае наказ паставіць для гэтай дзяржавы біскупа, такі ж, як даваў два гады перад тым Кульмскаму біскупу:

«Найдаражэйшы ў Хрысьце сын наш [Міндаў], найясьнейшы кароль Летовіі, нованавернуты да хрысьціянскае веры, горача жадае, як паведамляюць, каб у ягоных краёх была біскупская сядзіба, больш за тое, ён гатовы на свае сродкі збудаваць катэдральны касьцёл і шчодра ўпасажыць яго дзеля славы і хвалы Божае. Таму мы, схіляючыся да яго пабожных жаданьняў, даручаем гэтым апостальскім лістом табе, брату нашаму, да якога маем асаблівы давер, паставіць нашаю ўладаю, калі пра гэта будзе прасіць кароль, разважлівую, дасьведчаную ў духовых і сьвецкіх справах ды прымальную для памянёнага караля асобу на біскупа і пастыра і, далучыўшы да сябе двох ці трох біскупаў, удзяліць яму дар пасьвячэньня. Зрабі так, каб падданыя выявілі яму належную пашану і паслухмянасьць, а пасьля гэтага вазьмі ад яго для нас і Рымскага Касьцёлу прысягу звычайнай вернасьці згодна з формай, якую высылаем табе запячатанай пад нашаю булаю»[4].

У другім сваім лісце ад 21 жніўня 1253 г. Папа канкрэтызуе свой наказ, даручаючы Альберту паставіць на просьбу караля Міндава біскупам Летовіі «брата Хрысціяна, прэзбітэра Нямецкага ордэну»[5]. Арцыбіскуп высвяціў Хрысціяна, але ўзяў ад яго прысягу на вернасць сабе, таму двума новымі лістамі ад 3 верасня 1254 г. Міндаву і Хрысціяну Інацэнт IV вызваляе апошняга ад прысягі, дадзенай Альберту:

«Схіліўшыся да просьбаў тваёй сьветласьці, мы далі нашым лістом у адпаведнай форме даручэньне вялебнаму брату нашаму арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі на тваё запатрабаваньне а нашай уладаю паставіць пастырам на катэдральны касьцёл, які ты ў сваіх краёх намерваўся наноў узьвесьці ўласным коштам і шчодра ўпасажыць, вялебнага брата нашага Хрысьціяна, біскупа Летовіі, а ў той час брата прэзьбітэра шпіталю сьвятой Марыі Нямецкага ордэну ў Лівоніі, і ўдзяліць яму дар пасьвячэньня, а таксама ўчыніць, каб падданыя выявілі яму належную паслухмянасьць і пашану, ды ўзяць пасьля ад яго прысягу звычайнай вернасьці для нас і Рымскага Касьцёлу паводле формы, якую мы даслалі яму ж запячатанай пад нашаю булаю. Але той жа арцыбіскуп, перш чым да яго дайшоў наш ліст, паставіў таго ж Хрысьціяна на памянёны касьцёл, узяўшы ад яго прысягу вернасьці сабе і свайму касьцёлу, хоць гэта ніякім чынам не ўваходзіла ў нашыя намеры, тым больш што зямля Летовіі знаходзіцца ў юрысдыкцыі і ўласнасьці сьвятога Пятра, і дзеля пашаны да тваёй высокасьці мы хочам, каб там быў біскуп падпарадкаваны нікому іншаму, як толькі Рымскаму пантыфіку. А паколькі потым у сваім поўным павагі лісьце ты папрасіў, каб мы з абачлівасьцю апостальскага пасаду паклапаціліся пра гэта, мы, схіляючыся да тваіх просьбаў, пастанаўляем, што той жа біскуп не павінен ні ў якай меры захоўваць згаданую прысягу, дадзеную такім чынам



Ліст біскупа Віта ад 29 верасня 1257 г. з адпустам для францішканаў у Клодзку. Вроцлаў, Дзяржаўны гістарычны архіў.

памянёнаму арцыбіскупу»[6].

У той жа дзень трэці ліст з падобным зместам Пантыфік скіраваў таксама Наўмбургскаму біскупу, які павінен быў узяць ад новапастаўленага біскупа прысягу на вернасць Папу[7]. Як бачна з гэтых дакументаў, арцыбіскуп Альберт дамагаўся падпарадкаваць касцёльную арганізацыю ў Літве-Беларусі сваёй юрысдыкцыі. Мабыць, зважаючы на гэтыя памкненні Альберта, для кансэкрацыі біскупа Віта быў пакліканы як роўны ці нават вышэйшы ў статусе арцыбіскуп, Гнёзненскі мітрапаліт Пэлка, хоць даручэнне на гэтую кансэкрацыю было раней дадзенае Кульмскаму біскупу Гайдэнрыку, які каранаваў Міндава. Такім чынам, амаль адначасна для нашай дзяржавы былі прызначаныя два біскупы, за якімі, відаць, стаялі два канкуруючыя бакі: Гнёзненская мітраполія, якая імкнулася пашырыць свае межы на ўсход, і новае арцыбіскупства Лівоніі і Прусіі, якое ў 1255 г. таксама набудзе статус мітраполіі з сядзібаю ў Рызе і таксама ўжо ад пачатку будзе прэтэндаваць на пашырэнне сваіх межаў на ўсходнеславянскія абшары. Магчыма, не ў апошнюю чаргу і гэтая акалічнасць змусіць неўзабаве біскупа Віта звярнуцца да Папы з просьбаю аб вызваленні ад біскупскага абавязку на нашых землях.

Пад 1254 годам польскія хронікі змяшчаюць паведамленне пра беатыфікацыю Кракаўскага біскупа і мучаніка Станіслава. На ўрачыстасць абвяшчэння беатыфікацыі і ўзняцця рэліквіяў у Кракаў сабраліся князі польскіх земляў, сярод якіх быў і памянёны мазавецкі князь Земавіт, духавенства: папскі легат абат Мезаны, Апізо, Гнёзненскі арцыбіскуп Пэлка, многія польскія біскупы, а таксама «Віт, першы біскуп Літоўскі з Ордэну прапаведнікаў, Герард — першы біскуп Русі з Ордэну цыстэрцыянцаў, калісьці абат у Апатаве»[8].

А ўжо праз год, 1 сакавіка 1255 г., новы папа Аляксандр IV на просьбу Віта вызваляе яго ад абавязкаў біскупа, пакідаючы тытул: «[Аляксандр, біскуп, слуга слугаў Божых, вялебнаму брату] Віту, былому біскупу Літовіі, [збаўленне і апостальскае благаслаўленне]. Нияк ты настойліва прасіў нас, адмаўляючыся не ад годнасці, а ад месца, каб мы прынялі твой адыход. Параіўшыся з нашымі братамі, мы, хоць і неахвотна, спаўняем гэтае тваё жаданне і праз вялебнага брата нашага Тускулянскага біскупа ад нашага імя прымаем твой адыход ад пантыфікальнага абавязку, але не годнасці»[9].

Пасля 1255 г. наш біскуп знікае з поля зроку пісьмовых крыніцаў, каб з'явіцца зноў праз два гады спачатку на чэшска-мараўскіх, а затым на польскіх землях. Так, 29 верасня 1257 г. ужо як «былы Літоўскі біскуп» ён удзяліў адпуст францішканскай капліцы ў Клодзку, якую папярэдне асвяціў[10] і ў тым жа годзе ўчыніў тое ж самае для касцёла дамініканаў у Оламаўцу[11]. Яшчэ праз два гады, у 1259 г., такі ж прывілей атрымаў ад яго дамініканскі касцёл у мараўскім Брне[12], а ў 1260 г. парафіяльны касцёл у Шпротаве ў польскай Сілезіі[13]. 29 чэрвеня 1262 г. ён у прысутнасці Познаньскага біскупа Багухвала і Любушскага біскупа Вільгельма асвяціў прэзбітэрый катэдры св. Пятра і Паўла ў Познані і ўдзяліў з гэтай нагоды адпуст[14]. Крыху пазней, 5 лістапада таго ж 1262 г., атрымаў ад яго адпуст таксама касцёл св. Міхала ў Вроцлаве[15]. Апошняя прыжыццёвая згадка пра біскупа Віта датаваная 20 красавіка 1263 г., калі ён асвяціў касцёл у гонар Усіх Святых і святога мучаніка Лаўрэнцыя ў Глуўнай[16]. Пасля гэтага след яго прападае. Паводле дамініканскай традыцыі апошнія гады жыцця Віт правёў у Кракаве, дзе нібыта быў спаведнікам князя Баляслава Сарамлівага. Толькі пад 1269 г., ужо пасля смерці і ў сувязі з яго культам, з'яўляецца паведамленне ў «Жыцці святога Яцка», напісанага ў XIVст. кракаўскім лектарам Станіславам[17]. Пазней, відаць зыходзячы з гэтай даты, пачалі лічыць, што біскуп развітаўся з гэтым светам менавіта ў 1269 годзе. У памінальнай кнізе дамініканскага канвенту ў Кракаве *NEKРОГРАФІА seu OBITUS fratrum... Ordinis nostri* дзень ягонай смерці аднесены да 24 траўня без указання года. Запіс паведамляе: «*D. Vitus episcopus Lithiviensis alias Lithuaniae frater Ordinis hic sepultus et beatus dictus*» (Святы Віт, біскуп Літыўскі, іначай Літвы, брат Ордэну, тут пахаваны і названы благаслаўлёным). Іншаю ру-



Любча. Мастацкая рэстаўрацыя Паўла Татарнікава.

кою дапісана: «*Martyrenimest*» («Бо ён мучанік»)[18]. Біскуп Віт быў пахаваны ў дамініканскім касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Кракаве побач са св. Яцкам Адрованжам, ягоным паплечнікам ці настаўнікам. Як піша ў сваёй «Гісторыі польскай літаратуры» Міхал Вішнеўскі, у кракаўскім кляштары дамініканаў захоўвалася копія ліста біскупа Віта да папы Інацэнта IV: «*Dechristianorum in Lithovia conditione doplorabili, ad sanctissimum et beatissimum patrem dominum Innocentium papam quartum, fratris Vitide Ordine Praedicatorum episcopi Litoviensis, epistola*» («Пра плачлівы стан хрысціянаў у Літовіі, ліст да найсвяцейшага і благаслаўлёнага айца пана Інацэнта чацвёртага, Папы, брата Віта з Ордэну прапаведнікаў, Літоўскага біскупа»[19]. На вялікі жаль, гэты дакумент не захаваўся да нашага часу, бо, верагодна, быў знішчаны пажарам, які ахапіў Кракаў у 1850 годзе. Мабыць, на яго абапіраўся дамініканскі гісторык Абрагам Бзоўскі, калі пісаў пра місію Віта ў Літве-Беларусі і пра апошнія гады ягонага жыцця: «Благаслаўлёны Віт з Ордэну прапаведнікаў ... рупліва працаваў для навяртання паганскіх літвінаў. Таму ён быў пастаўлены Інацэнтам чацвёртым першым біскупам для гэтага народу, нядаўна ім ахрышчанага. Ад іх жа, калі неўзабаве яны разам з каралём Мендагам вярнуліся да аблуды і шанавання ідалаў, ён зазнаў жахлівыя крыўды і нягоды, ды нават быў паранены і нарэшце прагнаны. Вярнуўшыся ў Кракаў, у 1254 г. ён разам з арцыбіскупам і Герардам, ды іншымі біскупамі ўзяў удзел у той урачыстасці, калі былі ўзнятыя з труны, пранесеныя ва ўрачыстай працэсіі і выстаўленыя для публічнага ўшанавання рэліквіі цела святога Станіслава, біскупа і мучаніка, незадоўга перад тым далучанага Інацэнтам чацвёртым да ліку святых. Нарэшце, калі быў у Кракаве і думаў вярнуцца да даручанага яму статку, упаў у цяжкую хваробу, і, прадбачыўшы канец жыцця, умацаваны Найсвяцейшымі Сакрамэнтамі згодна з хрысціянскім абрадам, перасяліўся з зямной да нябеснай бацькаўшчыны з найвялікшым перакананнем усіх у ягонай святасці, якую выявіў вялікімі цудамі, учыненымі перад ягонымі рэліквіямі, пахаванымі ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Кракаве»[20].

Такія нешматлікія і недастаткова пэўныя звесткі пра жыццё і дзейнасць біскупа Віта тым не менш далі спажыву розным здагадкам і гіпотэзам. Зыходзячы з імені, мяркуюць, што месцам яго нараджэння можа быць краіна, дзе быў пашыраны культ Віта — раннехрысціянскага святога і мучаніка. Святы Віт, які амаль ад самага нараджэння чыніў цуды, навяртаў паганцаў, вылечваў хворых, у тым ліку і хворых псіхічна, пасля адмовы зрачыся веры ў Хрыста, быў у дзіцячым веку (у 7 ці 12 гадоў) замучаны на загад Рымскага імператара Дыяклецыяна. Адбылося гэта каля 303 года. З Сіцыліі, дзе нарадзіўся і жыў святы, ягонае шанаванне паступова пашыралася ва ўсёй Еўропе. З 837 г. галоўным еўрапейскім асяродкам культу мучаніка стаў вядомы сваёй апостальскай працаю ў навяртанні палабскіх славянаў бэнэдыктынскі кляштар Новая Карбея ў Саксоніі, куды з кляштара бэнэдыктынаў Сэн-Дэні пад Парыжам перанеслі яго мошчы. Манахі бэнэдыктыны з гэтага кляштара, з якога выйшаў і Апостал Поўначы св. Ансгар, пашырылі культ Віта на поўнач і ўсход. У X ст. Багемскі герцаг Вячаслаў атрымаў адтуль руку святога і заснаваў у Празе касцёл, пазней знакаміты сабор св. Віта. Папулярным быў святы і ў Польшчы. Святы Віт з'яўляецца апекуном-патронам Саксоніі і абацтва Новай Карбеі, многіх баварскіх і аўстрыйскіх гарадоў, Чэхіі і горада Прагі, а таксама акцёраў, аптэкараў, эпілептыкаў і істэрыкаў, хворых на вочы.

Лічыцца, што наш Віт быў славянінам, а больш дакладна, чэхам ці палякам. Як аргумент на



Дамініканскі касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў Кракаве.

карысць гэтага даюцца спасылкі на дакументы пра ягонае прабыванне на чэшска-мараўскай тэрыторыі і ў польскай Сілезіі пасля адыходу з пасады біскупа Літовіі, а таксама на побыт і пахаванне ў Кракаве. Але, калі наш біскуп быў названы ў гонар сіцылійскага Віта, то з гэткай жа верагоднасцю можна дапусціць, што ён паходзіў з усходнеславянскіх земляў, з Украіны ці з Літвы-Беларусі, дзе таксама, як сведчыць успамін святога ва Успенскім зборніку XII-XIII стст.[21], напісаным на ўсходнеславянскіх землях, існаваў культ Віта і дзе ў першай трэці XIII ст. ужо працавалі францішканскія і дамініканскія місіянеры. Існуе меркаванне, што культ Віта быў прынесены на ўсходнеславянскія землі з Сазаўскага кляштара бэнэдыктынаў у Чэхіі, дзе нават павінна была правіцца літургія па славянскім абрадзе[22]. У 20-я гады XIII ст. у Кіеў выправілася дамініканская місія ў складзе чатырох братоў, ачоленая Яцкам Адрованжам, які заснаваў там канвент дамініканаў пры ўжо існуючым бэнэдыктынскім кляштары Найсвяцейшай Панны Марыі[23]. Да 1231 г. ім удалося дасягнуць пэўных поспехаў у хрысціянізацыі мясцовага насельніцтва, у тым ліку ў навяртанні некаторых русінаў у лацінскі абрад. Але ў 1233 г., мабыць, з прычыны непрыхільнага стаўлення да місіі з боку мясцовага, пастаўленага візантыйскім патрыярхам мітрапаліта і занадта патрабавальнага стаўлення місіянераў да неафітаў, дамінікане разам з Яцкам былі прагнаныя з Кіева, хоць некаторыя з братоў, відаць, заставаліся ў Кіеве аж да 1240 г., калі горад спустошылі татары. Пасля татарскага наезду місія была перанесеная ў Заходнюю Украіну. Не выключана, што наш Віт мог далучыцца да Яцка падчас ягонага прабывання ў Кіеве альбо нават быў рэкрутаваны ў ордэн з мясцовых насельнікаў ці наўпрост з выхаванцаў бэнэдыктынскага кляштара. Прынамсі ў першым «Жыцці св. Яцка», напісаным кракаўскім лектарам Станіславам, паведамляецца пра масавыя навяртанні і шматлікія пакліканні да прыняцця манаскага габіта ў Кіеве[24]. У такім выпадку навіцыят і пачатковую фармацыю будучы біскуп мог адбыць у кіеўскім кляштары бэнэдыктынаў, затым у канвенце дамініканаў, а прадоўжыць, напрыклад, у Кракаве. Часам можна сустрэць меркаванне, што ўжо ў 30-я гады XIII ст. Віт быў кракаўскім канонікам. Але дакументы з 1235-га і 1236 гг., у якіх згадваецца нейкі *prepositus Vitus*[25] і *Vitus Cracoviensis prepositus*[26], датычаць, найверагодней, іншай асобы, бо ў «Календары» Кракаўскага капітула пад 1248 г. паведамляецца пра смерць гэтага аднайменніка нашага біскупа[27].

Невядома, калі дакладна распачаў Віт сваю місію на нашых землях. Магчыма, гэта адбылося ў саракавыя гады XIII ст. пасля татарскага наезду на Кіеў. Цікавую звестку, спасылаючыся на паведамленне лідскага суддзі Станіслава Адамовіча, падае Тэадор Нарбут. Быццам бы да нейкай справы, якую разглядаў гэты суддзя, былі прыкладзеныя дакументы, дзе апавядалася, што пасля татарскага наезду на Кіеў князь Міндаў прыняў да сябе ўцекача Андрэя Кіяна, якому аддаў у валоданне мястэчка Любча каля Наваградка. Кіян запрасіў туды дамініканаў на чале з Вітам, які заснаваў у мястэчку дамініканскую місію і касцёл, а потым сваю рэзідэнцыю[28]. Нягледзячы на няпэўнасць гэтай звесткі, не падмацаванай канкрэтнымі дакументамі і перададзенай праз другія рукі, яна ўсё ж заслугоўвае даверу. У «Жыцці святога Яцка» пры апісанні цудаў, якія чынілі пасля смерці ён і Віт, апошні фігуруе пад найменнем *episcopus Lubusensis, Lubecensis, Lubuzensis, Lubozanus, Lubuzanus*[29]. Старажытная Любча ў кірылічных пісьмовых крыніцах пісалася таксама як *Любч, Любеч*[30]. Паколькі ў лацінскай мове не было спецыяльнай літары для азначэння гуку «ч», ён перадаваўся блізкімі па гучанні літарамі *c, z, s*. Лацінскія суфіксы *-ensis, -anus* у гэтым выпадку адпавядаюць нашаму *–анскі*, таму пададзеным вышэй лацінскім азначэнням будуць адпавядаць беларускія: біскуп Люб(у)чанскі, Любечанскі, Люб(у)чанскі, Люб(о)чанскі, Люб(у)чанскі. Былі спробы звязаць азначэнні з іншым, а менавіта Любушскім біскупствам, якое на той час падлягала Гнезнен-

скай мітраполіі і якім кіраваў у 1252–1282 гг. біскуп Вільгельм[31], які, дарэчы, паводле паведамлення «Вялікапольскага гадавіка», у 1262 г. разам з біскупам Вітам асвяціў прэзбітэрый пазнанскай катэдры. З гэтай жа прычыны мусім адкінуць і другое блізкае па гучанні Любэкскае біскупства, падпарадкаванае Брэменскай мітраполіі, на чале якога ад пачатку біскупскага служэння Віта і да ягонай смерці стаялі іншыя асобы[32].

Дакументальныя крыніцы называюць таксама Віта *episcopus Litovie* ці *episcopus Litoviensis (Littoviensis, Lithoviensis, Lythoviensis), Lithiviensis, Lithomiriensisi Luthomiriensis*[33]. Таму сярод даследчыкаў з'явілася думка, што ў агіяграфічных творах была зроблена пісьмовая памылка і замест формы тыпу *Lithoviensis* з'явіліся напісанні накшталт *Lubuzensis, Lubusensis*ці *Lubecensis*. Дапушчэнне гэтае выглядае даволі сумніўным, бо цяжка ўявіць, каб у дамініканскіх колах не было вядома пра місію Віта, якога называлі «апосталам Літвы» і разам з ягоным паплечнікам Яцкам Адрованжам ушаноўвалі як святога. Тым больш, што памяць пра Віта як Любчанскага біскупа захавалася і ў дамініканскай традыцыі. Апрача першых «Жыццяў святога Яцка», напісаных Станіславам лектарам у XIV ст. і Севярынам Любомльскім у XVI ст., якія падаюць лацінскія варыянты назвы дыяцэзіі Віта, наўпрост Любчанскім біскупам называюць яго і пазнейшыя дамініканскія аўтары XVII–XVIII стст., якія пісалі па-польску, Пётр Гіяцынт Прушч у «Духоўнай крэпасці»[34] і Міхал Сейкоўскі ў «Календары святых», падаючы нават дату памінання нашага біскупа — 9 чэрвеня: *Błog(osławionego) X(iędza) Wita pierwszego Biskupa Lubczańskiego Męczennika* (Благаслаўлёнага ксяндза Віта, першага Любчанскага біскупа, мучаніка)[35].




Пахаванне біскупа Віта: труна ў сцяне дамініканскага касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Кракаве. Надпіс на труне: «Бл(агаслаўлёны) Віт з Ордэну прапаведнікаў, Любускі біскуп, таксама першы біскуп і апостал Літвы, якую навяртаў у муках і цярпеннях, 24.V. 1259. Пасля смерці праславіўся цудамі. Яго парэшткі, пахаваныя тут, кракаўскія біскупы тры разы выстаўлялі для публічнага ўшанавання».

Такім чынам, супаставіўшы ўсе гэтыя факты і звесткі, выпадае лакалізаваць катэдру першага біскупа Літвы-Беларусі дамініканіна Віта ў Любчы на Навагрудчыне. Да такога пераканання прыйшлі і многія іншыя даследчыкі, у т.л. і некаторыя з навукоўцаў Летувы[36]. Два варыянты азначэння біскупа Віта — *Lithoviensisi Lubecensis*, указваюць адпаведна на дзяржаву (ці падлеглую ягонай юрысдыкцыі тэрыторыю) і на сядзібу біскупа, пар., напр.: *episcopus Livoniensis* «Лівонскі біскуп» (тэрыторыя Лівоніі) і *episcopus Rigensis* «Рыжскі біскуп» (сядзіба ў Рызе) для азначэння аднаго і таго ж іерарха.

Культ Віта як благаслаўлёнага ці святога пачаў усталёўвацца ў першыя ж гады пасля ягонай смерці. Апрача цудаў, апісаных у «Жыцці святога Яцка», напісанага Станіславам лектарам у XIVст., але заснаванага на крыніцах XIII ст., сведчаннем яго шанавання з'яўляецца выказванне дамініканскага пісьменніка і інквізітара Бэрнарда Гі, які, дарэчы, пазней стаў персанажам раманаў, у тым ліку славутага «Імя ружы» Умбэрта Эка, на генеральным капітуле ордэну ў 1277 г. пра тое, што «ў Кракаўскім кляштары ляжыць брат Яцак, здольны ўваскрашаць памерлых, і Віт, біскуп, здольны чыніць цуды»[37]. Пасля кананізацыі святога Яцка ў 1594 г. кардынал Юрый Радзівіл выставіў рэліквіі Віта для пакланення вернікаў, а ў 1599 г. генерал ордэну нават выдаў распараджэнне ўрачыста перанесці ягоную труну ў больш пачэснае месца, што сведчыць пра захады па афіцыйнай беатыфікацыі нашага біскупа, якая, аднак, так і не адбылася з розных прычынаў[38]. Пра шанаванне Віта на нашых землях сведчаць і згадкі ў ранніх творах айчынных гісторыкаў і іканаграфічныя творы[39]. Сёння Віт, якога на працягу сямі стагоддзяў дамініканскія, і не толькі, аўтары заўсёды называлі благаслаўлёным ці святым, мучанікам, які сеяў слова Божае на нашай зямлі ды быў тут паранены, прагнаны і забыты, спачывае, пахаваны ў капліцы Кракаўскага касцёла дамініканаў, і, можа, чакае вяртання ўжо ў іншай сутнасці ў сваю, дадзеную яму Святым Пасадам і Богам, дыяцэзію, да сваёй умілаванай, але няўдзячнай паствы, у нашую памяць, каб учыніць для ўсіх нас свой найдзівоснейшы пасмяротны цуд — цуд навяртання.

# Сведчанні цудаў праз заступніцтва святых Яцка і Віта

## (з «Жыцця святога Яцка», напісанага Станіславам лектарам)

### **XXX.** ЦУД АЗДАРАЎЛЕННЯ АД ГЛУХАТЫ КАЛЯ ТРУНЫ СВЯТОГА ЯЦКА

Адна пані на імя Маргарэта з ваколіцаў Кракава пражыла ўдавою больш за дваццаць гадоў. Захварэўшы, яна цалкам аглухла так, што не магла чуць ні званоў, ні людзей, ні нават наймацнейшага грукату. І вось, прыйшоўшы да касцёла братоў прапаведнікаў у Кракаве, яна з вялікай пабожнасцю заклікала святога Яцка і святога Віта, біскупа з Ордэну прапаведнікаў, кажучы: «Святы Яцку і святы Віце, выбаўце мяне ад гэтай глухаты». І, падышоўшы да труны святога Яцка, пацалавала і прыклала да яго вушы. І калі яна гэта зрабіла, адразу ж пазбылася глухаты ды атрымала ласку чуць усё як найлепей. Пры гэтым цудзе былі і бачылі памянёную пані аздароўленаю: брат Багуслаў лектар, брат Геранім, пан Андрэй і Якуб ды многія іншыя вартыя даверу людзі. У год Пана 1269[40].

### **XXXIII.** ЦУД АЗДАРАЎЛЕННЯ ЎСЯГО ЦЕЛА

Адна шляхетная пані, дачка графа Сулькі, Кракаўскага кашталяна, жонка Скарбіміра, вельмі цяжка захварэла, так, што не магла ні есці, ні піць, ні гаварыць. І калі лекары не спадзяваліся ўжо, што выжыве, бацька яе пан Сулька, Кракаўскі кашталян, заклікаў благаслаўлёнага Яцка і брата Віта, біскупа з Ордэну прапаведнікаў, кажучы: «О святы Яцку і святы Віце, прызвольце дапамагчы маёй дачцы, бо памірае, і я прывяду яе да вашай труны з найлепшай ахвяраю». І як толькі даў гэтае абяцанне, хворая бадзёрым голасам усклікнула: «Дзякую Богу майму і святым яго, благаслаўлёнаму Яцку і святому Віту, бо цяпер збаўленая я ад сваёй хваробы і небяспекі смерці. І адразу ж устала ўжо здаровая ды са сваім бацькам, памянёным панам Сулькам, і шматлікім початам з вялікай пашанаю падышла да труны святых Яцка і Віта і пабожна споўніла абяцанне, якое зрабіў бацька. Пры гэтым цудзе былі і сваімі вачыма бачылі: пан Сулька, Кракаўскі кашталян, яе бацька, шляхетныя Пётр і Андрэй, яе браты, пані Фларэнцыя і яе сястра Клемэнцыя. У год Пана 1271[41].

### **XXXVI.** ПРА НЕЗВЫЧАЙНЫ ДВАЙНЫ ВОДАР ПРЫ МАГІЛЕ СВЯТЫХ ЯЦКА І БІСКУПА ВІТА

Нейкі пан на імя Жэгота, які да таго часу быў свецкім святаром, натхнёны пабожнасцю, прыйшоў да касцёла братоў прапаведнікаў у Кракаве і, калі пабожна пацалаваў труну святога Яцка, затым святога Віта, адчуў дзівосны пах і такое тхненне найпрыемнейшага водару, якое не можа выказаць чалавечая мова. Уражаны гэтым водарам, ён, насуперак спадзяванням свету, уступіў у Ордэн Братоў Прапаведнікаў і служыў у ім, пахвальна ведучы святое жыццё. Пасля ён пад прысягою пацвердзіў, што чуў той пах ля памянёных трунаў. У год Пана 1274[42].

### **XXXVIII.** ПРА АЗДАРАЎЛЕННЕ СМЯРОТНА ХВОРАГА ЮНАКА

Нейкі пан на імя Багуслаў з жонкаю, якую звалі Магдалена, мелі адзінага сына, якога звалі Віславам і які захварэў на такую цяжкую хваробу, што лекары не спадзяваліся, што будзе жыць. І калі ён быў пры смерці і ўжо канаў, пані Магдалена, ягоная маці, прасіла з малітваю, даючы абяцанні, святога Віта, біскупа з Ордэну прапаведнікаў, і святога Яцка, кажучы: «О святы Віце і святы Яцку, дазвольце дапамагчы майму сыну, які канае, і я прывяду яго да вашых магілаў са шчодраю ахвяраю». І як толькі яна дала сваё абяцанне, адразу ж хлопец гукнуў да яе, кажучы: «О найдаражэйшая маці, хутчэй хадзем да касцёла братоў прапаведнікаў у Кракаў, каб падзякаваць Богу за маё аздараўленне і яго святым, благаслаўлёнаму Яцку і святому Віту. Бо яны былі ля мяне ў дзівоснай славе, адзін з біскупскімі адзнакамі, а другі апрануты ў габіт братоў прапаведнікаў. Калі я канаў, яны сказалі мне: У імя Езуса Хрыста вылечваем цябе ад хваробы, на якую ты пакутуеш, устань, ідзі да нашых магілаў ды споўні абяцанне, якое дала за цябе твая маці». Тады памянёная пані Магдалена, маці аздароўленага, са сваім мужам, панам Багуславам, і многімі суродзічамі прыйшлі ў Кракаў з вёскі, якая па-народнаму называецца Палечніца, да братоў прапаведнікаў, дзе спачываюць целы згаданых святых, і ўрачыста прынеслі абяца-

ную ахвяру. Пры гэтым аздараўленні былі і сваімі вачыма бачылі ды пацвердзілі, прысягаючы перад [Бэнэдыктам] прыёрам, братам Геранімам, лектарам Багуславам: ужо згаданыя бацька і маці, пан Пэлка, ягоны брат, пан Яраслаў рыцар, пані Канстанцыя, пані Станіслава і многія вартыя даверу людзі. У год Пана 1280, на другі дзень пасля Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны[43].

### **XLVII.** ПРА АЗДАРАЎЛЕННЕ АД ХВАРОБЫ НОГ ПРАЗ ЗАСТУПНІЦТВА СВЯТОГА ЯЦКА

Адна пані з шляхетнага роду, удава графа Тамаша з Брэзы на імя Дабраслава, дала пабожнае абяцанне пешкі наведаць святыню святога Станіслава і благаслаўлёных мужоў Яцка і Люмбучанскага (*Lumbuzani*) біскупа Віта з Ордэну Братоў Прапаведнікаў. І калі пусцілася ў дарогу і прыйшла ў вёску, якая называлася Модлінца, з некалькімі спадарожнікамі, упала духам і, не могучы больш ісці пачатым шляхам, наказала занесці сябе да мяжы гэтай вёскі; і, калі апынулася ў адзіноце, пачала са слязьмі і малітвамі прызываць благаслаўлёных мужоў, а менавіта брата Яцка і брата Віта, Любачанскага (*Lubozanum*) біскупа, кажучы: О святы Яцку і святы Віце, я паабяцала пешкі прыйсці да вашых грабоў, але цяпер зваліла мяне падагра і не магу выканаць маё абяцанне, таму малю, каб дазволілі прыйсці мне на дапамогу і выбавілі мяне ад хваробы ног. І молячыся так, чуваючы ў малітве, была зморaная лёгкім сном. І вось дзве вялебныя постаці сталі пры ёй, адна апранутая ў габіт братоў прапаведнікаў, другая з біскупскімі адзнакамі, а за імі ішла следам шматлікая працэсія братоў, гучна ўсклікаючы: «У дзяржаве Пана голасна граюць арганы святых». Тады першыя два сказалі ёй: «Дабраслава, адданая Богу, устань і скончы пачаты шлях, і праз заслугі тых, якіх ты заклікала, якія тут з табою, убачыш, што ты аздароўленая». Ачнуўшыся, яна пачала гукаць: «Хутчэй, хутчэй хадзем у Кракаў да братоў прапаведнікаў, да магілаў святых брата Яцка і брата Віта, біскупа, бо толькі што яны былі ля мяне з мноствам братоў і выбавілі мяне ад найцяжэйшай хваробы ног». І тады, прыйшоўшы да магілаў святых брата Яцка і брата Віта, біскупа, яна склала падзяку Богу за поўнае аздараўленне ад хваробы. Засведчыла гэтае аздараўленне памянёная пані Дабраслава перад панам Жэготам, Кракаўскім кашталянам, панам Пятром, панічамі Грыміславам і Фларыянам, пані Канстанцыяй, яе сястрою, паннаю Маргарэтаю, братам Клемэнсам, кракаўскім лектарам, і многімі іншымі, вартымі даверу, людзьмі. У год Пана 1289, у дзень святога Бэрнарда абата[44].

*Пераклаў з лаціны Алесь Жлутка. Паводле: Stanislauslector. De vita et miraculis sancti Iacchonis ... auctore Stanislao lectore Cracoviensi // MPH. T. 4. Lwów, 1884.*

[1] Mindowe, rexLithowiae, in litteris et testimoniis = Міндаў, кароль Літовіі, у дакумэнтах і сьведчаньнях / Укл. А.Жлуткі. – Менск, 2005. – С. 57, дак. II, 5.
[2] Kronika Boguchwała i Godysława Paska // Monumenta Poloniae Historica = Pomniki dziejowe Polski (далей – MPH). T. 2. Lwów, 1872. P. 572.
[3] Rocznik Wielkopolski // MPH. T. 3. Lwów, 1878. P. 22.
[4] Mindowe, rex Lithowiae … С. 60, дак.II, 7.
[5] Тамсама. С. 61, дак.II, 8.
[6] Тамсама. С. 64, дак.II, 10.
[7] Тамсама. С. 66, 68, дак.II, 11, 12.
[8] MPH. T. 2.P. 573; T. 3. P. 23.
[9] Mindowe, rex Lithowiae … С. 74, дак.II, 15.
[10] Schlesisches Urkundenbuch / Bearb. W. Irgang. Bd. 3: 1251-1266.Bd. 3. S. 159, nr. 243 ;Wiadomości do dziejów Polskich z Archiwum Prowincyi Szląskiej / Zebr. A. Mosbach. – Wrocław, 1860. – S. 22.
[1] Codex diplomaticus et epistolaris regni Bohemiae. T. V. Fasc. 1 / Ed. J. Šebánek et S. Dušková. Pragae, 1974. P. 228, nr. 142.
[12] Ibidem. P. 325, nr. 207.
[13] Schlesisches Urkundenbuch. Bd. 3. S. 221, nr. 336.
[14] MPH. T.3. P. 34.
[15] Ibidem. S. 280, nr. 423.
[16] MPH. T.3. P. 34-35.
[17] Stanislaus lector. De vita et miraculis sancti Iacchonis ... auctore Stanislao lectore Cracoviensi // MPH. T. 4. – Lwów, 1884. – P. 875.
[18] ZeissbergH.R. Kleinere Geschichtsquellen Polens im Mittelalter. – Wien, 1877. – S. 150.
[19] Wiszniewski M. Historia literatury Polskiej. T. 2. – Kraków, 1840. – S. 158–159.
[20] Bzovius A. Propago D. Hyacinthi thaumaturgi Poloni, seu de rebus praeclare gestis in Provincia Poloniae Ordinis praedicatorum. – Venetiis, 1606. – P. 16.
[21] Успенский сборник XII-XIII вв. / Подг. О.А. Князевская, В.Г. Демьянов, М.В. Ляпон. – М., 1971. – С. 220; гл. таксама: ЙовчеваМ. Святой Вит в древнеславянской книжности // Древняя Русь. Вопросы медиевистики. 2006. № 4 (26). С. 9-19.
[22] Мурьянов М.Ф. Старославянские метаморфозы западного агиологического сюжета // Духовная культура славянских народов. Литература. Фольклор. История. Сб. статей к 9 Международному съезду славистов. – Л., 1983.
[23] Abraham W. Powstanie organizacyi Kościoła łacińskiego naRusi.T. 1. – Lwów, 1904. – S. 78–79.
[24] Stanislaus lector. De vita et miraculis …P. 857.
[25] Przeździecki A. Podole, Wołyń, Ukraina. Obrazy miejsc i czasów. T. 2. Dodatek D (Faksimile).
[26] AGAD. Dok. perg. 7215.
[27] MPH. T. 2. P. 921.
[28] Narbutt T. Obrys żywota błogosławionego Wita, biskupa Lubczańskiego na Litwie // Pamiętniki umysłowe. T. 3. 1846. S. 23-34; яго ж: Obrys żywota błogosławionego Wita, biskupa Lubczańskiego na Rusi Litewskiej // Pomniejsze pisma historyczne. S. 31-39.
[29] Stanislaus lector. De vita et miraculis... P. 888-889, 898; Severinus Lubomlius. De vita,miraculis et actis canonisationis sancti Hyacinthi. – Romae, 1594. – P. 59, 108.
[30] Пар. яшчэ згадку Любчы ў «Паведамленнях пра літоўскія шляхі» з 1401-1404 гг. на старанямецкай мове як Lubütz: Die littauischen Wegeberichte // Scriptores rerum Prussicarum. Hrsg. von dr.Th. Hirsch, dr. M. Toeppen und dr. E. Streihlke. Bd. 2. – Leipzig, 1863. – S. 708.
[31] Lubucensis (episcopatus): Eubel C. HierarchiacatholicaMediiAevi. Ed. Altera. T. I. – Monasterii, 1913. – P. 312.
[32] Lubicensis (episcopatus): Ibidem. P. 311,
[33] Regesta Lithuaniae ab origineusque ad Magni Ducatus cum Regno Polonieunionem. T. 1: Tempora usque ad annum 1315 complectens / Recensuit H. Paszkiewicz. Varsovie, 1930. P. 55, Nr. 276; P. 57, Nr. 287; P. 68, Nr. 343; P. 69. Nr. 349; P. 76, Nr. 379; P. 79, Nr. 394; P. 81, Nr. 404; P. 99, Nr. 481, 482; MPH. Ser. II. T. 8. Kronika wielkopolska (Chronica Poloniae Maioris). – Warszawa, 1970. – S. 101.
[34] Pruszcz P. Forteca duchowna Królestwa Polskiego. – Kraków, 1662. – S. 96.
[35] Sieykowski M. Dni roczne świętych, błogosławionych, wielebnych y pobożnych sług boskich Zakonu Kaznodziejskiego ... – Kraków, 1743.
[36] Narbutt T. Pismapomniejsze... S. 32-34; Przyałgowski W. Żywoty biskupów wileńskich. – Petersburg, 1860. – S. 3–4; Kurczewski J. Kościół zamkowy czyli katedra Wileńska. T. 1. – Wilno, 1908. – S. 307; яго ж: Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912. – S. 21; яго ж: Święci biskupi i apostołowie Litwy i Rusi Litewskiej. – Wilno, 1913. – S. 54–56; Wołyniak (Giżycki J.M.) Wiadomości o dominikanach prowincyi Litewskiej. Cz. I. –Kraków, 1917. – S. 126; Woroniecki J. Św. Jacek Odrowąż i wprowadzenie zakonu kaznodziejskiego do Polski. –Katowice, 1947. – S. 183; Kielar P. Wit // Hagiografia Polska. Słownik bio-bibliograficzny / Red. R. Gustaw. T. 2. – Poznań, 1972. –S. 547–548; Dainauskas J. Vilniaus vyskupijos istorijos bruožai // Lietuvos bažnyčios. Churches of Lithuania. T. 5. – Chicago, 1985. – S. 23–24; Petkus V. Dominikonailietuvoskultūroje. Vilnius, 2004. – S. 7, 43, 50, 64, 451,452, 912.
[37] Scriptores Ordinis Praedicatorum / Ed. J. Quetif, J. Echard. Vol. I. Parisiis, 1719. P. I; Miławicki M. Biskup litewski Wit – życie i dzieje kultu „błogosławionego»// Pośrednicy łask / Red. J. Marecki, L. Rotter. – Kraków, 2006. – S. 164.
[38] Больш падрабязна пра шанаванне біскупа Віта як благаслаўлёнага і ягоны жыцЦярыс гл. у грунтоўным артыкуле: Miławicki M. Biskup litewski Wit…S. 148-167, а таксама ў: Kielar P. Wit... S. 541-554, у: Szweda A. Problem biskupa litewskiego Wita // Komunikaty Mazursko-Warmińskie. 2002. Nr. 3(327), і ў: Kaczmarek K. Próba identyfikacji biskupa Litewskiego Wita // Cognitioni gestorum / Red. D.A. Sikorski, A.M. Wyrwa. – Poznań–Warszawa, 2006. – S. 359–372.
[39] Kojałowicz A.W. Miscellanea rerum ad statum ecclesiasticum in Magno Litvaniae Ducatu pertinentium. – Vilnae, 1650. – P. 2; абраз Віта ў Віленскім мастацкім музеі, які раней знаходзіўся ў віленскім дамініканскім кляштары Святога Духа.
[40] Stanislaus lector. De vita et miraculis... P. 875.
[41] Ibidem. P. 877.
[42] Ibidem. P. 879.
[43] Ibidem. P. 881.
[44] Ibidem. P. 888.

Марэк Мілавіцкі OP

# ДЗЕЛЯ ЗАХАВАННЯ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ

## Дамінікане на землях Беларусі



«Уручэнне ружанца святому Дамініку». Абраз XVIII ст. з в. Кемелішкі Астравецкага раёна.

Сёння Ордэн прапаведнікаў працуе ў Беларусі ў дзвюх парафіях: у Віцебску, дзе законнікі жывуць больш за 20 гадоў, і ў нядаўна створанай парафіі ў Магілёве. Браты належаць да асобнага беларускага вікарыяту, падпарадкаванага Польскай правінцыі імя св. Гіяцынта. У Віцебску браты працавалі і раней, але ў XIX ст. іх дзейнасць была перарваная ў сувязі з палітыкай расійскіх уладаў. Кляштар быў ліквідаваны, падзяліўшы лёс з большасцю іншых, зачыненых за ўдзел законнікаў у паўстаннях. Будынкі, якія належалі віцебскім дамініканам, перайшлі ў рукі праваслаўных, і прадстаўнікі Ордэну прапаведнікаў вярнуліся ў горад толькі напрыканцы XX ст. У Магілёве дамініканскага кляштара раней не было ніколі, але з суфраганаў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі там меў рэзідэнцыю біскуп Юзаф Максімільян Станеўскі (1795-1871). Таму можна лічыць, што і ў гэтым горадзе ў пэўным сэнсе ёсць дамініканская традыцыя. На тэрыторыі сучаснай Беларусі вельмі шмат такіх слядоў прысутнасці дамініканаў.

Мэта гэтага артыкула — паказаць гэтыя сляды і прааналізаваць даследаванні, прысвечаныя ўнёску дамініканскага ордэну ў гісторыю і культуру беларускай зямлі. У сваіх разважаннях я абапіраюся на гістарычную літаратуру, выдадзеную ў Польшчы, Літве і Беларусі. Большасць працаў належыць поль-

---

**Марэк Мілавіцкі OP** — польскі тэолаг і гісторык, супрацоўнік Дамініканскага гістарычнага інстытута ў Кракаве, займаецца гісторыяй Ордэну прапаведнікаў у навейшы час. Нарадзіўся ў 1978 годзе. Жыве і працуе ў Кракаве.

скім і літоўскім даследчыкам, аднак гісторыяй ордэну цікавяцца і беларускія навукоўцы, хаця іх даследаванні на гэтую тэму з'яўляюцца пераважна ў межах іншых працаў. У камуністычныя часы гэтым пытаннем займаўся Якуб Мараш у працах, прысвечаных «экспансіі» каталіцтва на беларускіх землях[1].

Варта звярнуць асаблівую ўвагу на працы Ігара Ганчарука, прысвечаныя дзейнасці Каталіцкага Касцёла і каталіцкіх кляштараў у гісторыі і культуры на беларускіх землях[2]. Беларуская даследчыца Раіса Зянюк прысвяціла магістэрскую працу дамініканам Мінскай губерні XIX стагоддзя. На жаль, гэтая праца не была выдадзеная. Цяпер Р. Зянюк займаецца даследаваннем адукацыйнай дзейнасці Каталіцкага Касцёла ў Беларусі ў часы яе прыналежнасці да Расійскай імперыі, дзе таксама былі дамінікане. У апублікаваных Р. Зянюк артыкулах займае важнае месца тэма асветніцкай дзейнасці братоў прапаведнікаў у першай палове XIX стагоддзя[3]. Адукацыйнай дзейнасці дамініканаў на беларускіх землях з канца XVIII ст. да першых дзесяцігоддзяў XIX ст. прысвяціў некалькі артыкулаў Андрэй Самусік[4], які даследуе тэму адукацыі на беларускіх землях, дзе ўзгадваюцца таксама і дамінікане[5]. Пра школу гродзенскіх дамініканаў пісаў таксама Віктар Парфёненка[6], але гэты журналіст у асноўным спасылаўся на ранейшыя даследаванні. Тамара Ліхач апублікавала даследаванні, прысвечаныя музычнай культуры ў дамініканскіх кляштарах наогул[7] і ў прыватнасці на Беларусі[8]. Цікавае даследаванне на тэму кляштарнай архітэктуры належыць расійскай даследчыцы Інэсе Слюньковай[9]. Таксама заслугоўваюць увагі энцыклапедыі і слоўнікі: энцыклапедыі па архітэктуры і мастацтве Беларусі[10], рэлігіі і храмах[11] і дзве грунтоўныя працы: шасцітомнік «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі»[12] і трохтомнік «Энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага»[13], у якіх ідзе гаворка пра большасць дамініканскіх кляштараў і пра найбольш выбітных прадстаўнікоў Ордэну прапаведнікаў. Вельмі важнае даследаванне па дамініканскай архітэктуры было апублікаванае на старонках часопіса «Наша вера»[14]. Цудоўным дадаткам да ўзгаданых даследаванняў можна назваць альбом «Беларусь у малюнках Напалеона Орды», дзе змешчаны выявы некаторых дамініканскіх кляштараў, у тым ліку і тых, якія, на жаль, не захаваліся да нашых часоў[15].

Дамініканская тэматыка прысутнічае таксама і ў працах беларускіх гісторыкаў, прысвечаных асобным гарадам і мястэчкам, дзе шмат гаворыцца пра асноўныя манаскія супольнасці[16]. У краязнаўчых працах можна знайсці цікавую інфармацыю пра кляштары і законнікаў, пра помнікі мастацтва і архітэктуры, якія засталіся пасля іх. Часам гэтыя помнікі — адзінае, што нагадвае аб прысутнасці дамініканаў у той ці іншай мясцовасці.

Дагэтуль нераспрацаваныя крыніцы гістарычнай інфармацыі, якія могуць дадаць нешта значнае пра дамініканскі ордэн на Беларусі. Вялікія зборы знаходзяцца ў цэнтральных беларускіх архівах Мінска і Гародні. Дарэчы, дзякуючы гэтым зборам былі адкрыты архіў полацкага кляштара. Вялікі збор дакументаў, якія датычаць дзейнасці дамініканаў, знаходзіцца ў бібліятэках і архівах Вільні, асабліва ў Цэнтральным гістарычным архіве Літвы і ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта.

Кажучы пра зборы архіваў і бібліятэк, дзе ёсць дакументы, звязаныя з дамініканамі на Беларусі, нельга не назваць Архіў Польскай правінцыі дамініканаў у Кракаве. Сярод найважнейшых дакументаў варта назваць хроніку пінскага кляштара і інвентарны сшытак кляштараў Рускай правінцыі, службовыя дакументы Літоўскай і Рускай правінцый дамініканскага ордэну, да якіх належалі кляштары на Беларусі, перадусім — акты капітулаў гэтых правінцый. У нашым архіве захавалася таксама копія так званай «хатняй хронікі» Літоўскай правінцыі аўтарства яе правінцыяла айца Фаўстына Цяцерскага. Яе арыгінал калісьці знаходзіўся ў Вільні, але цяпер лічыцца страчаным. Шмат матэрыялаў на гэтую тэму можна таксама знайсці і ў Расіі, асабліва ў Санкт-Пецярбургу, куды пасля закрыцця кляштараў трапілі іх архіўныя і бібліятэчныя зборы.

Дамінікане з'явіліся на Беларусі ў Сярэднявеччы, аднак можна ўпэўнена сказаць, што да пачатку XVII ст. браты прапаведнікі не здолелі замацавацца на беларускіх тэрыторыях. Менавіта гэтае стагоддзе прынесла росквіт дамініканскаму ордэну на ўсходзе Рэчы Паспалітай. У 1612 г. была створаная Руская правінцыя, у 1646 годзе — Літоўская. На той момант на тэрыторыі ВКЛ існавала ўжо 24 кляштары, перадусім на тэрыторыі Жмудскага, Трокскага і Віленскага ваяводстваў. З 1648-га да 1696 г. ВКЛ узбагацілася яшчэ на 36 кляштараў — такім чынам, на працягу XVII ст. на гэтых землях узнікла 60 асяродкаў дамініканскага ордэну. Большасць з іх была заснаваная пры каралі Яне III Сабескім (1674–1696). Развіццё ордэну працягвалася і ў XVIII ст., але




Абмерныя чарцяжы і планы віцебскага дамініканскага касцёла і кляштара пасля скасавання кляштара і прыстасавання будынкаў пад казармы гарнізоннага батальёна. 1839 г.

тады колькасць новых фундацый значна зменшылася.

Фундатарамі кляштараў сталіся прадстаўнікі магнацкіх родаў, шляхты і духавенства. Да першай групы належалі Сапегі, Радзівілы, Пацы, Сангушкі, Слушкі. Менавіта з гэтага роду паходзіў фундатар першага кляштара братоў прапаведнікаў на тэрыторыі Беларусі — Крыштаф Слушка, які разам з жонкай Зоф'яй з дому Завішаў заснаваў кляштар імя св. Тамаша Аквінскага ў Мінску ў 1605 годзе. З роду Слушкаў паходзіла таксама сужэнства Аляксандра і Зоф'і з Зянковічаў, фундатараў двух дамініканскіх кляштараў у Рэчыцы і Стоўбцах.

Найбольш поўныя дадзеныя пра кляштары былі складзеныя ў 1773 г., калі па загадзе Апостальскага нунцыя кардынала Джузэпэ Гарамп'е рыхтаваліся спецыяльныя анкеты са спісамі кляштараў, манахаў і абавязкаў, якія яны выконвалі. Гэтыя дадзеныя акрэсліваюць сетку дамініканскіх кляштараў Рэчы Паспалітай да яе першага падзелу. Яны з'яўляюцца таксама крыніцаю пазнання душпастырскай дзейнасці супольнасцяў перад падзеламі. Паводле сабраных анкетаў, дамініканe мелі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай 164 кляштары ў складзе 3-х правінцый: Польскай, Літоўскай і Рускай, а таксама назіральнай Кангрэгацыі св. Людвіка Бертранда. На тэрыторыі Беларусі браты прапаведнікі мелі 45 кляштараў (23 — у Літоўскай правінцыі, 21 — у Рускай правінцыі), 27 % ад агульнай лічбы. Толькі кляштар у Брэсце належаў да Польскай правінцыі. У другой палове XVII ст. узнікла назіральная Кангрэгацыя св. Людвіка Бертранда, да якой належала 3 кляштары: у Верках (віленскай Кальварыі), Таргавіцы і Тэрэспалі (цяпер ніводнае з гэтых мястэчак не ўваходзіць у склад Беларусі). Апроч мужчынскіх кляштараў, на тэрыторыі Беларусі, у Наваградку, знаходзіўся кляштар дамініканскіх манашак, якія належаў да Рускай правінцыі. Большасць дамініканскіх кляштараў была заснаваная ў гарадах і мястэчках, радзей у вёсках, гэта тычыцца і беларускіх земляў. З даследаванняў Галіны Гвязды вынікае, што з 36-ці кляштараў, заснаваных на тэрыторыі ВКЛ у другой палове XVII ст., 34 узніклі ў гарадах. У большасці гэта былі малыя мястэчкі (29 кляштараў), 3 павятовыя гарады і 5 сталіцаў ваяводстваў. Большасць (30 кляштараў — 84%) знаходзілася ва ўладаннях магнатаў і шляхты, 5 — у каралеўскім уладанні, адзін — у касцёльных уладаннях.

Важным аспектам функцыянавання кожнага кляштара была яго гаспадарка. Дзякуючы добрым эканамічным магчымасцям кляштар мог займацца душпастырскай дзейнасцю, перш за ўсё адукацыяй і дабрачыннасцю. Пра фінансаванне манаскіх супольнасцяў павінны былі клапаціцца фундатары, якія ўтрымлівалі кляштар галоўным чынам за кошт зямельных ахвяраванняў, адкуль кляштар чэрпаў даходы і прадукты гаспадаркі. Апроч таго, дабрадзеі перадавалі кляштарам легаты і відэркаўфы (грашовыя сумы, запісаныя на іх нерухомую маёмасць). Напрыклад, гродзенскія дамініканe займалі цэлы гарадскі квартал і

мелі маёмасць у іншых частках горада. У 1675 г. землеўладальніца ахвяравала братам 10 зямельных надзелаў. Такім чынам, у XVIII ст. у самой Гародні браты валодалі 20-цю дзялянкамі — яны былі ўладальнікамі значнай колькасці зямлі ў горадзе. Аднак часам матэрыяльныя нястачы прымушалі манахаў пакідаць кляштары. Гэтак адбылося з кляштарам у Песках, фундатарам якога быў віленскі ваявода Казімір Сапега ў 1685 годзе. У 1778 г. зачыніліся кляштар і касцёл у Гошчаве, заснаваныя ў 1642 г., бо ўладальнік Глухоўскі адабраў у манахаў фундацыю. А да таго, у 1742 г., з рук мясцовага прыёра айца Раймунда Корсака прыняў хрост Тадэвуш Касцюшка: гэта адбылося ў Косаве, якое належала да Гошчаўскай парафіі. Дрэннае фінансавае становішча прымусіла дамініканаў аддаць кляштар у Глінішках рэгулярным канонікам ад пакуты, а тыя ў 1810 г. перадалі яго супольнасці ксяндзоў місіянераў. Аднак, нягледзячы на скасаванне адных кляштараў, дамінікане засноўвалі новыя, напрыклад, у Оршы (пасля 1782 г.) і Полацку (перад 1787 г.).



Віцебскі касцёл святой Барбары.

Дамінікане займаліся таксама марыйнымі санктуарыямі. Дамініканскі гісторык XIX ст. а. Садок Барач называе 19 беларускіх гарадоў і мястэчак, дзе ў дамініканскіх святынях знаходзіліся цудоўныя абразы Маці Божай: Астравец, Ашмяны, Брэст, Валеўка, Васілішкі, Дзярэчын, Друя, Дунілавічы, Гродна, Гошчава, Ельна, Княжыцы, Канюхі, Нясвіж, Орша, Пескі, Полацк, Шклоў, Ушачы.

У асноўным гэта былі абразы Маці Божай Снежнай (Ружанцовай), арыгінал якога знаходзіцца ў базыліцы *Santa Maria Maggiore* ў Рыме. Менавіта дамінікане распаўсюдзілі гэты абраз на тэрыторыі ВКЛ. Прывезеныя з Рыма абразы дамінікане змяшчалі не толькі ў сваіх кляштарах, але і перадавалі мясцовым магнатам, якія ў сваю чаргу перадавалі іх розным касцёлам і капліцам. Прыкладам гэтага можа быць абраз Маці Божай Кангрэгацкай (Студэнцкай) у Гародні, укаранаваны 28 верасня 2005 г. папскімі каронамі, — адзін з найважнейшых аб'ектаў марыйнага культу сённяшняй Беларусі.

Становішча Каталіцкага Касцёла вельмі змянілася пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Дзяржавы, якія раздзялілі Рэч Паспалітую, абмежавалі ўплыў Касцёла на грамадскае, культурнае, палітычнае і нават рэлігійнае жыццё. Спачатку Касцёл на тэрыторыях, якія трапілі пад расійскую ўладу, быў у добрых умовах, займаючыся асветніцкай дзейнасцю, універсітэтамі, дабрачыннасцю і душпастырствам.

Ужо пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай частка кляшта-



Капліца ў Магілёве.

раў апынулася пад уладаю Расіі — Кацярына II утварыла з іх Беларускую правінцыю святога Станіслава, якую генерал ордэну не прызнаў (яна праіснавала да 1801 г.).

Можна згадаць нават добрыя адносіны дамініканаў з царскімі ўладамі, пра што піша, напрыклад, у сваёй хроніцы *Historia Domestica* правінцыял Фаўстын Цяцерскі. Добрыя адносіны з імі падтрымліваў і цар Аляксандр I, які неаднаразова наведваў дамініканскія кляштары і размаўляў з правінцыялам, пра што Цяцерскі таксама ўзгадвае. Гэтая прыхільнасць дазволіла цару даверыць дамініканам некаторыя кляштары і школы езуітаў, калі іх супольнасць была выгнаная з Расіі ў 1820 годзе. У Забелах (Валынцах) яны некаторы час апекаваліся акадэмічнай гімназіяй, якая адыграла асаблівую ролю ў беларускай культуры дзякуючы школьнаму тэатру, дзе ставіліся спектаклі і на беларускай мове. Там працаваў вядомы драматург Каятан Марашэўскі. У калегіуме вучыліся паэт, драматург і літаратар Аляксандр Вярыга-Дарэўскі (1816–1884), археолаг, гісторык, этнограф і фалькларыст Канстанцін Тышкевіч. У павятовай дамініканскай школе ў Наваградку 7 гадоў вучыўся Адам Міцкевіч і яго сябра Ян Чачот.

У Нясвіжы ў дамініканаў 2 гады вучыўся пісьменнік і паэт Людвік Кандратовіч (Уладзіслаў Сыракомля). Ён прысвяціў школьным успамінам паэму «*Szkolne czasy Jana Dęboroga*», дзе напісаў пра сваіх настаўнікаў-дамініканаў[17], а таксама ўзгадваў пра іх ва ўспамінах[18]. Дамініканe з кляштараў Валеўкі і Слоніма працавалі таксама ў школе ў Крошыне, адзін з айцоў, Пій Гарбачэўскі, быў настаўнікам Паўлюка Багрыма.

Пасля паўстання 1830 г. сітуацыя рэлігійных кангрэгацый у імперыі, у тым ліку і дамініканскага ордэну, змянілася да горшай, бо многія манахі прынялі актыўны ўдзел у паўстанні. Многія былі пакараныя смерцю, адпраўленыя ў ссылку. Школы былі зачыненыя, манахі страцілі магчымасць займацца выхаваннем дзяцей. За ўдзел у паўстанні яны былі пазбаўленыя кляштараў і маёмасці. У 1832 г. Мікалай II спецыяльным указам «Аб закрыцці некаторых рыма-каталіцкіх кляштараў» ліквідаваў 56 дамініканскіх асяродкаў, сярод якіх 30 знаходзілася на землях Беларусі.

Пазней закрылася яшчэ некаторая колькасць кляштараў, і да 1864 г. дамініканскі ордэн перастаў існаваць на Беларусі, а на пачатку XX ст. — і на тэрыторыі ўсёй Расійскай імперыі. Адным з апошніх у 1864 годзе быў зачынены кляштар сясцёр дамініканак у Наваградку. Законніцы трапілі ў кляштары іншых жаночых кангрэгацый: 21 — у кляштар брыгітак у Гародні, 11 — у кляштар бэнэдыктынак у Мінску. Кляштарны маёнтак быў канфіскаваны на карысць дзяржавы і прададзены з аўкцыёну — былі страчаныя многія творы мастацтва, бібліятэка і архіў. Зямельныя надзелы прадаваліся або адыходзілі дзяржаве, часта ва ўладанне царскім чыноўнікам. Кляштарныя і касцёльныя забудовы перадаваліся Праваслаўнай Царкве, касцёлы перараблялiся ў цэрквы, часам цалкам разбураліся, а на іх месцы ствараліся новыя святыні. Праваслаўнай Царкве былі перададзеныя дамініканскія касцёлы ў Астраўцы, Васілішках, Віцебску, Гародні, Дзярэчыне,

Дунілавічах, Заслаўі, Княжыцах, Пінску, Стоўбцах, Хатаевічах, якія былі пераробленыя ў цэрквы. Частка будынкаў передавалася розным свецкім інстытутам: гарадскому магістрату, школам, казармам, шпіталям і вязніцам. Мноства былі разабраныя або з часам разбурыліся. Палітыка расійскіх уладаў прывяла да поўнага знішчэння манаскага жыцця ў Беларусі ў Расійскай імперыі.

У міжваенныя часы, калі частка беларускіх земляў знаходзілася ў межах II Рэчы Паспалітай, дамінікане не вярнуліся ў свае ранейшыя асяродкі, хоць некаторыя біскупы запрашалі іх у свае дыяцэзіі. Браты змаглі ізноў вярнуцца на гэтыя тэрыторыі толькі калі Беларусь атрымала незалежнасць у 1990 годзе.

Гісторыя присутнасці ордэну св. Дамініка на беларускіх землях пацвярджае, што браты прапаведнікі пакінулі тут вялікую спадчыну. Сёння пасля іх захаваліся барочныя святыні, а часам і цэлыя кляштарныя комплексы, напрыклад, добра захаваўся касцёл у Княжыцах, яскравы ўзор беларускага барока. Дзесьці дамініканскі след захаваўся ў назвах вуліцаў, але часта няма ўжо і гэтага. Дамінікане стварылі вялікія кнігазборы: найбольшую бібліятэку яны мелі ў Гародні — ад 10-ці да 15-ці тысяч тамоў. Цяпер значная яе частка знаходзіцца ў Гісторыка-археалагічным музеі горада. Вялікая бібліятэка была таксама і пры кляштары св. Тамаша Аквінскага ў Мінску. Пры многіх дамініканскіх кляштарах дзейнічалі друкарні, напрыклад, у Наваградку і Гародні.

Даследаванні прысутнасці і дзейнасці дамініканскага ордэну на землях Беларусі маюць вялікае значэнне, бо яны паглыбляюць нашыя веды пра ролю і значэнне манахаў у выхаванні рэлігійнага, грамадскага і культурнага аблічча гэтых земляў, а таксама спрыяюць рэлігійнай тоеснасці сённяшніх беларускіх католікаў. Самім жа дамініканам, якія працуюць цяпер на Беларусі, гэтыя даследаванні дапамагаюць знайсці карані ордэну, якія цягнуцца яшчэ з Сярэднявечча, дапамагаюць звярнуцца да вялікай спадчыны, якую некалькі стагоддзяў стваралі іх папярэднікі, пра што сёння сведчаць толькі ацалелыя святыні або іх руіны. А там, дзе не засталося ніводнага матэрыяльнага знаку дамініканаў, адзіным следам можа быць гістарычная памяць, якую трэба захоўваць і перадаваць іншым пакаленням, каб яны ўсведамлялі, што некалі было таксама духоўнаю і культурнаю моцаю беларускіх земляў.

---

[1] Гл.: Мараш, Я. Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569–1795). – Мінск, 1971; гл.: Белозорович, В. А. Концепция католической Церкви в работах профессора Я. Н. Мараша // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа. Ч. 1 / рэд. С. В. Марозава, Э. С. Ярмусік, С. У. Сілава. –Гродна, 2008. – С. 32–36.

[2] Гл.: Ганчарук, І. Г. Навучальныя ўстановы рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі: канец XIV-XX ст.; Беларусіка=Albaruthenica, т. 6: Беларусь паміж Усходам і Захадам. Прабемы міжнацыянальнага, міжрэлігійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу. Ч. 1. – Мінск, 1997. – С. 180–188; Становішча і арганізацыйная структура Рымска-каталіцкага Касцёла на беларускіх землях у складзе Расейскай імперыі (1772–1830 г.) // «Гістарычны альманах». – Т. 6. – 2002. – С. 96–116; Каталіцкія манаскія ордэны на Беларусі ў 1770–1820-я гады // «Гістарычны альманах». – Т. 9. – 2003. – С. 183–196 (гл. таксама час. «Наша вера», № 4 (30), 2004, с. 66–71); Каталіцкая Царква і культура на беларускіх землях: Навуковая канцэпцыя экспазіцыйнай тэмы Гродзенскага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа. Ч. 2 / рэд. Э. С. Ярмусік, С. В. Марозава, С. У. Сілава. – Гродна, 2009. – С. 233.

[3] Зянюк, Р. У. Адукацыйная дзейнасць ордэна дамініканцаў у заходніх губернях Расійскай імперыі к. XVIII–XIX ст. // Історія релігій в Україні. Науковий щорічник. Кн. 1. – Львів, 2008. – С. 338–345; Дзейнасць каталіцкага духавенства ў галіне адукацыі ў Гродне ў канцы XVIII- XIX ст. // Гарадзенскі палімпсест. – Мінск, 2012. – С. 195–207; Навучальныя ўстановы пры Забельскім дамініканскім кляштары (1716-1857 гг.). // Віцебскія старажытнасці. Матэрыялы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння Л.В.Аляксеева. Віцебск, 28-29 кастрычніка 2010 г. – Мінск, 2012. – С. 351–356.

[4] Самусік, А. Ф. Асветніцкая дзейнасць дамініканскага ордэну на беларускіх землях у XVIII – першай трэці XIX ст. // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа. Ч. 2. – С. 197–202.

[5] Самусік, А. Ф. Дзейнасць манаскіх ордэнаў у галіне адукацыі на Беларусі ў першай трэці XIX ст. // «Гісторыя. Праблемы выкладання». – Т. 1. – 1998. – С. 37–47; Манаскія гімназіяльныя вучылішчы Гродзенскай губерні ў першай трэці XIX ст. // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Серыя 1, Гісторыя, філасофія, паліталогія, сацыялогія. – 2008. – № 3. – С. 44–47; Становішча адукацыйнай справы на беларускіх землях у канцы XVIII – пачатку XIX ст. // Весці Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта. Серыя 2, Гісторыя. Філасофія. Сацыялогія. Эканоміка. Культуралогія. – 2007. – № 3 (58). – С. 3–7.

[6] Парфёненка, В. В. Пачаткі свецкай адукацыі ў Гродне (першая палова XIX ст.) // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа. Ч. 1. – С. 207–212.

[7] Ліхач, Т. Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. – 2000. – № 1 (11), № 2 (12); Харалы і рукапісы нясвіжскіх дамініканцаў // Нясвіж-Nieśwież. Historia-kultura-sztuka: materiały konferencji naukowej w Nieświeżu (1994, 1997). – Warszawa–Mińsk, – 1998. – С. 94–98.

[8] Ліхач, Т. Арганы і званы каталіцкіх касцёлаў Беларусі // Мастацтва. –1995. № 4; Каталіцкія інструментальныя капэлы Беларусі // Мастацтва. – 1996. № 10; Тэорыя харальных спеваў на Беларсі. – Минск, 1999.

[9] Слюнькова, И.Н. Монастыри восточной и западной традиций. Наследие архитектуры Беларуси. – Москва, 2002.

[10] Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. – Мінск, 1984–1987; Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. – Мінск, 1993.

[11] Рэлігія і царква на Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. – Мінск, 2001; Кулагін, А. М. Каталіцкія храмы Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. – Мінск, 2008.

[12] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. – Мінск, 1993–1999

[13] Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя: у 3 т. / рэд. Г.П. Пашкоў. – Мінск, 2005.

[14] Габрусь, Т. Святыні ордэна прапаведнікаў // Наша вера. – 2003. – № 3; Наша вера. – 2004. – № 1.

[15] Кулагін, А. М. Герасімовіч, У. А. Беларусь у малюнках Напалеона Орды. Другая палова XIX стагоддзя. – Мінск, 2001.

[16] Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Ч. 1: Будслаўскі, Вілейскі і Мінскі дэканаты. – Мінск, 2003; Саявец, А. А. Каталіцкія храмы на Браслаўшчыне // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа. Ч. 2. – С. 310–314; Васькоў, У. Католікі на абшарах Панізоўя і Севершчыны. Гісторыя Гомельскага дэканата. – Мінск, 2011.

[17] W. Syrokomla, *Szkolne czasy, nowe opowiadanie Jana Dęboroga.*; *Pisma epiczne i dramatyczne*. T. 1. — Poznań, 1868.

[18] W. Syrokomla, Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wspomnienia, studja historyczne i obyczajowe. — Wilno, 1853, — с. 182-183. Пар. *Ułamki pamiętników Władysława Syrokomli*. «Gazeta Warszawska». R. 97. 1870, № 90 i 91).

# «ВЫХОДЗІЦЬ НАСУСТРАЧ...»


Генеральны магістр Ордэну прапаведнікаў, айцец дамініканін Бруна Кадорэ.

***На пачатку сакавіка ў Каталіцкім Касцёле Беларусі адбылася важная падзея: упершыню з візітам да нас завітаў генеральны магістр Ордэну прапаведнікаў, айцец дамініканін Бруна Кадорэ. Ён даў інтэрв'ю нашаму часопісу.***

*— Ойча, гэты год у Касцёле аб'яўлены Годам кансэкраванага жыцця: распавядзіце, калі ласка, пра сваё ўласнае пакліканне.*

— Мне заўсёды цяжка адказваць на падобныя пытанні. Ведаеце, калі праходзіць шмат часу, вы можаце распавесці ўжо толькі прыгожую гісторыю, але не абавязкова памятаеце, як усё адбывалася насамрэч.

Кансэкраваныя асобы пакліканыя нагадваць і падкрэсліваць, што Касцёл сапраўды стане Касцёлам толькі тады, калі будзе прапаведаваць — так, як гэта было ад самага пачатку. З Евангелляў, чытаючы пра публічнае жыццё Хрыста, мы даведваемся, што Ён проста пачаў прапаведаваць. Ён сустракаўся з людзьмі, клікаў іх за сабою, і маленькая супольнасць сабралася вакол Яго, жыла з Ім, ішла за Ім, глядзела на Яго і спрабавала зразумець Яго шлях — казаць пра Айца. Яны бачылі, як Езус тлумачыць Пісанне, прамаўляе да людзей, як Ён, поўны спачування, імкнецца вызваляць тых, хто зняволены хваробаю, грахом, грамадскім неразуменнем. Езус проста жыў разам з людзьмі так, што выклікаў у іх жаданне пазнаваць слова Божае, даючы ім свабоду і заклікаючы быць адным цэлым, супольнасцю. Я сказаў бы, што пакліканне кансэкраваных асобаў у Касцёле — нагадваць, што на самым пачатку Касцёл узнік як супольнасць прапаведавання. У гэтым нашае жыццё.

*— І ўсё ж, як Вы прыйшлі да манаства? Ці бярэ Вашая вера пачатак з сям'і?*

— Сям'я перадала мне веру. А манаства — гэта мой выбар, які сям'я проста прыняла... Мне здаецца, упершыню я адчуў гэта гадоў у 16–17: калі я быў у Тэзэ, то зразумеў, што ёсць нешта вельмі асабістае паміж мною і Хрыстом, і сказаў бацьку, што манаскае жыццё мне вельмі падышло б. Але тады я толькі што пачаў вучобу ў медыцынскай школе, сям'я гэтаму цешылася, і бацька сказаў, што маё жаданне — добрае, але спачатку трэба скончыць адно і тады ўжо пачынаць другое. Я працягнуў вучобу, і ў нейкі момант мне здалося, што я забыў гэтую асабістую сустрэчу з Хрыстом. Але час ад часу яна ўзгадвалася, і прыйшоў момант, калі адчуванне стала такім ясным, што я зразумеў, што гатовы да манаства.

Але нават у кляштары асабістая сустрэча з Езусам вельмі важная, а яе, здараецца, адкладваюць. Гэта не пытанне веры, але важна ўсведамляць, што Езус — мой сябра і сапраўды прымае мяне такім, якім я ёсць. Для Яго не істотна, што я недасканалы, але істотна, што я побач з Ім. Гэта і ёсць асабістая сутрэча.

Тое ж датычыць і манахаў. Час ад часу і мы можам думаць, што здольныя пабудаваць сваё дасканалае жыццё самі: канешне, у імя Хрыста, але самае галоўнае ў ім буду я сам. Аднак найважнейшае ў адносінах з Боскім Сябрам — тое, што Ён — самы галоўны, Ён прымае мяне такім, якім я ёсць, а не такім, якім хачу быць для Яго. А гэта прыняць вельмі няпроста.

*— А чаму менавіта дамініканскі Ордэн?*

— Дамініканская супольнасць — гэта як адкрыццё. Мне было 22–23 гады, я лячыў дзяцей з захворваннямі крыві, лейкеміяй. Я бачыў смерць дзяцей, гора бацькоў і быў вельмі ўражаны, што, нягледзячы на гэтыя страшныя рэчы, свет працягвае жыць,

а дзеці здольныя быць вельмі стойкімі, вельмі моцна супрацьстаяць смерці. Я абавязаны медыцыне сваім уступленнем у Ордэн, бо менавіта гэты досвед змусіў мяне спытацца, што такое сапраўднае жыццё і дзе ў ім Бог.

Аднойчы, зайшоўшы ў капліцу, я сустрэў дамінканаў, якія маліліся Нешпары. Я не ведаю, чаму пайшоў туды. Яны здаліся мне такімі свабоднымі, радаснымі, гаварылі пра Божае слова і пра Бога — Бога, які прамаўляе да людзей. І я адчуў, што гэта тое, чаго я шукаю, хоць спецыяльна не шукаў і не ведаў, хто гэта такія. Я нічога не ведаў і пра іншыя манаскія супольнасці, а ўпершыню сустрэў езуіта толькі праз 10 гадоў свайго дамініканскага жыцця.

*— Хто для Вас асабіста стаў важнаю постаццю ў дамініканскім Ордэне?*

— Я далучыўся да Ордэну ў 1979 годзе, вельмі даўно, і на працягу ўсяго часу меў шчасце сустракаць побач са мною мноства цудоўных братоў, якія сыгралі вельмі важную ролю ў маім жыцці. Але калі казаць пра святых Ордэну, асабліва важныя менавіта для мяне асобы — гэта святы Дамінік і святы Марцін дэ Порэс. Мне здаецца, святы Дамінік быў адным з тых, хто разумеў: каб пабудаваць Ордэн прапаведнікаў, трэба проста глядзець, як Езус будаваў сваю першую супольнасць. Чытаючы Евангелле, можна зразумець, што ў пэўным сэнсе Езус быў першым прапаведнікам, а святы Дамінік адчуў, як наследаваць Езуса ў прапаведаванні: Ён сустракаўся з людзьмі, размаўляў з імі пра Бога, паказваў, як размаўляць з Богам — а гэта самая важная размова для чалавека.

Святы Марцін — гэта святы спачування і прыклад таго, што нават калі вас адкідаюць, вы можаце знайсці сваё месца ў жыцці. На мяжы XVI і XVII стагоддзяў для Марціна, які быў крэолам (сынам збяднелага шляхціца і цёмнаскурай нявольніцы), немагчыма было стаць манахам, але ён стаў і зрабіў шмат дабра.

Яшчэ адна асоба, важная для мяне — гэта благаслаўлёны Жан Жазэф Латаст, беатыфікаваны некалькі гадоў таму. Ён прапаведаваў у турмах і стаў сведкам таго, што, калі вы нясеце дар Божага слова людзям, вы дапамагаеце ім зразумець, што Бог рады весці размову з усімі людзьмі, і грэшнымі, і не грэшнымі, вядомымі і невядомымі, свабоднымі і тымі, хто ў турме. Айцец Латаст заснаваў цудоўную манаскую супольнасць сясцёр бэтанак, куды прымалі, апроч іншых, і былых зняволеных. Там ніхто не высвятляў мінулае чалавека. Гэтая супольнасць пацвярджала: ведаць пра колішняе ўчыненае зло — неістотна, самае галоўнае — тое, кім чалавек з'яўляецца цяпер. Мы кажам пра Ордэн прапаведнікаў як пра Ордэн міласэрнасці, а праз прызму Божай міласэрнасці важна не тое, што ты ўчыніў у мінулым, а тое, хто ты сёння.

*— Ці практыкуеце Вы 9 спосабаў малітвы святога Дамініка? Ці лічыце іх актуальнымі сёння?*

— Так, але, ведаеце, гэта не столькі спосабы, колькі напамін пра тое, што неабходна для малітвы. Найперш яны паказваюць неабходнасць усвядоміць, што чалавек — грэшны, у ім самім няма сілы прапаведаваць або ведаць нешта пра слова Божае. У пэўным сэнсе першыя тры спосабы малітвы адпавядаюць распаўсюджанай у праваслаўнай традыцыі Езусавай малітве — проста гаварыць: «Езу, Сыне Божы, змілуйся нада мною», таму што я — грэшнік. Важна ведаць, што святы Дамінік заўсёды пачынаў маліцца, кажучы: «Я не ўмею прапаведаваць, я не магу сказаць нічога пра Тваё слова, але дзякуючы Тваёй міласэрнасці я магу гэта. Калі я прапаведую, гэта не я сам, а Ты прапаведуеш ува мне».

Другі момант, якому вучаць 9 спосабаў малітвы — гэта разуменне таго, што ў аснове нашай веры ляжыць ахвяра Хрыста, які аддаў жыццё за чалавека. У спосабах малітвы святога Дамініка цэнтральнае месца займае крыж і Езус Укрыжаваны. Сын Божы прыходзіць, каб аддаць сваё жыццё, і такім чынам новае жыццё атрымлівае і ўсё чалавецтва. Ёсць толькі адзін крыж — крыж Хрыста. І паводле дамініканскіх спосабаў малітвы проста адарацыя крыжа дае дух, пасілак і жыццё.

І апошняе — дамініканскія спосабы малітвы дзеляцца на дзве часткі. Першая — сузіранне праўды. Апісваюць, як святы Дамінік маліўся праз вучобу. Калі вы вучыцеся, разумовыя здольнасці могуць адкрыць вам шлях да сузірання прысутнасці Пана Бога ў вашым розуме. Другая частка — неабходнасць прапаведаваць. Прапаведуючы, вы можаце сузіраць, як прапаведаваў сам Езус, і абавязак дамініканіна — не ганарыцца сваім прапаведаваннем, а ўзяць на сябе адказнасць заступніцкай малітвы за тых, да каго ён пасланы. Прапаведнік павінен не проста гаварыць, а звязваць уласны лёс з лёсам тых, да каго ідзе прапаведаваць, і маліцца за іх Пану. Гэта адны з найбольш важных характарыстык дамініканскай малітвы.

*— У шматвяковай гісторыі дамініканскага Ордэну былі і балючыя, чорныя старонкі, якімі часта папракаюць Касцёл. Для многіх словы «дамінікане» і «інквізіцыя» — сінонімы. Як Ордэн і Вы асабіста ставіцеся да гэтай часткі гісторыі?*

— Перш за ўсё трэба сказаць,

што дамінікане не нясуць адказнасці за ўзнікненне інквізіцыі. Гэтае «вынаходжанне» не належыць ні нашаму Ордэну, ні іншым манаскім супольнасцям, гэта наогул не было ініцыятываю Касцёла. Святы Дамінік не меў ніякага дачынення да інквізіцыі — яна ўзнікла ўжо пасля яго смерці. Аднак нельга забываць, што падчас існавання інквізіцыі і свецкія, і касцёльныя ўлады звярталіся да манаскіх супольнасцяў, асабліва да дамініканаў і францішканаў, а пазней да езуітаў, запрашаючы іх быць інквізітарамі, і некаторыя з братоў дамініканаў прымалі гэтыя прапановы і займалі гэтыя пасады. У тыя далёкія часы далучыцца да інквізіцыі было вялікім гонарам, і некаторыя тагачасныя гісторыкі, у тым ліку і гісторыкі-дамінікане, перабольшвалі рэальную ролю Ордэну ў інквізіцыі, бо тады гэта ўспрымалася як годная справа. Тады, як і ў некаторыя іншыя эпохі гісторыі, здавалася прымальным у Божае імя браць на сябе ўладу над людзьмі, але так быць не павінна, і мне здаецца, усім нам трэба пра гэта памятаць. Ніхто не мае права ў імя Божае вырашаць, што мае ўладу над жыццём іншага чалавека, ставячы на ёй адзнаку сакральнасці. Важна менавіта сёння нагадваць пра гэта, бо існуе спакуса вярнуцца да мінулага. Узгадайма, што Езус быў укрыжаваны, калі сказаў першасвятарам, што яны не могуць браць на сябе ўладу Бога — уладу над людзьмі.

Я лічу, што абавязак Каталіцкага Касцёла — казаць, што мы, на жаль, маем падобны досвед, і ведаем, што так не павінна быць. Таму сёння важна, каб мы папярэджвалі пра падобную небяспеку. Але пры гэтым мы часта не гаворым гэтыя важныя словы: «Так, мы ў гэтым вінаватыя, мы калісьці чынілі гэта самі. І менавіта таму кажам, што так нельга рабіць». Мала проста сказаць: «Так няправільна», гэта недахоп пакоры — не прызнаваць сваіх памылак. Інквізіцыя — гэта чорная старонка нашай гісторыі, але не адзіная. Былі і яшчэ. Дамініканскі Ордэн, як і іншыя манаскія супольнасці, браў удзел у каланізацыі многіх краінаў. І мы мусім сказаць: «Так, у гэтым ёсць наша віна, мы просім прабачэння за тое, што ўчынілі, і больш за тое — мы не можам забыць, што ў мінулым рабілі гэтыя памылкі, і таму разумеем, чаму гэта не павінна паўтарыцца».

*— Дазвольце яшчэ асабістае пытанне. У Вас медыцынская адукацыя, Вы з'яўляецеся выкладчыкам біяэтыкі ва ўніверсітэце і працягваеце працаваць у гэтай сферы, застаючыся манахам. Як Вашае манаскае пакліканне стасуецца з пакліканнем да медыцыны, якое таксама патрабуе вялікага аддання?*

— Я не меў вялікай практыкі ў сферы медыцыны, калі стаў манахам. Я займаўся практычнаю медыцынаю, калі працаваў на Гаіці, дзе было вельмі мала дактароў. Пасля гэтага я займаўся выкладчыцкаю працаю, навучаў медыцынскай этыцы ва ўніверсітэце, а гэта не зусім практычная медыцына.

Для мяне сувязь паміж медыцынаю і манаствам — гэта спачуванне чалавеку і спазнаванне праўды пра чалавечае жыццё. Спачуванне — таму што, займаючыся медыцынаю, вы сутыкаецеся з цяжкасцямі іншых людзей, бачыце іх хваробы, праблемы, разбітае жыццё. Вы бачыце, што быць чалавекам — няпроста. Але сярод гэтых цяжкасцяў ёсць і радасці, калі праблемы нарэшце вырашаюцца. І галоўнае ў тым, каб зразумець, што такое насамрэч жыццё, у чым праўда і сіла жыцця, адкуль яна бярэ пачатак. Я думаю, у гэтым сутнасць медыцыны.

Магчыма, яшчэ адна яе сувязь з манаствам — гэта вельмі моцнае адкрыццё таго, хто такі чалавек. Займаючыся медыцынаю, вы бачыце, як хворы чалавек вымушаны давярацца іншаму чалавеку — доктару, які ім апякуецца, не ставячы ніякіх умоваў, а доктар у сваю чаргу павінен клапаціцца пра хворага проста каб дапамагчы яму, без асабістай зацікаўленасці. Адносіны хворага і доктара кажуць нешта сапраўды важнае пра чалавека і чалавецтва, яны паказваюць людзям, што можна дапамагаць без умоваў і без асабістай зацікаўленасці, і гэтак чалавецтва можа ўзрастаць.

*— Гэта падобна да сутнасці хрысціянскай любові...*

— Так, перш за ўсё гаворка ідзе пра чалавечую здольнасць давяраць іншаму чалавеку, атрымліваць гэты давер і служыць іншаму. Усвядоміўшы гэта, мы можам разважаць пра тое, хто такі Бог, што стварыў чалавека з падобнаю здольнасцю, і тады зразумець, што гэты Бог адкрывае нам сваё імя ў Хрысце — сваім Сыне, які ўцелаўляецца як абсалютны Бог і абсалютны чалавек і развівае сваю чалавечнасць да максімуму магчымасцяў. Цуд у тым, што свет быў створаны добрым, і ў гэтай дабрыні прыходзіць Хрыстус, які паказвае, што ў ёй уся сутнасць чалавечай прыроды. Калі прыняць дабрыню ў сабе і развіваць яе, вы зможаце адкрыць шлях да Айца з дапамогаю той самай дабрыні, якую Ён даў вам спрадвеку.

*— Часта кажуць, што медыкі або вельмі веруючыя людзі, бо яны бачаць цуд аздараўлення, або атэісты, бо адчуваюць сваю вялікую ўладу над чалавечым жыццём. Вы згодны з такім меркаваннем?*

— Я не думаю, што рэальнасць такая двухбаковая: або адно, або другое. Мне здаецца, усё больш складана. Для мяне больш важна быць упэўненым, што я магу давяраць іншаму. Ва ўсіх людзей, незалежна ад іх веры, ёсць адна агульная рыса —здольнасць быць добрым. Вось што мае значэнне. Апроч таго, некаторыя, дзякуючы менавіта прыроджанай здольнасці быць добрымі, могуць знайсці свой шлях да Айца.

*— Чаму менавіта пытанні біяэтыкі маюць такое вялікае значэнне цяпер, калі медыцына так хутка развіваецца і дае велізарныя магчымасці чалавеку?*

— Справа ў тым, што біяэтыка змяняецца ў кантэксце чалавечага жыцця і змяняе сам гэты кантэкст. Гэта развіццё ведаў пра чалавека, клопат пра яго, але разам з гэтым развіццём ведаў і практычных магчымасцяў змяняецца і сам кантэкст жыцця. Яшчэ трыццаць гадоў таму да нараджэння дзіцяці немагчыма было ведаць, якім будзе яго здароўе. Сёння мы можам даведацца пра гэта. Зусім нядаўна маладыя бацькі адразу пасля нараджэння вельмі хворага дзіцяці павінны былі знайсці сілы і падтрымку сям'і і сяброў, каб прыняць гэтую праблему. Сёння яны будуць ведаць пра гэта да нараджэння дзіцяці і перад імі ўстануць іншыя праблемы.

Прэнатальная дыягностыка — гэта добра. Я ведаю шмат сітуацый, калі дзякуючы ёй да нараджэння дзіцяці былі вылечаныя многія хваробы. Але часам мы ведаем, што дзіця народзіцца вельмі хворым, аднак нічога не можам з гэтым зрабіць. Тады людзі становяцца ўжо перад праблемамі маралі: ці прыняць хворае дзіця, ці даць яму нарадзіцца, ці змогуць яны клапаціцца пра яго самі і даць яму дастаткова любові.

Гэтак жа адбываецца напрыканцы чалавечага жыцця. Гэты кантэкст сёння таксама новы, бо дзякуючы медыцыне мы можам паклапаціцца пра пажылых людзей і дапамагчы ім пражыць доўга нават з вельмі слабым здароўем. Гэта нова і нязвыкла для чалавецтва. Досвед чалавечага жыцця становіцца зусім іншым, і патрэбны час, каб навучыцца гэтым усім кіраваць. Рызыка ў тым, каб выкарыстанне медыцыны не стала вырашальным для штучнага спынення жыцця. Сёння біяэтыку найчасцей успрымаюць менавіта ў сувязі з магчымасцю перарывання жыцця. Я ж лічу, што яе галоўная задача — знайсці новы спосаб жыць у новых абставінах, знайсці новае адчуванне жыцця як вялікай каштоўнасці.

У зменах кантэксту жыцця мы мусім падтрымаць працу над развіццём чалавечай маральнасці, каб яна магла ў пэўным сэнсе падпарадкаваць сабе кантэкст чалавечага жыцця, авалодаць ім. Я лічу, што сённяшнія навуковыя інавацыі — гэта заклік паглыбіць маральныя здольнасці чалавека, не толькі індывідуальныя, але маральныя здольнасці супольнасці. І гэта таксама вялікая задача Касцёла.

*— А як Вы глядзіце на становішча Касцёла ў Еўропе, і найперш у Францыі?*

— Я лічу, што ўсё ідзе добра. У Заходняй Еўропе мы ўжо каля 200 гадоў пасля Французскай рэвалюцыі вымушаныя сутыкацца з вельмі складанымі сітуацыямі, і таму я лічу прагрэсам тое, што адбылося строгае раздзяленне паміж дзяржаваю і Касцёлам, і мы кажам сёння: «Свецкасць таксама вельмі важная, і не змешвайце рэлігію са здольнасцю чалавека быць маральным без адносінаў з Богам». А гэта праўда. Чалавек можа быць маральным, не звяртаючыся да Бога. Адзін французскі філосаф сказаў, што цуд Божага стварэння ў тым, што чалавек ужо створаны маральным. Мы, вернікі, мяркуем, што чалавек маральны проста таму, што ён — Божае стварэнне. Гэта прыроджаная здольнасць. Асноўная думка філасофіі Канта — мне не патрэбны Бог, каб сказаць, што я не магу выкарыстоўваць іншага чалавека проста таму, што гэта чалавек. Я працаваў як выкладчык з філосафамі-марксістамі. Гэта былі маральныя людзі. Бог не патрэбны, каб проста быць маральнымі. Бог патрэбны нам для таго, каб зразумець, што Ён хоча размаўляць з намі, Ён хоча даць нам збаўленне.

*— А проста маральны чалавек можа атрымаць збаўленне?*

— Так, можа.

*— Але як без асабістай сустрэчы з Хрыстом?*

— Трэба пастарацца, каб людзі знайшлі кантакт з Езусам, будавалі з Ім адносіны. Я казаў, што чалавек створаны са здольнасцю быць маральным. Адкрыем Евангелле і паглядзім на прапаведаванне Езуса і мараль гэтага прапаведавання. Чаму яно вучыць? Сучаснікі Хрыста, слухаючы, як Ён кажа пра рэлігію, спачатку лічаць, што Яму лепш размаўляць з больш годнымі людзьмі, з тымі, хто паводзіць сябе так, як патрабуе рэлігія. Ён жа кліча ўсіх, бярэ з сабою мытніка Мацвея, абедае і з фарысеямі, і з грэшнікамі. Людзям гэта было незразумела.

Быць маральным — важна, але галоўнае — знайсці правільны шлях да Хрыста. Прыязджаючы ў іншую краіну, трэба перш за ўсё паказаць пашпарт. Але калі мы набліжаемся да Хрыста, нам не трэба паказваць пашпарт, бо гэта Ён кажа нам, хто мы. Я лічу, што сёння прыйшоў час надаць некаторым паняццям правільны

сэнс. Я каталік, і лічу вельмі важнаю маральную навуку Касцёла. Але, кажучы пра радасць быць католікам, я не хачу гаварыць пра мараль. Я хачу гаварыць пра Таго, Хто любіць мяне і прабачае мне, бо я недасканалы.

*— Вернемся да становішча Касцёла ў цяперашнім свеце.*

— Мы сутыкаемся з многімі цяжкасцямі, але Касцёл у многім быў вінаваты сам, паводзячы сябе няправільна. Я маю на ўвазе, што Касцёлу як структуры трэба было зразумець: ён мае рацыю не таму, што ён — Касцёл. Мы мусілі сутыкнуцца з гэтым, прыняць і перабудаваць свае адносіны з людзьмі. І я бачу, што пасля цяжкіх часоў, у прыватнасці ў Францыі, справы пайшлі добра. У Касцёле ніколі раней не было столькі людзей з добрай фармацыяй, якія ведаюць Біблію, тэалогію, могуць навучаць, катэхізаваць. Гэта праўда, што ў касцёлах людзей стала менш, але адначасова ў нас больш моцныя і з'яднаныя эклезіяльныя супольнасці. Каб быць праўдзівым, я скажу, што, падарожнічаючы па свеце, я вельмі часта вымушаны чуць, што паходжу з вельмі няверуючай краіны, але я думаю, што гэта несправядлівыя словы. Сутнасць у тым, што Касцёл у Францыі, Бельгіі, Нідэрландах, Іспаніі, вельмі хутка і ў Італіі таксама, павінен вярнуцца да таго, чым ён павінен быць насамрэч, да сваіх спрадвечных каранёў. І тады, калі вы не зможаце сказаць, што маеце інстытуцыянальную ўладу, вашая пазіцыя будзе грунтавацца толькі на веры. У Іспаніі, напрыклад, Касцёл перажывае цяпер цяжкія часы, бо ў мінулым меў занадта вялікую ўладу — большую, чым меў права. І людзі кажуць: не, гэтаму прыйшоў канец. Цяпер настаў час будаваць Касцёл вераю, а не ўладаю.

*— Гэтак Вы бачыце шлях Касцёла да зменаў...*

— Я мяркую, што гэта вельмі-вельмі важна. Прыгажосць Касцёла не мае нічога супольнага з інстытуцыянальнаю ўладаю, але, праўду кажучы, мы часта забываемся пра гэта.

*— У нашай размове часта гучыць слова «мараль». Цяпер многія людзі баяцца гэтага паняцця, бо лічаць маральнасць навязаным правілам, якое падаўляе асобу і яе правы. У чым прычына такога меркавання? Як апраўдаць мараль для чалавека?*

— Я не думаю, што людзі баяцца маральнасці, насамрэч гэта страх моцных інстытутаў і арганізацый, якія загадваюць ім, што рабіць, як думаць і якімі быць. Менавіта гэта выклікае супраціў. І ў пэўным сэнсе людзі маюць рацыю: ніякая арганізацыя, у тым ліку і рэлігійная, не мае права аддаваць ім загады. Галоўная задача Касцёла, напрыклад, не гаварыць людзям, што рабіць, а найперш распавядаць, хто такі Бог. Гэта не адно і тое ж. Пасля гэтага, мне здаецца, мы можам дапамагчы чалавеку адкрыць у сабе здольнасць бачыць, што сапраўды з'яўляецца добрым, а што — дрэнным для яго і для іншых, і для ўсяго чалавецтва ў цэлым; мы можам дапамагчы чалавеку пачаць ганарыцца сваёю здольнасцю адрозніваць добрае ад злога. Гэта не недахоп свабоды, не пазбаўленне яе, а наадварот. Для любога чалавека важней, каб яму дапамаглі адкрыць у сабе здольнасць бачыць гэтую розніцу, а не загадалі проста рабіць так ці гэтак, нібыта ён сам не ўмее думаць, і таму яго трэба абмежаваць і прымусіць. Таму я перакананы, што ў Касцёле неабходна менш гаварыць пра тое, што трэба рабіць, а больш пра тое, хто такі Бог, і ў сувязі з гэтым — пра тое, хто такі чалавек як Божае стварэнне.

*— І мы павінны вучыць людзей думаць правільна?*

— Думаць не спяшаючыся, не баяцца памылак і ўпадкаў, паразаў. Нашае жыццё поўнае памылак, у кожнага чалавека іх шмат, і ў вас, і ў мяне, аднак нікога нельга судзіць толькі па гэтых памылках, абмяжоўваць асобу толькі тым дрэнным, што яна ўчыніла. Але кожнаму трэба дапамагчы навучыцца разумець, чаму гэта было няправільна, памылкова. Таму мы мусім дапамагаць людзям думаць, проста думаць і ганарыцца гэтаю сваёю здольнасцю.

*— Мы часта чуем, што на Захадзе пануе бездухоўнасць. Аднак, мне здаецца, што там, нягледзячы на «перабольшаную» маральную свабоду ёсць большая любоў і пашана да бліжняга ў звычайным штодзённым жыцці, якой у нас часта не хапае. Мы часта ходзім у святыні і молімся, але адзін аднаго не заўсёды любім.*

— Найперш я лічу, што не можа быць «перабольшанай» свабоды. Свабода проста існуе. Пытанне ў тым, кім яна кантралюецца. Чалавек па сваёй прыродзе здольны кантраляваць сваю свабоду. У некаторых краінах Касцёл спрабаваў кантраляваць свабоду, а ў некаторых гэта хочуць рабіць палітычныя рэжымы, і абодва жаданні — гэта адсутнасць павагі да чалавека. Чалавек здольны быць свабодным. Пытанне ў тым, як выхоўваць людзей, каб яны былі сапраўды свабоднымі, умелі валодаць сваёю свабодаю. Праблема краінаў Захаду ў тым, што патрэбна вельмі шмат часу на педагогіку свабоды, але гэта вельмі цікавы евангельскі выклік для нас.

У Евангеллі мы бачым, што Езус давярае свабодзе чалавека, Ён не наіўны і ведае, што часам чалавек не вельмі добра

карыстаецца гэтаю свабодаю. Езус давярае свабодзе Пятра, сустракаючы яго на беразе возера, і запрашае ісці за Ім. Гэтая ж свабода прыводзіць да здрады Пятра, які гаворыць: «Я не ведаю гэтага чалавека». Хрыстус ведае, што чалавеку вельмі складана карыстацца сваёю свабодаю...

*— А як прапаведаваць ва ўмовах гэтай свабоды, каб не навязваць нікому Евангелле і сваю веру?*

— Калі глядзець на Евангелле як на спосаб жыць, тады навязваць яго нельга. Калі ж глядзець на яго як на сустрэчу з Сябрам — гэта іншая справа. Калі я сустракаю сапраўднага Сябра, я прагну пра гэта распавесці, пазнаёміць з Ім іншых людзей. Я лічу, што галоўная задача евангелізацыі — казаць пра Евангелле як пра Езуса. Часта, распавядаючы пра Евангелле, мы трактуем яго найперш як маральную дактрыну, але евангелізаваць — значыць распавядаць пра Езуса. Мы часта думаем, што Касцёл пачынаецца з іерархіі або дактрыны, але гэта не так. Касцёл пачынаецца з таго, што чалавек асабіста сустракае Хрыста. Я вельмі ўражаны інтуіцыяй святога Дамініка ў тым, як наследаваць Езуса ў Яго прапаведаванні Божага Валадарства, у тым, як Ён сустракаў людзей, жадаў іх выслухоўваць, імкнуўся іх суцешыць, ацаліць, хацеў гаварыць з імі пра Айца. А людзі вакол Яго фармавалі супольнасць, ішлі за Ім далей і далей, пашыраючы кола тых, хто хацеў наследаваць Хрыста. Дамінік пажадаў будаваць супольнасць менавіта па гэтай мадэлі. Тамаш Аквінскі, кажучы пра жыццё прапаведніка, кажа пра жыццё Езуса. Сёння трэба паказаць свету супольнасці, якія хацелі б і спрабавалі б жыць, як Езус. Гэтыя супольнасці вучаць свабодзе праз сяброўства і наследаванне Езуса. Я лічу, што ў краінах Захаду, дзе ідзе вельмі бурны працэс секулярызацыі, мы праходзім цяжкі перыяд, які, аднак, дае нам вялікі шанец выйсці за свае межы, каб перадаваць свету евангельскае пасланне.

*— Яшчэ адно пытанне, звязанае з Вашымі словамі пра тое, што Касцёл павінен вярнуцца да сваёй першаснай сутнасці. Цяперашняя рэформа Рымскай курыі нейкім чынам звязаная з гэтым?*

— Я дакладна не ведаю, што збіраецца рабіць папа Францішак, і гэта не мая справа. Але я разумею, што Каталіцкі Касцёл мае спакусу быць вельмі моцным уплывовым інстытутам. І нам трэба супрацьстаяць гэтаму, сказаць цвёрдае «не». Што сапраўды важна — гэта будаваць нашую супольнасць на веры і міласэрнасці.

*— А што, на Вашую думку, самае вызначальнае ў сённяшнім Пантыфікаце?*

— Я думаю, што галоўнае — евангелізацыя. Але гэта заўжды самая важная задача для Касцёла. Я хачу сказаць, што важна разумець, што Касцёл — гэта не структура, якую трэба абараняць, а супольнасць, якую трэба будаваць. Мы не інстытуцыя, якая прадукуе сакрамэнты, заклікаючы людзей удзельнічаць у набажэнствах і быць спажывальнікамі сакрамэнтаў, мы — жывая супольнасць. Таму я лічу найважнейшым (я не кажу пра той ці іншы Пантыфікат, а пра Касцёл у цэлым) і самым галоўным заданнем Касцёла — прыняць цвёрдае рашэнне стаць моцнаю еднасцю, сапраўднаю супольнасцю хрысціянаў. Я, напрыклад, еду на Імшу ў сваёй парафіі не таму, што там Імша а 10-й гадзіне, і для мяне гэта зручней, чым а 8-й або а 18-й. Я паеду менавіта ў сваю парафію, бо там — мае браты і сёстры. У пэўным сэнсе мы пакліканыя выйсці па-за межы сваёй індывідуальнай веры і адкрыць сэрцы, каб цвёрда належаць да супольнасці веры. І я думаю, што гэта доўгі шлях.

*— Так. І зусім няпросты. Заўсёды цяжка адкрывацца для іншых людзей.*

—Таму што мы часта дазваляем Касцёлу як арганізацыі весці рэй у той ці іншай сітуацыі. Нам трэба вярнуцца назад да супольнасці, якой мы павінны быць. Я наогул лічу, што ў многіх месцах, нават у Цэнтральнай Еўропе, дзе колькасць вернікаў большая, цэлебруецца зашмат набажэнстваў. Трэба, каб іх было менш...

*— ... Каб сабраць людзей разам!*

— Менавіта так! Каб арганізаваць супольнасці, а не зручнае для людзей спажыванне сакрамэнтаў.

*— Гэта цікавая думка! І напрыканцы яшчэ адно пытанне: якая галоўная мэта Вашага цяперашняга візіту ў Беларусь?*

— Проста выслухаць маіх братоў. Проста сустрэцца з імі, пабыць з імі. Я мушу наведаць сваіх братоў дамініканаў паўсюль у свеце, і гэта я цяпер раблю. Што трэба рабіць у жыцці — дык гэта выходзіць насустрач іншым людзям, гэтым я і займаюся.

*— Айцец Бруна, дзякуй Вам вялікі за гэтую сустрэчу і за цікавую размову.*

*Размаўляла Юлія Шэдзько.*



# Васіль Зуёнак

**Васіль Зуёнак —** паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў 1935 г. у в. Мачулішча Крупскага раёна. Скончыў Белдзяржуніверсітэт. Працаваў у газеце «Піянер Беларусі», часопісе «Маладосць», сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Друкуецца з 1954 г. Выдаў зборнікі паэзіі «Крэсіва» (1966), «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980) і інш. Піша таксама для дзяцей. Жыве ў Мінску.

* * *

Нас двое на свеце:
Паэт і чытач.
Як родныя дзеці,
І смех наш і плач.
І хто з нас падсудны,
І хто з нас суддзя, —
Не ўсочыць аблудны
Крытычны бадзяк.

А што ўзварушылі
Жыццю напаказ
Святыя вышыні —
То толькі для нас.

Ніхто тут чынамі
Таптацца не змог.
І трэці між намі
Адзін толькі Бог.

## ЧЫТАЮЧЫ КНІГУ КНІГ

А ўсё-ткі Біблія — і ў святасці — тварэнне
Такое чалавечае, зямное —
Усё тут дзеецца пад нашым сутарэннем:
Ад жменькі гліны да каўчэга Ноя;

Ад грэшнай Евы да сляпца Адама,
Што побач жыў, а райскага не бачыў!..
Усё: ягнятка з Божымі слядамі
І ўрок тысячагоддзяў — грэх свінячы;

Будынак камунізму ў Вавілоне,
Што меркаваўся дублікатам раю;
І каласкі — як на калгасным полі
Мы ў час галодны — дбайна Рут збірае;

І тупае з Хрыстом-яздоўцам вослік,
І п'юць віно, і ў закусі — масліны;
Звяроў, кузюрак, птушак шматгалоссе,
Сухмень і дождж на горы і даліны... —

Зямное ўсё ў біблейскіх зімах-летах,
Усё пакрою і шыцця зямнога...

Дык што — сусвет канчаецца на гэтым?..

Спытайцеся, смяротныя, у Бога.

* * *

Закон фізічны на зямлі — падзенні,
Палёты — супрацьлегласці закон.
Супрацьстаяння гэтага саўдзельнік —
Я стаўлю, як гулец, жыццё на кон.

Не знаю: перамога ці параза
Мяне чакае сёння на крыжы.
Калі б вядома ўсё было — адразу
І лётаць расхацелася б, і жыць.

* * *

Слоў не штукуй, каб памаліцца,
З літанняў не чакай высноў
Зямных, імгненных, — прытуліцца
Да Боскай ласкі шмат шляхоў,
Абы душой не памыліцца:
Бог чуе ўсё без лішніх слоў.

## БІБЛЕЙСКІ МАТЫЎ

Натхнёна песняй цар Давід маліўся,
Кахаў жанчын, мячом красаў грамы...
Чытаю запаветныя псальмы —
І сам сабе пытаннем аб'явіўся:

Няўжо пракляцце вершыцца над светам
І назаўсёды тыя дні прайшлі,
Калі цары паэтамі былі
І царавалі на зямлі паэты?..

* * *

—Божа! Якую б музыку я тварыў!
Якія ў душы маёй моўкнуць сугуччы...
Чаму ж Ты мне дзверы ў той свет не адкрыў?..
...Музыка, як без яе мне балюча...

—О не, Мой сыне, я дар табе даў,
Каб ты беларускім словам пакутваў
І вечна ішоў па Маіх слядах:
Вольны — і ў безвыходнасць закуты...

## КВЕТКІ

Добрай вясны вам, людзі, —
Сонечнай, юнай, квяцістай.
Вясну за кветкі не судзяць:
Кветкі з душою чыстай.

Добрага лета вам, людзі!
У сонечнай абалонцы
Лета з кветкамі будзе:
Кветкі — равесніцы сонца.

Добрай вам восені, людзі, —
Хоць восень маўчыць аб гэтым,
Але вясна не забудзе,
Што ў яве пладоў — смерць кветак.

Добрай зімы вам, людзі:
Снежнай, марознай, завейнай, —
Кветкі ў душы не астудзіць
Зіма — і вясну не заменіць.



# Георг Освальд Котт

## «Каб зрабілася светла...»

Георг Освальд Котт — пісьменнік, паэт. Нарадзіўся ў 1931 г. у Зальцгітэры. Закончыўшы рамесніцкае навучанне, вывучаў дыеталогію і германістыку; працаваў выкладчыкам у прафесійнай школе і ва ўніверсітэце ў Гановеры. Аўтар радыёп’есаў, апавяданняў і вершаў, некаторыя з якіх пакладзеныя на музыку і перакладзеныя на розныя мовы. Аўтар 19-ці кніг, сярод якіх апошнія — выданні вершаў: «Больш за дванаццаць целаў у даўжыню» (Пфафэнвайлер, 1998), «Штодзённая праца» (Люнэнбург, 1999), «След ад воза» (Берген/Галандыя, 2001), «Палёт сарокі» (Хаўцэнберг, 2006). Узнагароджаны прэміяй «Новая кніга» ў Ніжняй Саксоніі і Брэмене (1998) і інш. Сябра ПЭН-клуба. Жыве ў Германіі, у Браўншвайгу.

### Чысты чацвер

яшчэ
не Вялікдзень

але ўсё далей і далей
гучыць сірэна «хуткай дапамогі»

як быццам да свята
ўсё супакойваецца

* * *

Старамодна
на сваім
дыване-самалёце
сядзіць Бог
усміхаецца і
кідае мне канат

вокам не міргнуў
папляваў я на далоні

спружыніста разбягаюся
каб скокнуць

тут падцягнуцца
проста дробязь

а я ўжо
спужаўся да смерці
што магу
зрабіцца пасмешышчам

* * *

Ні крыку лаянкі
ні грукату
падае свежы снег

асцярожна ўкладаюць
каціныя лапы
ружанец вакол дома

* * *

У штодзённых клопатах
пакінуць адну руку вольнаю
і дацягнуцца да зорак

* * *

Твар быў пусты
заззяў
калі ўбачыў травінку
якая паднімала ўгору асфальт

* * *

На небе ўсё робіцца ўпарадкавана
ўсход і захад сонца
арбіты спадарожнікаў

набліжаецца знічка
пстрыкае пальчыкам
паказвае нос

Галілей не даскоквае
плюхаецца ў ручай і не чуе
рогат Млечнага Шляху

* * *

Грузападымальныя краны
закрываюць кратамі неба

недасягальна

за агароджаю будпляцоўкі
стаіць більдшток[1]

адзін-адзінюткі.

* * *

Сёння сцяг не прыспушчаны
колеры перакульваюцца
жыццярадаснасць
б’е цераз край
а там
там яшчэ схаваны
блакіт матылька
які надае мужнасці зрэнцы вока —
прарочыць
фіялетавы колер ранаў

* * *

Сагнутая ад ранаў
твая спіна
кволыя
твае птушыныя костачкі

і вузялковае пісьмо
ў цябе на грудзях
апавядае як гэта
кожны дзень жыць нанава

* * *

Каб зрабілася светла
я прашу аб святле

адна
дзве
жменька
і больш
агнёвых саламандраў
ззяюць
сваёй жаўцізною

*Пераклад з нямецкай мовы*
*Алены Сямёнавай-Герцаг.*

[1] Драўляная ці мураваная калона з выяваю распяцця, Дзевы Марыі ці іншых святых, якую ўстанаўліваюць у каталіцкіх мясцовасцях каля дарогі, часам на будынку, дзеля чытання побач з ёю кароткай малітвы ці памінання нябожчыкаў, таму яе называюць таксама «малельнаю калонаю» (Betsäule). Некаторыя месцы ў Паўднёвай Германіі называюць «зямлёю Пана Бога» (Herrgottsland) ці Дзевы Марыі (Madonnenländle) з-за вялікай колькасці такіх калонаў.





Малюнак Марыны Мароз.

# Ніл Гілевіч і яго лірычны герой на шляху да боскасці

У яго адметным слове адбіліся шматлікія рэаліі часу, падзеі, факты, праблемы, канфлікты, найбольш значныя праявы жыцця народа, духоўны патэнцыял нацыянальнай інтэлігенцыі, яе маральнае і творчае аблічча. Па сутнасці, уся творчасць Ніла Гілевіча — гэта ўнікальна таленавітая кніга, пазначаная пячаткай мастакоўскага ўніверсалізму як у сцвярджэнні светапоглядных ідэалаў і прынцыпаў, так і ў сферы выяўлення дамінантных матываў і вобразаў, эстэтыкі пачуццяў, культуры палемікі, выверанасці мелодыі радка, фразы. Пры ўяўнай прастаце ўвасаблення жыццёвых карцін, малюнкаў і з’яваў у яго творах ёсць глыбіня мыслення і, як вельмі слушна сказаў эстэт, філосаф, літаратуразнаўца У. Конан, — «рэнесансная шматграннасць інтэлекту, адданасць сваёй Бацькаўшчыне — найперш» [1, с. 237]. Гэта цытата з літаратуразнаўчага эсэ У. Конана «На прасветлым алтары Радзімы» (2001), у якім постаць Ніла Гілевіча і працэс эвалюцыі яго таленту раскрываюцца, на першы погляд, традыцыйным шляхам — ад спасціжэння сутнасных асноў паэтычнага пісьма творцы на пачатку літаратурнага шляху і да трактоўкі мастацкіх адкрыццяў пісьменніка на мяжы XXI стагоддзя.

Цікавая выснова, якой падагульняе даследчык свае развагі пра знакавасць здзейсненага народным паэтам, заслужаным дзеячам навукі, педа-

гогам Нілам Гілевічам: «Апошнія гады на мяжы новага стагоддзя сталіся для паэта і рыцара нацыянальнай культуры шчодраю восенню. Заціхлі ранейшыя шквалы маладосці. Затое прыбавілася мудрасці, — чалавечай і пісьменніцкай відушчасці. У паэзіі ўсё часцей трапляюць хрысціянскія матывы, пакаяльныя вершы-малітвы» [1, с. 259]. Зрэшты, аўтар эсэ неаднойчы звяртаў увагу на выкарыстанне паэтам біблійна-хрысціянскіх матываў і характэрных малітоўна-спавядальных жанраў [1, с. 242, 244, 253, 254].

Яшчэ ў 60-я гады нарадзілася патрэба ў разуменні прысутнасці Боскага пачатку ва ўсім, што называецца жыццём. Адбывалася гэта праз абуджэнне эмацыянальнай памяці дзяцінства, праз асэнсаванне таго, як разумеўся з Богам слабадскі, гайнаўскі люд. І няхай у вершах сярэдзіны 60-х гадоў слова *«бог»* пішацца з маленькай літары (нават пры выкарыстанні па-народнаму свойскага, блізкага *«божа»* — верш «Я на поплаў выйшаў...»), відавочнай становіцца спроба Ніла Гілевіча зазірнуць у глыбінныя асновы светабыцця, наблізіцца да ўспрымання высокіх Боскіх запаветаў як праявы духоўнай культуры народа, яго фізічнай і маральнай сілы, унутранай красы, еднасці з прыродным светам.

Пазней, у 70-80-я гады, істотна пашыраецца і выкарыстанне паэтам адпаведнай лексікі (*Бог, Божа, німб, храм, душа, анёлак, крыж, рай, пекла...*) і характэрных выслоўяў (*Божа мілы, Божа моцны, дай вам бог, з божай ласкі* і інш.). Праўда, падобную лексіку Ніл Гілевіч выкарыстоўвае пераважна ў сатырычных вершах, найперш тады, калі дае водпаведзь заўзятым крытыкам або выкрывае праявы эстэтычнай глухаты, меркантыльнасці, прагі славы і чыноўнага крэсла («Урок сучаснага танца», «І нарэшце», «Кузьма», «Аднаму заўзятаму крытыку», «Непапраўны характар», паэма-камедыя «Формула іржавіны»).

У сістэме мастацкай вобразнасці лірыкі Ніла Гілевіча на самым пачатку 70-х гадоў стала прапісаўся эпітэт *«боскае»,* а часам *«божае»*, як выяўленне найвышэйшай дасканаласці, доўгачаканай радасці, выключнай значнасці або непераўзыдзенага хараства. Такога, як у наступных радках: *«Бомы жаўранкаў у звечарэлым полі.//Там, дзе студзіць цёплы дол раса,//Дзе з жытнёвых каласоў паволі//Выплывае божая краса»* [2, с. 232].

Пра тое, як нараджаюцца мастацкая ідэя і паэтычныя вобразы, можна знайсці цікавыя тлумачэнні ў выступленнях і інтэрв'ю пісьменніка. Так, на пытанне журналісткі В. Мядзведзевай (газ. «Звязда», 1999, студзень) адносна месца, якое выбраў бы паэт (сад, хату, вуліцу або лес), калі было б магчыма хоць на нейкі час вярнуцца ў краіну дзяцінства, ён сказаў наступнае: *«Не сад, не хату, не вуліцу, не лес, а — поле! Навакольнае поле — з пагоркамі і лагчынамі, <...> з крушнямі каменя на ўзмежках, з жоўтымі нівамі жыта і бялёсымі гонамі аўса, з блакітнымі разлівамі лёну, з белымі азярынамі грэчкі, з укрытымі ружовым і бэзавым цветам прасцягамі бульбы...»* [3, с. 609]. Калі ж дадаць настроенасць душы паэта на сугалоссе вечаровай цішыні і спеваў слабадскіх жнеяў, то разумееш, адкуль прыйшоў у лірыку Ніла Гілевіча такі нечаканы ў сваёй першароднасці вобраз Божай красы.

Усё, што звязана з таленавітым выкарыстаннем духоўных скарбаў продкаў нашчадкамі або іх эмацыянальнай далучанасцю, пражытасцю і перажытасцю дзівосных з'яваў прыроды, што абуджаюць веру ў росквіт культуры краіны, жывучасць беларускай мовы або выклікаюць павагу да крывіцкага гонару жанчыны, пазначана ў творчасці вялікага майстра пячаткай боскасці («Сурма Пузыні», «Пацеркі Божай Маці», «Споведзь крывічанкі», «Грае Ірына Шуміліна»). А вось як выказана захапленне талентам хармайстра Віктара Роўды: *«І я сказаць на цэлы свет гатоў, // Што гэты боскі спеў да гэтай залы // Вы неслі ў сэрцы тысячы гадоў»* [2, с. 371].

Жыццёвыя калізіі пачатку 90-х гадоў (*«безгаловы рынак»*, *«продаж-купля душ праз торг»*, *«куды ні глянь — разбой і гвалт»*, *«беспрасветны час зняверʼя і шаленства»* — «Кірмаш», «Які ганебны пераход...», «У беспрасветны час...» і інш.) адзываюцца ў душы лірычнага героя Ніла Гілевіча болем па далёкім мястэчковым кірмашы, па людской даверлівасці, маральнай чысціні, высокай паэзіі: *«А што за мова там гучала! // Якую там я мову чуў!..»*

*Усё там сведчыла пра свята,*
*Усё высокі брала строй.*
*Там кожны меў Хрыста за брата,*
*А Багародзіцу — сястрой* [4, с. 81].

Канец 80-х гадоў для многіх пісьменнікаў, талент якіх фармаваўся ў савецкую эпоху, стаўся пераломным момантам: мянялася шкала светапоглядных і эстэтычных арыенціраў. Настала пара адкрыцця значнасці хрысціянскіх ідэалаў і прызнання высокіх боскіх ісцінаў. І кожны па-свойму пераадольваў барʼер атэістычнага бязвер'я. Так, Валянціна Коўтун прыйшла да глыбіннага разумення сутнасці хрысціянскай веры праз мастацкую рэстаўрацыю вобразаў Цёткі (раман «Крыж міласэрнасці»), вялікай асветніцы Еўфрасінні Полацкай (раман-жыціе «Пакліканыя», праз лібрэта «Шлях палачанкі»). А яшчэ скіраванасць душы Валянціны Коўтун да сутнасці хрысціянскай веры таленавіта праявілася пры мастацкім

перастварэнні зруйнаваных сталінскай эпохай творчых лёсаў гулагаўскіх нявольніц (вобраз Лесі Беларускі) праз шырокае выкарыстанне біблійных маральных ісцін і вобразнай сімволікі (паэтычны зборнік «Малітва да Калымы»).

Аб тым, якім складаным быў шлях Ніла Гілевіча да пазнання і спавядання боскіх ісцін, сведчаць многія яго вершы апошніх дзесяцігоддзяў («Рэпліка», «У беспрасветны час...», «Каменні ляцяць на дарогу», «Сон», «Увяскрэсне!», «Каго шкада», «Мой кароткі адказ», «Не бойся», «Радкі з усяночнай» і інш.), а таксама дзённікавыя запісы, мемуары пісьменніка. Відаць, нямала паспрыялі разбурэнню фальшывых ідэалаў і словы бацькі, сказаныя сямейнікам у 1972 годзе перад смерцю: «*Вось так, дзеці, усё жыццё змагаўся за праўду і справядлівасць супроць зладзюганаў, хабарнікаў і ўсякай іншай сваламы, але ўсё маё змаганне было марным, <...> нягоднікі як панавалі ў нашым жыцці, так і пануюць...*». Словы Сымона Пятровіча сын пракаменціруе ў сваім абрысе пройдзенага шляху наступным чынам: «*Запозненае для сябе адкрыццё «белай партыйнай вароны». Але незапозненая споведзь для дзяцей*» [6, с. 24].

Тая запозненая споведзь-пакаянне адгукнецца пажыццёвай думкай-зарокам аб неабходнасці тварыць сябе, сцвярджаючы найвышэйшае прадвызначэнне «*любіць і адчуваць і ведаць Слова*» [4, с. 463], бо яно ад Бога, а значыць святое. У сваім набліжэнні да боскіх вышыняў духу паэт Ніл Гілевіч і яго лірычны герой становяцца сапраўды відушчымі, бо акрэсліваюць дыстанцыю паміж дабром і злом, паміж сакральна чыстым і хлусліва д'ябальскім. Надыдзе час і ў гэтай відушчасці паэт скрушна прамовіць:

«*А наступіць жа, прыйдзе час — і давядзецца аднойчы людзям майго пакалення <...> з жахам зразумець, у якую бездань бездухоўнасці і дзікунства цягам многіх дзесяцігоддзяў піхалі нас, ды і ўзмаліцца, хоць і не ўмеючы: даруй, Госпадзе, і прымі пакаянне цёмных і неразумных, — хоць перад блізкай магілай прымі!.. <...> Але колькі яшчэ няшчасных, <...>, што так і не знайшлі дарогу да храма, што так і не раскаяліся, так і працягваюць заставацца паслугачамі д'ябла і шкадаваць аб д'ябальскім мінулым!*» [6, с. 25].

Язычнік па светаадчуванні, Ніл Гілевіч раіць сучаснікам чытаць, «*калі гатовы — Біблію*», бо «*гэта вялікая кніга мудрасці чалавечай*» [7, с. 191]. Паэт купіў яе ў 25 гадоў, а да спасціжэння зместу гэтай вялікай Кнігі ішоў доўгія дзесяцігоддзі. На пачатку 90-х вершам «Мой кароткі адказ» паэт і дзяржаўны дзеяч Ніл Гілевіч на максімальна шчырай, даверлівай ноце раскрые ўвесь трагізм бязбожнага грамадства:

*Я столькі памылак зрабіў ў жыцці*
*(А гэта ж — грахі перад Богам!),*
*Што мусібыць, як ні круці, ні вярці —*
*У пекла мне ляжа дарога.*

*Але каб Бог ведаў, што я перажыў,*
*Сам-насам за тыя памылкі —*
*Напэўна, сказаў бы: «Ты рай заслужыў:*
*Анёл цябе прыме ў абдымкі»* [2, с. 268].

Сваім палітычным апанентам ён пераканаўча давядзе, што толькі спавяданне такіх народных і агульначалавечых запаветаў, як вернасць бацькоўскай зямлі, шанаванне памяці продкаў, руплівая праца на мастацкай ніве, адданае служэнне роднаму Слову ратуе талент творцы, яго сумленне і чалавечы гонар. А яшчэ ён папросіць Усявышняга прабачыць за колішнія правіны: «*Хай Бог даруе хібы маладосці...*» [4, с. 54].

Творчы і чалавечы шлях Ніла Гілевіча ў айчынным прыгожым пісьменстве — гэта ўнікальны прыклад штодзённага сцвярджэння боскага паклікання служыць адной задачы: вымярэнню чалавечага ў чалавеку праз яго любоў да справы ўсяго жыцця — Словам вешчым, што ад Бога, праўдзіва слугаваць боскім дарам мастака Радзіме і свайму народу.

*За ўсе свае памылкі і грахі*
*Перад людзьмі і Богам,*
*За тое, што нібы сляпы-глухі,*
*З анёлам блытаў погань, —*
*Кускамі сэрца кожны дзень плачу* [4, с. 83].

Побач з пакаяльна-спавядальным усведамленнем сваіх і чужых грахоў перад Усявышнім у паэзіі Ніла Гілевіча 90-х гадоў галоўным становіцца выкарыстанне хрысціянскіх матываў, сюжэтаў, вобразаў, адпаведнай лексікі ў барацьбе — бескампраміснай, паслядоўнай — з тымі сіламі, для якіх незалежнасць краіны, дзяржаўнасць мовы, нацыянальная ідэя як асноўная кансалідуючая сіла былі чужымі, катэгарычна непрымальнымі.

Пасля вялікага Купалы цяжка знайсці ў нашай літаратуры творцу, сэрца якога заходзілася б такім болем і адчайнай скрухай за лёс нацыянальнай святыні — мовы, якая гэтак шануецца ў любасных Богу народаў. Нездарма ў апошнім паэтычным зборніку «З Божай ласкі — дасеўкі» (2014) мы чытаем прапанову майстра слова ўнесці істотную папраўку ў будучы дакумент адносна прычыны завяршэння яго зямнога жыцця. Медыцынскае заключэнне «*дашчэнту знасілася сэрца*» прапануецца падаць у іншай версіі:

*Адно ў той паперцы папраўку я раю:*
*«Знасілася — каб нічуць не змяніць —*
*На слова „збалелася" трэба змяніць»*[7, с. 364].

Прычын збалеласці шмат. Аб'ектыўнага характару, асабістага, грамадскага, прыватнага... Але над

усім — трывога і клопат, вера і роспач, надзея і зманлівасць мары адносна галоўнага: бачыць сваю краіну, яе народ, яго культуру вартымі прызнання ў свеце, а пачынаецца яно з аднаўлення храма ўласнай душы, у якой ёсць месца Богу як высокай маральнай чыннасці, як праявы гармоніі асобы з самой сабою, светам і Сусветам.

Калі ж Божая міласць не праліваецца святлом ачышчэння і пазнання беларускім людам сапраўдных ісцін, тады Ніл Гілевіч і яго лірычны герой гатовы ў адчайна-палемічным запале абурыцца няміласцю Усявышняга, як тое здарылася ў вершы «Апекуну ўсіх моў на зямлі — Богу» (1989).

На ўсіх крутых віражах нацыянальнага жыцця і асабістага лёсу паэт Ніл Гілевіч застаўся верным раз і назаўсёды дадзенай яшчэ ў 1947 годзе клятве — служыць роднаму слову, быць яго абаронцам («Першая клятва»). І па сённяшні дзень менавіта ён застаецца самым адважным *«змаганцам за лёс // Нам Богам даверанай мовы»* [4, с. 378]. Самабытнасць і прыгажосць крывіцкай мовы, яе лексічнае багацце, напеўнасць, паэтычны лад сцвярджаюцца праз апеляцыю творцы да самых высокіх і непадлеглых сумневу аўтарытэтаў. *«Няма нічога,* — даводзіць лірычны герой верша «Санет філолагам», — *свяцей за Слова вешчае ад Бога»* [4, с. 463]. Невыпадкова і пацеркі на шыі Божай Маці *«з самацветаў мовы беларускай»* [4, с. 466]. Нават сам Мяккі Знак дашле палемічнае пасланне пану акадэміку, аргументуючы законнасць сваіх прэтэнзій да навуковых высноў вучонага: *«Я ж не вараг, не самазванец — // Я пераняты з Божых губ. // Я той у мове, з кім не зманіць // Ніводзін мне падлеглы гук»* [4, с. 446].

Ужо чвэрць стагоддзя словам-болем, *«сэрцам, парваным ушчэнт»,* паэт намагаецца скіраваць душу беларуса на шлях да беларускай Беларусі гэтак ахвярна, *«як Янка. Або як Ларыса»* [4, с. 378]. Спавядаць нацыянальную ідэю ў якасці каталізатара духоўнай еднасці грамадства і на пачатку 90-х гадоў было гэтак жа складана і небяспечна, як і заўсёды ў айчыннай прасторы. У дзённіку пісьменніка ад 7 ліпеня 1993 года чытаем: «*Божа, як сумна, горка і брыдка! Як горка! Нішто не аб'ядnae нас, нішто! Тое, што можа нас аб'яднаць — таго ў душах няма. Свяшчэнны доўг перад Беларуссю — г. зн. перад мовай і культурай Беларусі, перад Святым Духам Беларусі — няма!*» [11, с. 296].

Пакутлівыя, трывожныя думкі... І як вынік усяго — «*сэрца натруджана*» [4, с. 55]. Такім запісам ад 1 студзеня 1993 года паэт і дэпутат Вярхоўнага Савета пачынае свой верш «Дзённік». Гэта яшчэ адзін дакумент эпохі, свайго роду летапіс толькі не падзей, адбітых у часе, а думак і эмоцый, зафіксаваных са здзіўляючай дакладнасцю і амаль пратакольным лаканізмам: дата, месяц, думка, эмоцыя... на працягу года, ад студзеня да снежня. Аб'ёмна, рухома, на мяжы адчайнай экспрэсіі раскрываецца эмацыянальна-псіхалагічны стан асобы на крызісным разломе запаветнай мары беларуса-адраджэнца, што тройчы падкрэслена абазначаным адным і тым жа спосабам словаўтварэння — *бяспраўна, бяздомна, бяздольна.* У той жа час тройчы паўторанае ключавое слова «*горка*» кожны раз даецца ў суправаджэнні новай эмоцыі — «*горка і сумна*», «*горка і прыкра*», «*горка і смешна*», — выклікаючы адчуванне абсурднасці таго, што чынілася на ўзроўні высокіх рашэнняў.

Складанасць беларускай рэальнасці, трагізм становішча тых, хто сумленна, праўдзіва нёс у жыццё адраджэнскія ідэі, па-мастацку магутна пададзена Нілам Гілевічам у зборніку «На высокім алтары», які абазначаны аўтарам як «новая кніга паэзіі». Сапраўды, новая, бо раней не ўзнікала адчуванне такой пагрозлівай небяспекі жыццю і дзейнасці кожнага, хто адкрываў беларускаму грамадству неабходнасць змагання за гістарычную будучыню нашай краіны. У сувязі з гэтым даецца і адпаведная назва аднаго з раздзелаў зборніка — «Над бяздоннем іду...». Верш «Каменні ляцяць на дарогу...», якім адкрываецца раздзел, — зусім відавочная алюзія на біблійныя Дзеі Апосталаў. Ім часта даводзілася бараніць саміх сябе ад неправедных судоў і распраў. Так, святы Павел, адкрыўшы самога сябе дзякуючы пралітаму з нябёсаў боскаму святлу, пераканаўча даводзіць: «Я кажу словы ісціны і здаровага сэнсу» [12, с. 212]. Трапляні прапаведнікі вучэння Хрыста ў вязніцы, іх білі і закідвалі камянямі: «І білі камянямі Сцяпана, які маліўся і казаў: Госпадзе Ісусе! Прымі дух мой!» [12, с. 179]. Але паспеў пры гэтым Сцяпан, верны паслядоўнік і мудры прапаведнік святога вучэння, выказаць Усявышняму апошнюю просьбу, якая засцерагла б «*цвёрдахрыбетны люд*» ад далейшай варажнечы і боскай кары: «*Госпадзе! Не лічы ім граху гэтага!*» [12, с. 179].

І лірычны герой Ніла Гілевіча ўпэўнены, што яго напаткае калісьці лёс тых, хто нёс прарочае слова...

Каменні зайздрасці, аблыжных ацэнак дзейнасці ў розных сферах быцця — грамадскага, дзяржаўнага, літаратурнага, гісторыя з аўтарствам паэмы «Сказ пра Лысую гару», перакручванне рэальных фактаў афіцыйнымі і па добрай волі піяршчыкамі выклікалі не толькі пратэст, абурэнне зламыснай хлуснёй, але і адчуванне сваёй праваты і духоўнай моцы. Таму, уратаваўшы свой верш (а насамрэч — душу, сумленне) ад пошласці і сытасці высокай воляй нябеснага заступніка, лірычны герой Ніла Гілевіча па-хрысціянску прабачыць многім іх

грахі. У развагах пра вартасці сваёй творчасці — «*усякі быў мой верш, але не пошлы*», паэт абазначыць і тое, што ўтрымала яго на належнай вышыні духоўнасці і майстэрства:

*Яго мне вера ўберагла мая.*
*Таму і ведаю, чыёю воляй*
*Я мушу ўсім вам дараваць. І я*
*Дарую вам* [4, с. 411].

Дух, духоўнасць, душа... Гэта, бадай, ключавыя словы ў мастацкім выяўленні Нілам Гілевічам аблічча сучаснага грамадства, аблічча сучаснага творцы. Не зганьбаваць сумлення, дбаць пра храм уласнай душы.

Апекаванне храмам душы ляжыць, як прызнаецца паэт, у сферы даўно абраных ім духоўных ідэалаў («Выбухайце, сябры, выбухайце!», «Што я думаў...», «Мой верш», «Як вернік у храм...» і інш.).

*Мой верш вызначаўся б настроем узнёслым*
*І нават святочна-парадным, магчыма,*
*Калі б не намёртва быў звязаны лёсам*
*З паэзіяй Янкі, Якуба, Максіма* [7, с. 352].

Гэтым многае тлумачыцца ў грамадзянскай пазіцыі, філасофіі быцця, у сістэме эстэтычна-мастацкай вобразнасці і форматворчасці Ніла Гілевіча. Талент, слова, творчасць у разуменні пісьменніка — з'явы малітоўна высокія. Перад імі нельга быць няшчырым ці хлуслівым, таму ў працэсе тварэння паэтычнага цуда ён уваходзіць у майстэрню агранкі вершаванага слова па-асобаму *«Я ў верш хачу заходзіць, як у храм — // Як вернік у касцёл або ў царкву»* [7, с. 354].

Узвесці высокі храм Паэзіі немагчыма, калі не рупіцца пра храм Душы, яе чысціню і непадкупнасць. Многія вершы, дзённікава-мемуарная проза пісьменніка паказваюць на тыя прышчэпкі маральнасці і фізічнай ахайнасці, што закладвалі з часоў дзяцінства трывалы імунітэт супраць любых праяваў няпраўды, фальшу і няшчырасці. Некалі маці, — прыгадае літаратурны двайнік Ніла Гілевіча — яго лірычны герой, даводзіла яму праўду сваіх словаў, абраўшы самы важкі (з вышыні яе жыццёвых прынцыпаў) аргумент:

*«Як Бог на небе!» — пры выпадку*
*Клялася мама,*
*Каб людзі верылі, што ў словах*
*Няма падмана»* [4, с. 412].

Прыдалася, вядома, і бабуліна навука, калі яна так хораша ўшчувала і настаўляла малога на шлях чысціні ў зваротах-малітвах да Бога:

*«Трэба, коце, памыцца спачатку,*
*Бо пакрыўдзіцца можа Гасподзь.*
*Не ўпачцівіш і Боскую Матку.*
*Дух не чысты, дзе брудная плоць»* [4, с. 160].

Зусім відавочна, што парады бабулі маюць не толькі канкрэтны змест (выхаванне навыкаў гігіены), але і значны падтэкст: вялікім справам і здзяйсненням дапамагаюць нябесныя сілы пры адпаведнай вышыні духу, яго моцы і чысціні.

З дня ў дзень — цягам не аднаго дзесяцігоддзя — ствараецца Нілам Гілевічам храм Паэзіі, падмурак якога мацуюць спаконвечныя ісціны: быць вышэй за ўсе матэрыяльныя выгоды, пазбягаць кампрамісаў з сумленнем, заставацца ва ўсім самім сабою, каб — крый Божа! — не трапіць у сонмішча некаторых сучасных дзеячаў, што ганаруюць саміх сябе высокімі званнямі, сумніўная чыннасць якіх відавочная. І тады, як не аднойчы здараецца ў творах пісьменіка, ён на яве і нават у сне ратуе душу зваротам да голасу сваіх мудрых продкаў, што даўно спачылі на кладзішчах («Наконт апосталаў і прарокаў», «Міні-рэпартажы з кантрольна-прапускнога пункта ў рай», «Чый крык? (новая беларуская лічылка)»):

*Я — апостал, ты — апостал,*
*Ён — апостал і прарок,*
*Ты — амаль ужо апостал,*
*Аддзяляе адзін крок.*
*Напалову ты — апостал,*
*Ты — на чвэрць, а ты — на трэць...*

*Раптам нечый крык з пагоста:*
*«Цыц, блазнота! Не дурэць!»* [13, с. 371].

Так рэзка асадзіць тых, хто бессаромна «загуляўся ў вялікіх», мог толькі той, хто сваім трагічным лёсам і магутным талентам заслужыў права быць прарокам, быць сапраўдным апосталам нацыі.

Дарэчы, паэт часта звяртаецца да месца вечнага спачыну чалавека: могілкі, клады, могліцы, пагост — гэта не толькі адзнака духоўнай повязі творчасці Ніла Гілевіча з жыццём і гістарычным мінулым пакаленняў, скарбамі іх душы. Праяўляецца тут і купалаўская традыцыя вяртання ценю продкаў на зямлю як напамін наступнікам пра неабходнасць думаць над сутнасцю быцця, над тым, што было калісьці і што ёсць сёння. Задумацца ўрэшце, як зразумець песню легендарнага Гусляра, што раз у год пакідае свой курган-магілу. Адчуць усім нутром глабальнасць жыццёвай катастрофы Мужыка («Адвечная песня»), ценъ якога на паваленым крыжы абураецца бязладнасцю лёсу нашчадкаў: *«Раскрыйся нанова, магіла: // Страшней цябе людзі і свет»* [14, с. 33].

У цыкле вершаў «Вянок на алтар», напісаных Нілам Гілевічам у жанры японскага «танка», купалаўская канцэпцыя бачання і мастацкага ўзнаўлення рэальнасці ў двух часавых зрэзах — было і ёсць — і з такім катэгарычным пратэстам супраць сацыяльнага зла і духоўнага заняволення працоўнага люду напаўняецца новым ідэйна-мастацкім зместам. І найперш праз абвостраную відушчасць лірычнага героя сакральнай для пісьменніка ідэі

— годнага лёсу народа, паўнакроўнага жыцця нацыянальнай мовы:

*Што гэта ў цемры*
*Свеціцца там, дзе клады?*
*Ледзь здагадаўся:*
*Фасфарысцыруючы,*
*Мова выходзіць з магіл* [13, с. 324].

Так убачылася галоўнае: не цень мужыка-беларуса, а сама мова выходзіць з магіл, бо жывучая, бо не знае тлену. Нават пры сучасным моўным нігілізме. Пры гэтым значна, з праекцыяй на час і беларускую рэальнасць апошніх дзесяцігоддзяў, успрымаецца і трансфармуецца ў сістэму мастацкіх ідэй і вобразаў біблійны матыў здрадніцтва і пакаяння («Не падбівай, не падбухторвай...», «Радкі з усяночнай», «Кляновы лісточак», «Кажаш, што ты...», «Палемічнае», «Запраданцам», «Пра ласку Божую і плату Д’ябла», «Сон», «Стрэмка», «Пра песню і суддзяў» і інш.).

Апынуўшыся ў 90-я гады на самым піку грамадска-палітычных падзей і дэбатаў, пісьменнік і яго лірычны герой убачылі безліч праяваў таго, як многія, каму самі нябёсы судзілі дбаць пра чысціню душы, лёгка пераступалі законы Хрыстовай маральнасці, ігнаруючы праўдзівыя, мудрыя словы апостала Паўла: «І вось мы, будучы родам Божым, не павінны думаць, што Боства падобнае да золата, альбо да срэбра, альбо каменя, увасобленага ў твор мастацтва і выдумкі чалавечай» [12, с. 197].

Здрада ідэалам, Айчыне, запаветам продкаў, сям’і, боскаму таленту, вышыні духу — усё выклікае пратэст, адчуванне Божага гневу і разуменне таго, за што душу і сэрца творцы балючай стрэмкай працяў аднойчы пасланы з нябёсаў удар — Божае слова-праклён. Паслаў, відаць, за тое, што яшчэ не ўсё зрабіў, каб зрок вярнуць сляпым, а слых — глухім. Каб душу бязбожную прымусіць схамянуцца і ўразумець: ёсць самы страшны грэх, за які і плата адпаведная, такая, як у вершы «Пра ласку Божую і плату Д’ябла»:

*Калі ты з поганню парваў*
*І далучыўся да «Пагоні» —*
*Гасподзь былое дараваў,*
*Сяйвом нябёс сыпнуў на скроні.*
*Калі ж цяпер ты ад «Пагоні»*
*Ізноў да погані прыстаў —*
*Табе нячысцік у далоні*
*Сыпнуў, як Юду за Хрыста* [13, с. 354].

І ў размове з журналістам газеты «Ляхавіцкі веснік» (2003, кастрычнік) на пытанне аб тым, які грэх нельга дараваць нават сябру, паэт адкажа, што цяжэй за ўсё дараваць здраду. Асабліва здраду сябра: «Калі ты ў яго верыў, а здарылася цяжкая, крутая хвіліна ў тваім жыцці — ты замест падтрымкі атрымліваеш, як кажуць, нож у спіну» [7, с. 192].

Здараецца, што дарогі сяброў па розных прычынах разыходзяцца. Толькі рабіць гэта трэба па-людску, па-боску, без паклёпніцкага «распні» і хлуслівых кпінаў. У гэтым выпадку асабліва надзённа гучаць словы апостала Паўла аб тым, што самае галоўнае ў жыцці чалавека — гэта «мець беззаганнае сумленне перад Богам і людзьмі» [12, с. 209].

Сёння, ужо на самым ускрайку жыцця, і пісьменнік, і яго лірычны герой, аналізуючы пражытае і пройдзенае, прызнаюць многія памылкі і грахі. Прызнаюць «шчыра, як на духу». Памянялася, напрыклад, стаўленне да рэлігіі: «Сёння — з разуменнем яе неабходнасці, з павагай да людзей набожных» [7, с. 188]. Многае цяпер убачылася з «вышыні ўзросту» і пазнанай праўды жыцця, якая паўстала ў святле трагічнага быцця асобы, трагічнага быцця народа на ўсіх паваротах яго гістарычнага лёсу.

*Тамара Нуждзіна*



**Літаратура**
1. Конан, У. На прасветлым алтары Радзімы: літаратуразнаўчае эсэ / У. Конан // Полымя. — 2001. — № 9. — С. 232—260.
2. Гілевіч, Н. Збор твораў: у 23 т. / Н. Гілевіч. — Мінск: ГА БТ «Кніга», 2003. — Т. 1: Вершы: 1946—1990. — 416 с.
3. Гілевіч, Н. Збор твораў: у 23 т. / Н. Гілевіч. — Мінск: ТДА «Пантограф», 2010. — Т. 12: Публіцыстыка. — 640 с.
4. Гілевіч, Н. Збор твораў: у 23 т. / Н. Гілевіч. — Мінск: ТДА «Пантограф», 2010. — Т. 2: Паэзія: вершы 1991—2010. — 496 с.
5. Коўтун, В. Выбранае / В. Коўтун. — Мінск: Лімарыус, 2011. — 280 с.
6. Гілевіч, Н. Збор твораў: у 23 т. / Н. Гілевіч. — Вільня: Наша будучыня, 2008. — Т. 23: Між роспаччу і надзеяй: абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары. — 480 с.
7. Гілевіч, Н. Збор твораў: у 23 т. / Н. Гілевіч. — Мінск, 2013. — Т. 22: Публіцыстыка, літаратурная крытыка, эсэістычная мазаіка, новая кніга паэзіі, вяртанне ў далёкі пачатак. — 476 с.
8. Гілевіч, Н. Жыта, сосны і валуны: новыя вершы / Н. Гілевіч. — Мінск: Маст. літ., 1992. — 77 с.
9. Цётка. Выбраныя творы / Цётка,: уклад., прадм. В. Коўтун: Камент. С. Александровіча і В. Коўтун. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. — 336 с.
10. Гілевіч, Н. Збор твораў: у 23 т. / Н. Гілевіч. — Мінск: ТДА «Пантограф», 2009. — Т. 11: Публіцыстыка: артыкулы, прамовы, інтэрв’ю: 1989—1995. — 608 с.
11. Гілевіч, Н. Збор твораў: у 23 т. / Н. Гілевіч. — Мінск, 2013. — Т. 21: Выбраныя старонкі з дзённікаў: 1954—2002. — 536 с.
12. Новы запавет: Псалтыр / Пераклад з царкоўнаславянскай В. Сёмухі. — Мінск: ВЦ «Бацькаўшчына», 1995. — 489 с.
13. Гілевіч, Н. Збор твораў: у 23 т. / Н. Гілевіч. — Мінск: ТДА «Пантограф», 2011. — Т. 4: Паэзія. Сатыра і гумар: 1951—2010. — 468 с.
14. Купала, Я. Поўны збор твораў: у 9 т. / Я . Купала. — Мінск: Маст. літ., 2001. — Т. 7: Драматычныя паэмы і п’есы. — 399 с.

**Тамара НУЖДЗІНА** — дацэнт кафедры беларускай літаратуры ў Мазырскім педуніверсітэце імя І. Шамякіна, кандыдат філалагічных навук. Закончыла БДУ (1969) і аспірантуру пры БДУ (1977). Займаецца даследаваннем арыгінальнага кампаненту ў мастацкім кантэксце беларускай літаратуры XX ст., а таксама вывучэннем дзённікава-эпісталярнай і мемуарнай літаратуры.

Уладзімір Кароткі,
Жанна Некрашэвіч-Кароткая

# Хрысціянізацыя Беларусі: версіі, гіпотэзы, сведчанні ў помніках старажытнай беларускай літаратуры

На працягу стагоддзяў большасць народаў свету вырашала і да сённяшняга дня вырашае такія складаныя пытанні самаідэнтыфікацыі, як «нацыянальная гісторыя», «нацыянальная рэлігія», «нацыянальная культура» і г. д. Мы, беларусы, таксама наблізіліся да неабходнасці вырашэння гэтых праблем. Напісалі шмат кніг, артыкулаў... І толькі потым пачалі выдаваць тэксты для агульнага прачытання. Ізноў парадокс. Былі ідэі, гіпотэзы, канцэпты... Не хапала фактычнага матэрыялу. Цяпер ёсць фактычны матэрыял — не хапае канцэптуальнага асэнсавання.

Здавалася б, даўно вырашана пытанне адносна хрышчэння Русі. Адзначылі нават юбілей, ёсць і «дакладная» дата хрышчэння Русі — 1 жніўня 988 года. Расійскі вучоны А. Нечвалодаў у манаграфіі «Сказания о русской земле» заўважае наконт кіеўскага хрышчэння: «Тут 1 жніўня 988 г. і адбылася найвялікшая падзея ў жыцці Русі: яна прыняла Святы Хрост»[1]. Аднак усё ж засталіся пытанні. Нават замежныя даследчыкі выказваюцца супраць пашыральнага тлумачэння наймення «Русь». Так, вядомы нямецкі славіст Ганс Ротэ ў сваім грунтоўным артыкуле «Што такое *древнерусская литература*?» (Вісбадэн, 2000) даводзіць, што так званы летапіс Нестара («Аповесці мінулых гадоў») у час свайго стварэння быў помнікам, які меў значэнне толькі для Кіеўскага княства ў вузкім сэнсе. Загаловак летапісу — «Се повести времянных лет, откуду есть пошла русская земля, кто в Киеве нача первее княжити, и откуду русская земля стала есть» — не азначае, што пад «рускай зямлёй» мелася на ўвазе «Кіеўская Русь як вялізная феадальная дзяржава» і «калыска дзяржаўнасці трох братніх народаў — рускіх, украінцаў і беларусаў» (выраз акадэміка Рыбакова). «Руссю, — даводзіць нямецкі вучоны, — называлі канкрэтна Кіеўскую зямлю ў Ноўгарадзе, а таксама ў зоне найбольш ранніх усходнеславянскіх паселішчаў у заходніх рэгіёнах, калі глядзець з боку Валыні»[2].

Канцэпт Кіеўскай Русі як «калыскі дзяржаўнасці трох братніх народаў» традыцыйна падмацоўваецца агульнапрынятай гісторыяй хрысціянізацыі Русі ў X ст. І ўсё ж хочацца беларускага прачытання гісторыі хрышчэння, усведамлення гэтага акту як вялікай духоўнай часткі нацыянальнай гісторыі. Сведчаннем таго, што гэтая гісторыя далёка не можа быць абмежавана «ўсходнеславянскім вектарам», з'яўляюцца як сачыненні беларускіх пісьменнікаў даўніх часоў, так і даследаванні сучасных вучоных[3].

Пытанне пра монакультуру на нашых землях у шырокім сэнсе застаецца адкрытым. Напрыклад, у канфесійным плане «двуверцамі» былі і Усяслаў Полацкі, і Міндоўг, і Ягайла, і Вітаўт. Пераход з адной веры ў другую не лічыўся здрадай, калі гэта не датычыла прадстаўнікоў царкоўнай іерархіі. Больш актуальнай праблемай была праблема культуры і веры; гэта было самае балючае пытанне для беларусаў на працягу стагоддзяў. Найбольш завострана яно паўстала падчас Люблінскай дзяржаўнай уніі 1569 г. і Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г., калі трэба было дакументальна даказваць сваю заходнюю або ўсходнюю арыентацыю.

Менавіта ў гэты час вельмі востра паўстала пытанне пра хрышчэнне Русі. Аднак спачатку мы павінны высветліць, што такое Русь у разуменні ўсходнеславянскіх народаў паводле тых летапісаў, якія захаваліся. Расійскі савецкі даследчык А. Рабінсон зрабіў даволі цікавыя выпіскі з Першага Наўгарод-

**Уладзімір Кароткі** — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ, гісторык літаратуры і культуры, перакладчык. Аўтар манаграфій «Творческий путь Мелетия Смотрицкого» (1987), «Беларуская літаратура і гісторыя» (2013), складальнік зборніка «Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны» (1991), суаўтар падручнікаў па гісторыі беларускай літаратуры, аўтар звыш 200 навуковых прац.

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая** — доктар філалагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Закончыла філалагічны факультэт БДУ, аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры, дактарантуру пры кафедры тэорыі літаратуры. Даследуе праблемы гісторыі беларускай літаратуры і культуры XI–XIX стст. Перакладае з лацінскай, польскай, царкоўнаславянскай і старабеларускай моваў. Аўтар манаграфій «Нясвіжская Мельпамена: Драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл» (Мінск, 2002), «Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс» (Мінск, 2009), «Беларуская лацінамоўная паэма: позні Рэнесанс і ранняе Барока» (Мінск, 2011); укладальніца кнігі «Ян Вісліцкі. Пруская вайна» (Мінск, 2005), суаўтар акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XVIII ст.» (т. 1; Мінск, 2006), вучэбна-метадычных дапаможнікаў па беларускай літаратуры і лацінскай мове. Навуковы рэдактар перакладу Бібліі, зробленага кс. Уладзіславам Чарняўскім.

скага летапісу, Лаўрэнцьеўскага і Іпацьеўскага летапісаў, дзе дакладна засведчана абмежаванае разуменне паняцця «Русь» усходнеславянскімі народамі. Пра гэта, на думку даследчыка, красамоўна гавораць летапісныя матэрыялы. Так, вучоны прыводзіць наступныя фрагменты: «послаша новгородьци к Святославу в Русь по сын...»; «иде князь Святослав... Олгов вънук, из Руси на Суждаль ратью на Всеволода»; «пожга город Дмитров, возвратися опять в Русь, а князь Всеволод в Володимерь»[4]. Яшчэ адзін прыклад: калі паміраў Давыд Смаленскі (1197 г.), то ён «сына своего Костянтина в Русь посла брату своему Рюрику на руце». А. Рабінсон прыходзіць да высновы, што менавіта так «вызначалі знаходжанне „Русі" ўсходнеславянскія княствы, што былі за яе межамі»[5]. Між тым, помнікі, якія цытуюцца шаноўным вучоным (пра што рэдка пішуць даследчыкі летапісання), — гэта рэдакцыі канца XIV — пачатку XV ст.

Варта ўзяць пад увагу, што на працягу гістарычнага адрэзку з XII да XIV ст. адбываюцца важныя семантычныя зрухі ў дачыненні да оніма «рускі». Г. Ротэ падкрэслівае, што побач з назваю краіны «Русь» неўзабаве з'явіліся і іншыя найменні; яны пачалі замяняць сабой першае, але ў той жа час у прыметніку «рускі» заключалася этнанімічная пераемнасць, хаця значэнне слова змянялася: «спачатку прыметнік суадносіўся з варагамі, аднак неўзабаве і з усімі жыхарамі краіны, г. зн. і са славянамі; пазней, у XVI і XVII стст., ён усё яшчэ служыў саманазовам для ўкраінцаў, а на сённяшні дзень — толькі для так званых вялікарусаў»[6].

Да ліку тых помнікаў, якія цытуюцца ў сувязі з шырока вядомым корсунскім паданнем пра хрышчэнне Русі, звычайна не далучаецца Супрасльскі звод як помнік агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання. І на гэта, відаць, ёсць свае прычыны. У Лаўрэнцьеўскім летапісным зводзе пра хрышчэнне Русі ў 988 г. сказана наступнае: «И повеле <Уладзімір> хрестити ся. **Епископъ же корсуньский** с попы царицины, огласивъ, крести Володимира...»[7]. Яшчэ раз звернем сваю ўвагу: у дадзеным выпадку ідзе цытаванне не паводле арыгінальнага помніка XI–XII стст., як заяўлена на тытульным аркушы выдання, а паводле рэдакцыі канца XIV ст. Сюды ж уключана і даволі спрэчная заява Уладзіміра (канец X ст.) адносна праваслаўнай канцэпцыі (падзел хрысціянства адбыўся ў 1054 г.) сусветных Навораў: «Верую же и седму сборъ святыхъ отець...»[8]. Ці мог князь Уладзімір у 988 г., яшчэ толькі прыступаючы да хрысціянскіх таінстваў, настолькі глыбока разбірацца ў пытаннях рэлігійнай дагматыкі, каб сцвярджаць сваё акцэптаванне слушнасці пастановаў сямі сусветных Сабораў?

Супрасльскі звод фіксуе іншую сітуацыю ў Корсуні: «**Епискупь же руськы** с попы царичыными крести его, и яко возложи на него руку, и абие прозри»[9]. Гэтая ж фраза, праўда, пад 986 г., паўтараецца і ў Слуцкім летапісе[10]. Такім чынам, хрышчэнне Русі Уладзімірам трэба разумець, несумненна, як хрышчэнне кіеўскага князя, а пазней Кіеўскага княства, спадкаемцамі якога былі русічы-рурыкавічы. Паколькі большасць даследчыкаў, каментуючы акт хрышчэння Русі, спасылаецца менавіта на Лаўрэнцьеўскі звод «Аповесцяў мінулых гадоў», то дазволім сабе прывесці яшчэ адну цытату адносна тэрміна «русь». Паколькі варагі-русь бралі даніну з чудзі, славянаў[11], меры і крывічоў, а хазары бралі даніну з палянаў, севяранаў і вяцічаў, то, хутчэй за ўсё, у выніку барацьбы з варагамі першыя чатыры з вышэйназваных плямёнаў і выгналі варагаў з сваіх тэрыторый. Пазней, калі пачаліся міжусобіцы, менавіта яны і запрасілі на ўладаранне ўсё тых жа варагаў: «И идоша за море къ варягомъ, к руси. Сице бо ся зваху тьи варязи русь...»[12].

Мы не будзем спрачацца адносна тэрміна «русь», паколькі на гэты конт існуе дастаткова гіпотэзаў, а толькі звернем увагу на летапіснае вызначэнне. У IX—X стст. русічамі называлі, хутчэй за ўсё, толькі прадстаўнікоў варажскай княжацкай дынастыі, у якой чацвёртым па ліку і з'яўляўся кіеўскі русіч Уладзімір. Лагічна, што спачатку хрышчэнне «русі» было прыватнай справай русіча Уладзіміра і яго Кіеўскага княства.

Далейшае хрышчэнне ўсходнеславянскіх земляў паводле ўсходняга абраду невыпадкова атаясамлівалася з Руссю: усталяваліся словазлучэнні «хрышчэнне Русі» і «руская вера». Пры гэтым у XIV–XV стст., а таксама пазней тэрмін «Русь» пачаў выкарыстоўвацца ў канфесійным значэнні: Руссю пачалі называць праваслаўных усходніх славянаў. Падобным чынам, калі адбылося хрышчэнне беларусаў і літоўцаў пры Ягайлу і Вітаўце паводле заходняга абраду, узнікла паняцце «польская вера» замест «рымска-каталіцкая вера». Да XX ст. канфесійнасць накладвае адбітак на самавызначэнне беларуса, які лічыць сябе або «палякам», або «рускім». Успомнім, што нават галоўны герой верша Францішка Багушэвіча «Хрэсьбіны Мацюка», які спачатку настойліва падкрэсліваў сваю «тутэйшасць», абражаны праваслаўнымі казакамі, вырашыў змяніць «стратэгію» самаідэнтыфікацыі з «тутэйшасці» на «польскасць»:

*О так то хрысцілі мяне казакі*
*З тутэйшага ды ў палякі.*

Згадка пра рускага святара ў беларуска-літоўскім летапісанні XV ст. (у Супрасльскім зводзе) не з'яўляецца выпадковасцю. Для складальніка Лаўрэнцьеўскага зводу паняцце «рускі», несумненна, азначала «заходні». Вось чаму ні ў Лаўрэнцьеўскім, ні ў Іпацьеўскім летапісе няма згадкі пра «рускага» святара. Многія беларускія і ўкраінскія пісьменнікі — Леў Крэўза, Захарыя Капысценскі, Сільвестр Косаў, Ян Дубовіч — імкнуліся па-свойму «гістарычна» прадставіць шлях хрысціянізацыі

ўсходнеславянскіх земляў. Самае ранняе хрышчэнне звязваецца з наведваннем земляў усходніх славянаў апосталам Андрэем (Сільвестр Косаў), самае позняе (пятае па ліку) хрышчэнне — з кіеўскім князем Уладзімірам, прычым і яно датуецца ад 986 да 1000 года.

Літаратура Сярэднявечча, Адраджэння і Барока нязменна звяртаецца да місіянерскай дзейнасці Кірылы і Мятода. Пры гэтым настойліва гаворыцца, што менавіта Рымскі Папа дазволіў весці богаслужэнне на царкоўнаславянскай мове. Праўда, ёсць выпадкі, калі ацэньваецца не канфесійнае, а гісторыка-культурнае значэнне асветніцкай дзейнасці салунскіх братоў для славянскіх народаў. Так, Васіль Цяпінскі ў сваёй «Прадмове» да «Евангелля» стварыў своеасаблівы гімн славянскай вучонасці. Ён не вылучае беларускі народ сярод іншых славянаў, а гаворыць пра слаўныя традыцыі славянскай вучонасці ў цэлым. Цяпінскі прыводзіць у прыклад даўнія часы, калі славяне былі «...зацный, славный, острій, довстипный народ», у якога вучыліся іншыя «учоныя» народы. Аўтар «Прадмовы» падкрэслівае, што менавіта славяне першыя на сваёй мове «слово Боже выложили, имели и нам зоставили». Толькі пасля «иные вси народы их прикладом... слово Боже з латинских и иных писмь своим теж езыком прирожоным перекладати и читати почали»[13]. Гэты экскурс у гісторыю навукі славянаў быў прадыктаваны патрабаваннямі сучаснасці. Прыгадаем, што ў сваёй вядомай кнізе «Пра еднасць...» (1577) Пётр Скарга адным з першых сказаў пра «адсталасць» славянаў. Ён сцвярджаў: «Ніхто і нідзе з тых, хто ўжывае славянскую мову, вучоным стаць не можа... Бо няма на свеце нацыі, якая б на ёй так гаварыла, як у кнігах сказана, а сваіх правіл, граматык і дапаможнікаў для навучання [славяне] не маюць і ў бліжэйшым часе мець не змогуць»[14]. Так, сапраўды, перад праваслаўнымі вучонымі Рэчы Паспалітай паўстала задача стварыць стройную, навукова абгрунтаваную лінгвістычную сістэму. Вызначальным фактарам вучонасці з гэтага часу становіцца разам са зместам і форма ўвасаблення. Невыпадкова, што менавіта ў канцы XVI — пачатку XVII ст. з’яўляюцца першыя славянскія граматыкі: «Адельфотес. Грамматіка словенска» Лаўрэнція Зізанія (1596), «Грамматіка» Мялеція Сматрыцкага (1618/19). Адной з мэтаў стваральнікаў першых славянскіх граматык было паказаць, што ў распараджэнні беларусаў і ўкраінцаў ёсць не толькі «простая», але і навуковая мова, якая паддаецца фармалізацыі ў граматыцы.




Тытульная старонка першага тома «Гісторыі Літвы» (Гданьск, 1650).

Вяртаючыся да лёсу летапісных варагаў, варта звярнуць увагу на адметнасць успрыняцця і тлумачэння рурыкавічска-варажскай канцэпцыі фарміравання дынастычнай улады на нашых землях. Украінскія летапісныя зводы, якія дайшлі да нас у позніх спісах, відаць, не поўнасцю даюць звесткі пра варагаў. Так, летапіс пад 862 г. паведамляе: «Изъгнаша варяги за море, и не даша имъ дани, и почаша сами в собе володети, и не бе в нихъ правды, и въста родъ на родъ, и быша в них усобице, и воевати почаша сами на ся. И реша сами в себе: „Поищемъ собе князя, иже бы володелъ нами и судилъ по праву“. И идоша за море къ варягомъ, к руси. Сице бо ся зваху тьи варязи Русь... старейший, Рюрикъ, седе Новегороде, а другий, Синеусъ, на Беле-озере, а третий Изборьсте, Труворъ»[15]. Звернем увагу на тое, што першым цэнтрам збірання ўсходнеславянскіх земляў быў Ноўгарад (славяне), а вакол яго — Полацк (крывічы), Растоў (мера), Белавозера (весь), Мурам (мурама). На працягу некалькіх пакаленняў рурыкавічаў ідзе барацьба за першынство князёў кіеўскіх і наўгародскіх. На першы погляд — гэта дынастычная барацьба, але на справе — барацьба за гістарычнае апраўданне прыроды вышэйшай улады: вечавай у Ноўгарадзе або манархічнай у Кіеве. Вядома, напрыклад, што Уладзімір быў князем наўгародскім па абранні наўгародцаў, а гэта зусім не тое, што статус кіеўскага князя, які перадаваўся па праве старшынства ў родзе. Ён — «непаўнавартасны» князь, за яго нават не хоча ісці замуж Рагнеда, дачка полацкага князя Рагвалода. Шлях да сацыяльнага поспеху Уладзіміра адзін: дабіцца манархічнай улады, а гэта было магчыма толькі ў Кіеве, які меў даўнія традыцыі княжацкага кіравання. Вось чаму, разважаючы аб прыродзе маскоўскай улады, летапісцы напрамую звязваюць яе з уладаю Уладзіміра. Так, «Слуцкі летапіс» уключае ў сябе «Летописецъ о великом князи московскомь, како далеки от роду Володимирова», у якім мы знойдзем наступны пералік: «Первыи князь, Рюрикъ, пришедь из Немець и роди княза Игоря, а Игорь роди Святьслава, и Святьславь роди Володимира, иже крести Рускую землю. Владимир роди Ярослава, ...Данилеи роди Иоанна Доброго Калиту, иже исправи

Рускую землю о татеи и от разброя, от всякого мятежа. Иван роди Дмитрия, тои бо Дмитреи называеться самодержень»[16]. Характэрна, што гэты ж генезіс самаўладарства маскоўскага прасочвае і беларускі пісьменнік-палеміст XVII ст. Ян Дубовіч у сваім «Календары сапраўдным Царквы Хрыстовай» (Вільня, 1644): «Пачатак цароў маскоўскіх — Уладзімір, перанёс сталіцу свайго княжацкага валадарання з Ноўгарада Вялікага ў Кіеў». Звернем яшчэ раз увагу на тое, што першаснай сталіцай княжацкай улады Русі на тэрыторыі ўсходніх славянаў была сталіца Рурыка — Ноўгарад Вялікі[17]. Атрыбутыка вялікіх князёў маскоўскіх таксама напрамую звязваецца Янам Дубовічам з чарнігаўскім князем Самаборцам, які ў 1126 г. разбіў генуэзцаў у Таўрыдзе, а з іх ваяводы, якога перамог у адзінаборстве, зняў залаты ланцуг, аздоблены дарагімі кляйнотамі. Цяпер, падкрэслівае Ян Дубовіч, гэты ланцуг маскоўскаму цару заўсёды надзяваюць пры інтранізацыі, і маскавіты называюць яго «Бармай»[18].

Вяртаючыся да падання пра хрышчэнне Русі «ад Уладзіміра», звернем увагу на тое, чаго амаль не заўважаюць даследчыкі. Ужо ў «Кіева-Пячэрскім патэрыку» яго складальнікі імкнуцца высветліць, хто такія варагі не толькі па паходжанні, але і па канфесіі. Так, у слове 37 «Въпросъ благовернаго князя Изяслава о латынех» адпаведнае пытанне, адрасаванае ігумену Феадосію, фармулюецца даволі адназначна: «Исповеж ми, отче, веру варяжскую, какова есть». Ігумен Феадосій адказаў на гэта так: «Вера их зла и законъ их нечистъ есть... Ты же, благоверный самодержьче, блюди себе от них ... вера латыньскыа бегати лепо есть, ни обычаа их дръжати, и компаниа их не приимати и не послушати реченное ими, зане неправо верують и нечисто живут ... Християном же своих дщерей не достоит


HIERARCHIA
ABO
O ZWIERZCHNOSCI
W CERKWI BOZEY.
OD
Wieleb: Oycá IANA DUBOWICZA,
Archimándryty Monástera Dermánskiego,
w Druk zá dozwoleniem Stárszych
podána.
WE LWOWIE,
W Drukárni Colleg: Societatis IESU,
v Sebástyana Nowogorskiego.
Roku Pánskiego / 1644.

Тытульная старонка кнігі «Іерархія, або Пра вышэйшую ўладу ў Касцёле Божым» (Львоў, 1644).

давати за них, ни поимати у них за себе, ни брататися с ними, ни кумитися, ни целованиа с ними имети, и не ясти с ними, ни пити изъ единого съсуда»[19]. Не аспрэчваючы аксіяматычных версій пра хрышчэнне Русі і пра ролю ў ім Уладзіміра, успомнім, што адказаў Уладзімір прадстаўнікам заходняга хрысціянскага абраду, — «Идете опять, яко отци наши сего не прияли суть»[20]. Тым не менш, пазней, у XII ст., кіеўскія князі Ізяслаў Яраславіч і яго сын Святаполк II стварылі своеасаблівую лацінафільскую партыю, якая дзейсна ўплывала на розумы кіяўлянаў аж да пачатку княжання Уладзіміра Манамаха. Гэтыя князі займалі яўна еўропацэнтрысцкую пазіцыю, арыентаваную на дынастычнае і канфесійнае збліжэнне еўрапейскіх, у першую чаргу славянскіх, народаў. Перад намі — ключ для разумення розных шляхоў фарміравання беларускага, рускага і ўкраінскага этнагенезу. Маскоўскай Русі імпанавала толькі адна частка кіеўскай хрысціянскай гісторыі — праваслаўная. Любое пасягальніцтва на праваслаўе ў Маскоўскай дзяржаве разглядалася як пасягальніцтва на ўстоі дзяржавы. Каталікаў-маскавітаў грамадскасць не прымала, лічыла іх адступнікамі. Так было, напрыклад, з Галіцынымі, а Чаадаеў увогуле быў абвешчаны вар'ятам.

Беларускі і ўкраінскі этнагенез складваліся ў іншых умовах. З перанясеннем цэнтра «збірання» земляў з Кіева ў Наваградак, а потым — у Вільню, паўстала праблема не адзінавернасці, а талерантнага ўспрыняцця любой хрысціянскай канфесіі. Беларускія аўтары настойліва гавораць не пра аднаразовае хрышчэнне Русі Уладзімірам, а пра «траякае» і нават «пяцяракае». Працытуем «Іерархію» (1644) Яна Дубовіча: «Чытаем у гісторыкаў пра траякі хрост Русі: першы — з часоў Васілія Македонскага, грэчаскага імператара, [з часоў] князя ўсёй Русі Рурыка і [з часоў] кіеўскіх князёў Аскольда і Дзіра. <...> Васілій Македонскі, шмат ваяваўшы з агарэнамі, заключыў мірнае пагадненне з Руссю і намаўляў прыняць хрост. Яны яму абяцалі і прасілі, каб ім далі епіскапа, якога і паслаў да іх імператар. А Русь ізноў марудзіла, кажучы епіскапу: «Калі ўчыніш нам які-небудзь цуд, то станем хрысціянамі». Епіскап на іх просьбу кінуў Евангелле ў агонь, і яно доўга было ў агні, але не згарэла. Здзівіўшыся гэтаму, русь ахрысцілася. Аднак тут жа хроніка славянская дадае: «Але яшчэ час не прыйшоў, каб у іх было пахвалёнае імя Панскае». Узяў гэта храніст з грэчаскіх гісторыкаў Занары і Гедрэна, якія згадваюць пра гэта. Праўда, імёнаў рускіх князёў, якія былі ў той час, яны не падаюць» [21].

У дадзеным выпадку важна, што беларускі аўтар не звяртаецца да агульнарускіх гістарычных крыніцаў, спасылаючыся на грэчаскіх гісторыкаў. Важная таксама ідэя святасці свяшчэннага тэксту (Еванегелле, кінутае ў агонь, не згарэла), якая выпрацавалася яшчэ ў гуманістычнай культуры Рэнесанса.

Для Яна Дубовіча было важна

паказаць заходні вектар хрысціянізацыі Русі. Доказам таго, што першы хрост Русь прыняла не ад праваслаўнага Патрыярха, а ад каталіцкага (так у аўтара), ён лічыць справу святых апосталаў славянскіх Мятода і Кірыла. Яны, па словах пісьменніка, у той час, калі Фоцій у Канстанцінопалі бунтаваў супраць Папы, ездзілі па благаслаўленне ў Рым. «А выпраўлены яны былі ў славянскія краіны, — працягвае ён, — для навяртання іх у веру яшчэ ў часы імператара Міхаіла, на пачатку патрыяршаства святога Ігнація»[22]. Аднак першы хрост, падкрэслівае пісьменнік, не быў усеагульным, для ўсёй Русі, а толькі для нямногіх асобаў. «Вось чаму, — піша ён, — змарнела і тая невялікая частка хрысціянскай веры. Падобна таксама, што і пастыраў яны не мелі з прычыны бунтавання, якое ў той час ушчыніў у Царградзе Фоцій»[23].

Распавядаючы пра жыццё Кірыла ў чэшскай зямлі, Ян Дубовіч акцэнтуе факт яго наведвання Рыма з мэтаю пасвячэння ў святары сваіх вучняў. Святому Кірылу давялося сутыкнуцца з непрыняццем і супрацівам, што было звязана з нежаданнем прызнаваць царкоўнаславянскую мову мовай хрысціянскай літургіі.

«І калі даведаліся пра яго, то сабраліся супраць яго епіскапы, прэзбітэры і манахі, быццам варанне якое, ды абвінавацілі яго ў ерасі [супраць сакральнасці] трох моў, кажучы: «Чалавеча! Скажы нам, чаму ты нас вучыш па тых кнігах, якіх не напісалі ні апосталы, ні хтосьці з прарокаў, ані Рымскі Папа, ні Грыгорый Багаслоў, ані Еранім. Бо мы ведаем тры мовы, на якіх належыць хваліць Бога: габрэйскую, лацінскую і грэцкую». Калі ж даведаўся папа Адрыян, то паслаў да Кірыла, і калі той уваходзіў у Рым, выйшаў насустрач яму сам Папа з усім духавенствам. Бо ён атрымаў звесткі, што [Кірыл] нёс мошчы святога пакутніка і Папы Рымскага Клімэнта. І прыняў Папа кнігі славянскія, і, асвяціўшы, паклаў у касцёле Найсв. Панны Марыі, названым «Pacis», г. зн. «Супакою». Там жа двум сваім епіскапам, Гордыю і Фармозу, даручыў, каб яны пасвяцілі славянскіх вучняў у святарства. А пасля пасвячэння спявалі літургію ў касцёле св. апостала Пятра на славянскай мове, а Nocturnum (начную літургію. — Аўт.) — у Касцёле св. апостала Паўла»[24].

Ян Дубовіч прыводзіць таксама іншае сведчанне: «Яны (Кірыла і Мятод) прасілі папу Мікалая, каб следам за імі дазволена было новаахрышчаным народам адпраўляць набажэнства на славянскай той мове, што зацверджана нават Боскім словам: каб кожная душа хваліла Пана. І ў славянскіх кнігах паведамляецца, што, калі Папа вагаўся, ці зацвердзіць гэта, раптам пачуўся голас з неба: «Всякое дыхание да хвалит Господа». У лацінскіх жа кнігах згадваецца папа Мікалай таму, што яны прыйшлі ў апошні год [архіпастырства] папы Мікалая і жылі аж да часоў папы Адрыяна. Тут кожны яўна можа пераканацца, як той святы апостал славацкі (sic!) патапіў праклятую Фоціеву схізму, бо вучняў сваіх вадзіў у Рым сваціць на стан духоўны, і адтуль атрымлівае ён благаслаўленне для тых, якія меліся адпраўляць хрысціянскае набажэнства ў цэрквах славянскай мовай»[25].

Самай складанай для літаратуры тэмай узаемадачыненняў славянаў была тэма ваенна-патрыятычная. Дзве вялікія бітвы, дзве вялікія перамогі — на полі Куліковым і пад Грунвальдам — прымусілі Заходнюю Еўропу праявіць зацікаўленасць да гісторыі, да культуры славянскіх народаў. Адразу ж пасля падзення Канстанцінопаля з'явілася кніга італьянца Энэя Сільвія Пікаламіні «Пра Польшчу, Літву, Прусію» (1458), трактат «Пра дзве Сарматыі» (1517) прафесара Кракаўскага ўніверсітэта Мацея Мяхоўскага, «Нататкі пра маскавіцкія справы» (1549) аўстрыйскага дыпламата Сігізмунда Герберштэйна. Трактаты на лацінскай мове былі агульнадаступнымі для неславянскага чытача — яны фарміравалі тую аўру, у якой існавала гісторыя і псеўдагісторыя суседніх славянскіх народаў. Што магло зацікавіць жыхароў Заходняй Еўропы? Хутчэй за ўсё, яны імкнуліся спасцігнуць штосьці глабальнае — агульны гістарычны лёс славянаў, духоўныя каштоўнасці, якія дазволілі не толькі выжыць, але і стаць грунтам для дзяржаўнага, нацыянальнага самасцвярджэння.

Беларусы XVI ст. не адчувалі сябе чужынцамі на еўрапейскім культурным кантыненце. Мікалай Гусоўскі складае цэлую галерэю мастацкіх вобразаў, найперш з хрысціянскага пантэону. У сваіх творах ён звяртаецца да вобразаў святой Ганны, святога Себасцьяна, да святога апостала Пятра. Яго антрапацэнтрызм асвечаны высокаю годнасцю чалавека Еўропы, славяніна, за якім стаіць багатая гісторыя і культура. Фактычна ён, як і вялікі Пятрарка, асуджае Рым, які перад навалаю пошасці зрокся пракаветных хрысціянскіх каштоўнасцяў. На фоне нікчэмнай і абсалютна непатрэбнай барацьбы з уяўнымі ведзьмамі, на фоне крывавых відовішчаў забойства безабаронных жывёлаў (карыдаў), з якіх цешацца цывілізаваныя жыхары Заходняй Еўропы, свет усходнеславянскай культуры выступае ў «Песні пра зубра» (1523) аксіялагічна больш прывабным. Чалавек і прырода знаходзяцца ў гарманічнай еднасці, высакародныя законы рыцарства ў беларускім грамадстве абумоўліваюць адпаведнае стаўленне да народных вераванняў, жывой прыроды, у рэшце рэшт, да зубрыных ловаў.

Папярэднікі Мікалая Гусоўскага адзначалі перш за ўсё знешняе падабенства зубра да быка або казла. У сістэме каштоўнасцяў аўтара «Песні пра зубра» ёсць унутраны падтэкст. Паляванне на зубра ў этыкетна-эстэтычных адносінах — значна больш высокая ступень элітарнай побытавай культуры ў

параўнанні з відовішчам забойства быка. У сферы ж палітычнай (стварэнне антытурэцкай кааліцыі, дзеля чаго, уласна кажучы, прыбылі ў Рым Мікалай Гусоўскі і яго мецэнат) рымскім Пантыфікам і рымскай арыстакратыі было дадзена зразумець, хто насамрэч здольны ўтаймаваць агрэсіўных асманаў: Рым, які страціў сваю былую магутнасць і знаходзіцца на мяжы страты веры, ці ўсходнеславянскія рыцары-воіны на чале з каралём, якія ў часы Вітаўта і Ягайлы далі адпаведны ўрок заходнееўрапейскаму рыцарству на палях Грунвальда.

Нават у паэме «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта» паралельна з тэмай хрысціянскага падзвіжніцтва святога Гіяцынта прысутнічае не менш актуальная на той час тэма неабходнасці яднання славянаў перад пагрозай мангола-татарскага нашэсця. Як вядома, святы Гіяцынт, выхадзец з польскіх земляў, здзейсніў свой місіянерскі і грамадзянскі подзвіг не толькі на землях Польскай Кароны, але таксама ў Беларусі і ва Украіне, пакінуўшы свайго паслядоўніка Віта ў Любчы.

Прайшоўшы багаты шлях асэнсавання сваёй хрысціянскай ідэнтычнасці, беларусы ў XVII ст. «перараслі» нават рымскую канцэпцыю паходжання вялікіх князёў літоўскіх, якая грунтавалася на паданні пра Палямона. Рэктар Віленскай акадэміі Альберт Віюк-Каяловіч стварае першую навуковую гістарыяграфію Вялікага Княства Літоўскага («Гісторыя Літвы», Гданьск, 1650; Антверпен, 1669), у якой прадстаўляе абсалютна наватарскую версію хрысціянізацыі гэтай краіны. Гаворачы пра пачаткі айчыннай дзяржаўнасці, А. Віюк-Каяловіч прыгадвае не гісторыю старажытнага Рыма часоў імператара Нерона (як у «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай»), не аналы новай цывілізацыі гунаў на чале з правадыром Атылам (як у «Хроніцы Быхаўца»), але гісторыю лангабардаў. Такім чынам, ён храналагічна набліжае дзеянне да часоў агульнапрынятай першай хрысціянізацыі ўсходніх славянаў — IX ст.

Пад 591 г. А. Віюк-Каяловіч натуе: «У часы праўлення Агілульфа (лангабардскі кароль, памёр каля 615 г. — Аўт.) увесь народ перайшоў у хрысціянскую веру: як большасць арыстакратаў, якія былі арыянамі (гэтае вучэнне яны запазычылі з Германіі і Паноніі), так і народ, які да таго часу ўшаноўваў балванаў»[26]. Надалей, паведамляе гісторык, адбываецца шэраг ваенных сутычак лангабардаў на чале з каралём Дэзідэрыем з галамі. У рэшце рэшт Карл Вялікі, «увайшоўшы з магутным войскам у Італію, не проста перамог іх (лангабардаў. — Аўт.) у вайне, але, нястомна праследуючы лангабардаў, выкараніў іх разам з іх іменем»[27].

Паводле А. Віюка-Каяловіча, эмігрантамі з Рыма былі менавіта лангабарды, і, такім чынам, лангабард Палямон прыбывае ў Прынёманскі край прыкладна ў той жа час, калі печанежскі князь Кура забівае кіеўскага князя Святаслава і робіць келіх з яго нага чэрапа. Вось чаму менавіта гэтыя дзве постаці старажытнай гісторыі ўсходніх славянаў — Куры і Святаслава — цікавяць Яна Радвана, аўтара гераічнай эпапеі «Радзівіліяда» (1592), а пра Уладзіміра Святаслававіча ён нават не згадвае. Цікава, што менавіта ў А. Віюка-Каяловіча даецца інфармацыя пра тое, што Палямон вызнаваў хрысціянства (хутчэй за ўсё, у форме арыянства).

Такім чынам, у літаратурных крыніцах розных часоў адлюстравана ўяўленне пра разнастайнасць і складанасць працэсу хрысціянізацыі ўсходнеславянскіх, у тым ліку і беларускіх, земляў. Пры гэтым у працэсе ўзнікнення шматлікіх інтэрпрэтацый першапачатковыя гістарычныя звесткі маглі скажацца ці нават фальсіфікавацца, у тым ліку з прычыны змянення семантыкі такіх важных культурных ідэнтыфікатараў, як «рускі», «польскі», «літоўскі», «Русь», «Польшча», «Літва». Аднак, незалежна ад гэтых зрухаў, прыняцце веры Хрыста матывавалася не толькі палітычнымі, але і культурна-асветніцкімі, а перадусім маральна-этычнымі — душавыратавальнымі — мэтамі. А значыць, помнікі айчыннага пісьменства пацвердзілі аксіёму пра тое, што ў напісаным застаюцца толькі вечныя каштоўнасці.

---

[1] Нечволодов А. Сказания о русской земле. Репринтное изд. в 4-х кн. – Кн. 1. – Кемерово, 1991. – С. 179.
[2] Rothe H. Was ist «altrussische Literatur»? – Wiesbaden, 2000. – С. 28.
[3] Гл., напр.: Жлутка А. Заходняе хрысціянства на Беларусі // Наша вера. – 1998. – № 1, 2, 3.
[4] Цыт. па: Робинсон А. Н. Литература Древней Руси в литературном процессе Средневековья XI–XIII вв. – М., 1980. – С. 227.
[5] Rothe H. Was ist «altrussische Literatur»?.. – С. 28.
[6] Тамсама. – С. 29.
[7] Повесть временных лет // Памятники литературы Древней Руси. XI – начало XII века. – М., 1978. – С. 126. – Шрыфтавае вылучэнне наша (аўт.).
[8] Тамсама. — С. 128.
[9] Супрасльская летопись // Полное собрание русских летописей. – Т. 35: Летописи белорусско-литовские. – М., 1980. – С. 40. – Шрыфтавае вылучэнне наша (аўт.).
[10] Слуцкая летопись // Полное собрание русских летописей. – Т. 35: Летописи белорусско-литовские. – М., 1980. – С. 81.
[11] Так у летапісах называлі наўгародцаў.
[12] Повесть временных лет... С. 36.
[13] Цяпінскі Васіль. Предмова Василеи Тяпинскіи зацнои монархии словенской... // Прадмовы и пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны; уклад., уступ. арт. і камент. У. Г. Кароткага. – Мінск, 1991. – С. 35.
[14] Skarga P. O jedności Kościoła Bożego pod iednym pasterzem… W Wilnie, 1577 // Русская историческая библиотека. – Т. VII: Памятники полемической литературы. – Кн. 2. – СПб., 1882. – Слп. 485–486.
[15] Повесть временных лет... – С. 37.
[16] Слуцкая летопись... – С.79.
[17] Dubowicz J. Kalendarz prawdziwy Cerkwi Chrystusowey... W Wilnie : W Drukarni Oycow Bazylianow Monast. S. Troyce, 1644. – Л. 2 адв. н. н.
[18] Тамсама.
[19] Киево-Печерский патерик // Памятники литературы древней Руси. XII век. / Вступ. ст. Д. С. Лихачева; сост. и общ. ред. Л. А. Дмитриева и Д. С. Лихачева. – М., 1980. – С. 614.
[20] Повесть временных лет... – С. 100.
[21] Dubowicz J. Hierarchia abo O zwierzchności w Cerkwi Bożej. Od Wieleb[nego] Oyca Iana Dubowicza, Archimandryty Monastera Dermanskiego, w druk za dozwoleniem starszych podana. – We Lwowie, 1644. – С. 167–168.
[22] Тамсама. – С. 168.
[23] Тамсама.
[24] Тамсама. – С. 169.
[25] Тамсама. – С. 169–170.
[26] Wijuk Kojałowicz Albertus. Historiae Lituanae Pars prior… Dantisci, 1650. – С. 26.
[27] Тамсама. – С. 27.

# З РАБРА БЕЛАРУСКАЙ ВЯРБЫ




*Духу магутныя чары: Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах. — Лімарыус, 2015, 416 стар.*

У юбілейным 2010-м, калі адзначаліся 100-я ўгодкі Ларысы Геніюш, у мінскай сядзібе ТБМ імя Францішка Скарыны прайшла вечарына памяці паэткі. Адметная яна была тым, што прысутныя на вечарыне вядомыя людзі (пісьменнікі, мастакі, гісторыкі) чыталі не вядомыя, не публікаваныя раней геніюшаўскія вершы. Выцягнутыя незадоўга перад гэтым са шматгадовай архіўнай цішы, яны «першапублікаваліся» галасамі, прыходзілі ў свет духам, а не літарай.

Вершаў пятнаццаць тады прагучала — пазней чытачы сустрэліся з імі на старонках геніюшаўскага двухтамовіка, з якім паспела да юбілею выдавецтва «Лімарыус».

Пасля імпрэзы я папрасіў удзельнікаў проста на аркушах з вершамі запісаць свае ўражанні пра толькі што прачытаны творці кароткую подумку пра яго аўтарку. У паслявечарыннай гамане і мітусні не ўсе здолелі выканаць просьбу, але напісанае — засталося. Экспромты, вядома ж. Але хіба тэкст, занатаваны похапкам, саступае па шчырасці напісанаму пасля працяглых разважанняў? Хутчэй наадварот. Зрэшты, у кожнага творцы свае спавядальні, і лепш туды без пільнай патрэбы не лезці...

Памятаю, з якім хваляваннем на той вечарыне чытаў верш «Хрыстос васкрос, і свет прачнуўся...» мастак Аляксей Марачкін. Імпрэза адбывалася акурат на Звеставаннне, і гэта стварала адпаведны ўзнёслы настрой у цеснаватай зале. А пад вершам чытальнік напісаў: «Ларыса Геніюш — наша Жанна д'Арк. Яна патрабавала ад нас, сваіх сяброў, быць свабоднымі. Яна жывіла нас энергетыкай супраціву, каб мы супрацьстаялі цемры, падману і здрадніцтву. Яна і сёння ў Беларусі самая актуальная паэтка».

Паэта Сяргея Законнікава пасля прачытання верша «Пяро маё, цяжкое ад адчаю...» перапаўнялі непадробныя сыноўскія пачуцці: «Ларыса Антонаўна, як матуля, бараніла нас, беларусаў. Бараніла сваёй пяшчотай, ласкай, любоўю, бараніла мужнасцю, сумленнай смеласцю, бясстрашнай паэзіяй. Так можа толькі мама, матулечка, маці!».

Гісторык Міхась Чарняўскі выбраў для чытання верш на гістарычную тэму: «Топчуцца коні тэўтонаў па землях адвечных прусаў...» Хоць якія там тэўтоны з прусамі — алегорыя верша відавочная, таму і не аддавала яго аўтарка ў друк, таму і праляжаў ён у архіве амаль паўстагоддзя. Блізкі сябра паэткі і публікатар яе знакамітай «Споведзі» на палях верша напісаў коратка і ясна: «Да спасціжэння Ларысы Геніюш нам яшчэ ісці ды ісці. Дойдзем да Геніюш — дойдзем да Беларусі».

Паэт Васіль Зуёнак агучыў на вечарыне верш «Лёг світаннем на стол позні ранак барвовы...», а водгук свой разгарнуў у цэлае міні-эсэ, згадаўшы другую, таксама доўгія гады апальную, паэтку: «Калі б вы зналі...» — споведна прызналася аднойчы Ганна Ахматава. І кожны раз, калі я кранаюся душой паэтычных радкоў Ларысы Геніюш, хочацца ўсклікнуць таксама: «Калі б вы зналі, з чаго нараджаліся яе вершы!». Яна сама расказала аб гэтым у сваёй вялікай — перад Богам і людзьмі — «Споведзі». І расказалі аб тым, расказваюць і расказваць будуць сведкі гэтай споведзі — вершы. Няйначай сам лёс дыктаваў радкі непакоры паэтычнай музе Ларысы Геніюш. Яны абедзве — і Геніюш, і Ахматава — ніколі духам сваім

не былі вязнямі. Яны паўставалі трыумфатарамі, пераможцамі над светам цемрашалаў і катаў».

Чатыры водгукі (а можна было б прывесці і больш) — і ў кожным удзячнасць чытача, суайчынніка, нашчадка. Зборнік «Духу магутныя чары...» так і можна было б назваць: кніга людской удзячнасці, бо менавіта ўдзячнасці ў ёй найбольш — і ў пасмяротных успамінах, і ў прыжыццёвых лістах. Успаміны Рыгора Барадуліна, Адама Мальдзіса, Масея Сяднёва, Паўліны Мядзёлкі, Міхася Чарняўскага, Вольгі Іпатавай, Зянона Пазняка, Аляксея Марачкіна, Дануты Бічэль, Уладзіміра Арлова ўжо друкаваліся ў першым у Беларусі «персанальным» біяграфічным альманаху «Асоба і час» (№3), а чатырнаццаць аўтараў занатавалі свае згадкі адмыслова для новай кнігі. Сярод іх вільнянка Леакадзія Шышэя (была з Ларысай Геніюш у адным лагеры ў Комі АССР), зальвянка Яніна Шматко (запісала галасы зэльвенскіх знаёмых паэткі), мастак Уладзімір Басалыга (аздабляў зборнік паэткі «Невадам з Нёмана»)...



Ларыса Геніюш з сынам.
Надпіс на адвароце здымка: «Дарагому дзядзьку Кастусю Сячэйку, вернаму сторажу нашай беларускай мовы і абычаяў, даю сваю фатаграфію з каханьнем. Л. Геніюш. Зэльва, 2.5.1943 г.»
Публікуецца ўпершыню.

У лістах у Зэльву (іх у кнізе 49) — таксама ўдзячнасць. Львавянка Аксана Сенатовіч сярод іншага дзякавала беларускай паэтцы за «спогады» аб пражскіх украінцах, былы гулагавец Мікола Канаш — за вершы, што дапамагалі выжыць на «беласмертнай поўначы», поўны сваіх вялікіх задумаў трыццаціпяцігадовы Уладзімір Караткевіч — за цяпло і беларускі дух зэльвенскай хаты, дзе ён «моцна адагрэўся душою».

Бываючы ў Зэльве, стараюся і я не мінаць тае хаты — на былой Царкоўнай вуліцы, сённяшняй Савецкай, у будучыні (хочацца спадзявацца!) — імя Ларысы Геніюш. Збудаваная ў далёкім 1895 годзе, яе хата цудам ацалела ў міжваенным пажары, выстаяла пад бомбамі Другой сусветнай, каб улетку 1956-га прытуліць Ларысу Антонаўну і Івана Пятровіча, якія вярнуліся з савецкай няволі. За сто дваццаць гадоў неаднойчы перабудаваная, яна і да гэтай пары ўсё тоіць у сабе патаемны дух даўніны і, здаецца, гатовая адгукнуцца на покліч сваёй былой гаспадыні: «О сям'я Генюшоў, благаслаўлёная хата!».

Ці не ўсе аўтары кнігі «Духу магутныя чары...» пабывалі ў той «благаслаўлёнай» хаціне. З яе згаданы ўжо Міхась Чарняўскі выносіў пад покрывам ночы рукапіс «Споведзі» і дзеля засцярогі ад чужых вачэй даваў кругаля праз стары мост над Зальвянкай і зарэчны лес. З той хаты ў 1971 годзе Васіль Быкаў вывез яшчэ адзін смелы па тым часе тэкст, прачытаўшы які, можна было падумаць, што ў ціхамірнай Зэльве выспявае антысавецкае паўстанне, падбухторшчыкамі якога выступаюць... намеснік рэдактара мясцовай газеты і дэпутатка пасялковага савета, якія (так, прынамсі, выглядала) паставілі свае подпісы пад артыкулам, дзе крытыкавалася нацыянальная палітыка ЦК КПБ. Той напісаны, як падаецца, самой Ларысай Геніюш артыкул пад назвай «Ці наступіць гэты доўгачаканы рашучы паварот?» (ён змешчаны ў раздзеле «Dubia») Быкаў тады ж, падалей ад ліхіх вачэй, перадаў на захаванне Нілу Гілевічу, а народны паэт (праз сорак з гакам гадоў!) уручыў мне для публікацыі.

Адзін з карэспандэнтаў паэткі, моваазнавец Фёдар Янкоўскі, успамінаў, як у правінцыйнай кнігарні набыў адразу 11 кніг «На чабары настоена» і пасля з радасцю дарыў іх сябрам. Быў распаўсюднікам Слова Ларысы Геніюш!.. Відаць, не памылюся, калі скажу, што і ўсе аўтары кнігі «Духу магутныя чары...», каму пашчасціла пры жыцці ведаць паэтку (а іх ажно 64!), таксама неслі ў беларускі свет тое духаўздымнае Слова. А часам і цярпелі за яго, рызыкавалі за яго сваёй свабодай ці кавалкам хлеба, цярпліва перахоўвалі да лепшых часоў. І тут ужо сваю ўдзячнасць мусім выказаць ім мы — чытачы гэтай кнігі.



Памятны медаль «Ларысе Геніюш — 100 гадоў» атрымлівае зэльвенскі святар Георгій Субаткоўскі. 2010 г.

Сярод архіўных знаходак, якія трапілі ў кнігу, не выпадае абмінуць увагай перапіску Ларысы Геніюш з Канстанцінам Езавітавым. Датуецца яна 1943 годам, калі паэтка ўжо была аўтаркай вядомай сярод беларусаў на чужыне кнігі «Ад родных ніў». Энергічны Езавітаў адным з першых ацаніў талент Геніюш, настойліва рэкамендаваў яе вершы кампазітару Аляксею Туранкову, раіў паэтцы засесці за напісанне гістарычнай паэмы, распаўсюджваў, дзе толькі мог, немалы наклад кнігі (найперш рупіўся, каб як мага больш асобнікаў трапіла ў беларускія школы). А адзін з лістоў закончыў шчырым сяброўскім заклікам: «На той зямлі, дзе мы праводзілі першую баразну, зараз Вы мусіце сеяць. Сейце, мая даражэнькая, сейце лепшае, што знойдзецца ў Вашым сэрцы. Сейце зярняткі ўсхожыя, каб зарунела і закаласавала як найхутчэй, як найбуйней!».

На жаль, час для сяўбы быў неспрыяльны. Усяго праз два гады савецкія спецслужбы схопяць Езавітава і вывезуць у Мінск, дзе ён і загіне ў турэмных засценках. Тады ж пачнецца паляванне і на Ларысу Геніюш, якую ўрэшце не абароніць і спехам прынятае чэхаславацкае грамадзянства...

Чытаеш кнігу «Духу магутныя чары...» і міжволі прыгадваецца апавяданне Янкі Брыля «Цуды ў хаціне», бо і ў зэльвенскай хаце адбываліся цуды. І найпершы з іх — цуд пасвячэння ў беларусы, калі наведнік пасля гутаркі з Ларысай Антонаўнай выходзіў на вуліцу чалавекам іншай якасці. А хіба не цуд тое нацыянальнае яднанне, якое здаралася на Геніюшавых шматлюдных днях народзінаў, ці той факт, што аднойчы пасля пабыўкі ў Зэльве гісторык Мікола Ермаловіч пачаў пісаць вершы? Таленавіты са школьнай лаўкі Алесь Разанаў пісаў іх і раней, але сустрэчу з Геніюш таксама запомніў на ўсё жыццё — энергетыка яе была настолькі адчувальнай, што ён мусіў перапыніць размову. Сучасныя парапсіхолагі, магчыма, вытлумачаць гэта фенаменальным біяполем ці чымсьці яшчэ, але нас у дадзеным выпадку цікавіць найперш сама з'ява.

Феномену Ларысы Геніюш, яго паходжанню і станаўленню прысвечана ўжо нямала розных тэкстаў, у будучай Беларусі ім, магчыма, зацікавяцца новыя пакаленні даследчыкаў, якія зададуцца гарэцкаўскім пытаннем — *што яно*?

І сапраўды, усё з нечага ўзнікае, усё ў нешта вытлумачальна пераходзіць: смала-жывіца — у



Стагоддзе Ларысы Геніюш на цвінтары Свята-Троіцкай царквы ў Зэльве. Прамаўляе Данута Бічэль.

каштоўны бурштын, пясчынка на дне марскім — у бліскучую перліну, жоўты пясочак — у празрыстае шкло...

У чалавека, як істоты адушаўлёнай, паходжанне больш складанае, якое самае разгалістае радаводнае дрэва не ахопіць. Як не здолее прадпісаць самы ганаровы гербоўнік ступень годнасці для паэта. Вось які «радавод» — па мячы і па кудзелі — вызначыла сама для сябе Ларыса Геніюш:

*З беларускай учэпістай гліны*
*І з рабра прынямонскіх вярбін,*
*Я галінка ля белага тыну*
*Незабыўных адвечных святынь.*



Студэнты ГрДУ імя Янкі Купалы з выкладчыцай Алай Петрушкевіч «гасцююць у Ларысы Геніюш» у Гудзевіцкім літаратурна-этнаграфічным музеі.

З гліны Бог стварыў першачалавека Адама, з ягонага рабра — Еву. У радках паэткі біблійная гісторыя перамяшалася з канкрэтна-быццёвай, гліна месапатамская — з глінай беларускай, прынямонская вярба перагукнулася з лацінскім verba (слова). Дарэчы, вярба, паводле падлікаў даследчыкаў, часцей за іншыя дрэвы згадваецца ў беларускай паэзіі. Самае непераборлівае і жыццёваўстойлівае дрэва — дзе ў зямлю ні ўткнеш, там і вырасце.

Вярба, што аддала сваё «рабро» для містычнага акту паэтатварэння, і сёння паўсюдна расце на Зэльвеншчыне. Яна прарасла ўжо і ў свет святочна-сакральны, хто ж не ведае прыказкі-прыпеўкі: «Не я б'ю — вярба б'е, праз тыдзень — Вялікдзень...»

У сувязі з гэтым як не прыгадаць і гісторыю будзённа-празаічную. Гады два таму папрасіла мяне маці прыехаць і пасекчы на дровы спілаваныя дарожнікамі ўзбоч вясновай вясковай вуліцы вербы. Цэлае лета прыехаць не выпадала, а пад самую восень падышоў я з сякерай да курганка напілаваных калодак і — сумеўся. Даўжынёй усяго па локцю, бязлітасна і канчаткова адарваныя ад пажыўнай зямлі, яны павыганялі да сонца метровыя парасткі! Толькі сваёй унутранай сілай!

Тыя парасткі, што так праглі ўкараніцца ў родную зямлю, я тады перасадзіў з дрывотніка на азёрны бераг. Як яны там пайшлі ў рост — на вачах проста!

Надзвычай чуйная латышка Візма Бэлшавіца пісала: «Я чую, як расце трава», а мне хацелася засведчыць, што бачу, як расце вярба...

Паэзія — не скіданае ў стажкі бібліятэк шматкніжжа, не выпадковы збор рыфмаў, эпітэтаў і метафар. У ёй закадаваныя сэнсы, да якіх людзі мусяць прыслухоўвацца і прыглядацца.

Беларуская паэзія падае нам *вярба*-льны знак. І знак гэты адназначна вітальны — мы мусім выжыць, мы павінны расці — сілкуючыся з роднай зямлі ці (на крайні выпадак) толькі з назапашаных аўтаномных рэсурсаў. Як тая непераборлівая вярба, што расце на голых сухадолах, пры балоце-чароце ці на гліне пры даліне. Расце, каб нехта з паэтаў і ў наступных стагоддзях наўслед за Ларысай Геніюш мог сказаць: «*я з рабра беларускай вярбы*». І будуць вербы шумець каля грэблі, і пад вярбой Алена мыцьме ручнікі, і на перадвелікодную Вербніцу нас — так небалюча-ласкава — будзе біць тая вярба... Жыццялюбна-неўміручая, як і яе спаконвечны сузямельнік — беларускі народ.

*Міхась СКОБЛА*

---

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.



Лідзія Камінская

# «Жыць — гэта паступова нараджацца...»

## *Да 115-годдзя Антуана дэ Сэнт-Экзюперы*

Калі я раптам чую «будзьце як дзеці», у маім уяўленні ўзнікае знаёмы з юнацкіх гадоў вобраз Маленькага прынца з аднайменнага твора рамантычна-загадкавага, блізкага і далёкага Антуана дэ Сэнт-Экзюперы. Яго «Планета людзей» (у сіняй, як неба, ці жоўтай, як пясок у пустыні, вокладцы), выдадзеная ў «Мастацкай літаратуры» ў 1976 годзе, была амаль у кожнай хатняй бібліятэчцы. Найбольш чыталі менавіта «Маленькага прынца» (1943 г.), але слова «прыпавесць» у дачыненні да гэтай мудрай, шчымліва-светлай казкі амаль не згадвалася: сапраўды, *«дзіўны народ — гэтыя дарослыя»*; дробязі здаюцца ім важнымі, а галоўнага яны не бачаць. Замест таго каб упрыгожваць свой дом, узрошчваць свой сад і сваю планету, яны вядуць войны, муштруюць іншых людзей, цешацца ўсялякаю мішурою і *«абражаюць сваёю мітуснёю і прагнасцю прыгажосць захадаў і ўсходаў»*...

Я пераказала гэтыя думкі Маленькага прынца адвольна, бо добра памятаю яго мілыя развагі, якія дагэтуль (відаць, не толькі ў мяне) выклікаюць сумную ўсмешку, бо нічога ў людзях не змяняецца.

Дарэчы, пра ўсмешку... Экзюперы лічыў яе простым штодзённым цудам, здольным аб'ядноўваць усіх людзей, а часам і выратоўваць. Аднойчы яна выратавала і яго: прыехаўшы ў Мадрыд як карэспандэнт парыжскіх газет, ён быў выпадкова затрыманы рэспубліканскімі патрульнымі, якія не ведалі французскай мовы (яго маглі расстраляць), і тады пісьменнік, усміхнуўшыся, жэстам папрасіў у канваіра цыгарэту. Канваір у адказ таксама ўсміхнуўся. *«Гэта было, як світанак»*, — напіша Экзюперы ў «Пасланні да заложніка» (1943 г.).

Ён нарадзіўся 29 чэрвеня 1900 года ў Ліёне і, як многія дзеці са статусных каталіцкіх сем'яў, выхоўваўся ў каледжы Нотр-Дам дэ Сэнт-Круа пад пільным вокам айцоў езуітаў. Вучыўся сярэдне і паводзіў сябе далёка не прыкладна, але з маленства складаў вершы, добра маляваў, любіў тэхніку. Быў шумным, непаседлівым, але мог доўга маўкліва глядзець на агонь (вобраз агню часты ў яго творчасці).

Дзяцінства было шчаслівым, амаль казачным, а праходзіла яно ў таямнічым бабуліным замку, куды маці Антуана — мастачка Марыя дэ Фанскаломб — перабралася з пяццю дзецьмі пасля смерці мужа. Казкі расказвала і маці, і гувернантка Паўла, якая паходзіла з Цiроля — дзівоснай краіны лясоў і гор. Дзеці любілі і замак (асабліва гарышча), і парк каля яго, і нават свае сонна-салодкія хваробы, бо яны давалі большае права на бязмежны

**Лідзія Камінская** — філолаг, супрацоўніца выдавецтва «Про Хрысто». Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н), у Літаратурным музеі Янкі Купалы, Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, у часопісе «Роднае слова». Жыве ў Мінску.

акіян матчынай любові. Маці, схіляючыся над ложкамі сваіх анёлаў, разгладжвала ласкавымі рукамі ўсе «хвалі і складкі», адганяючы ўсялякія цені. *«Вы,* — пісаў Антуан Экзюперы ў адным з лістоў да маці, — *супакойвалі нашы ложкі, як Божая рука супакойвала хвалі на моры».* Дзіцячае пачуццё абароненасці матчынай цеплынёю, утульнасцю ўсяго дома, дзе нават камін гудзеў ноччу, нібы добры чмель, пераконвалі хлопчыка ў абсалютнай бяспецы ўсяго свету, і можа таму ён нічога не баяўся. *«Адкуль я? Я з майго дзяцінства, быццам з нейкай краіны»,* — пісаў Экзюперы ў «Ваенным лётчыку».



Антуан (другі справа) з братам Франсуа і сёстрамі.

Але фармаванне душы, як вядома, часта суправаджаецца болем — у юнацтве ён здаецца асабліва невыносным, і памяць пра яго звычайна застаецца на ўсё жыццё. Калі Антуану было 17 гадоў, ад рэўматоіднага кардыту памёр яго 15-гадовы брат Франсуа. Дзеці ў сям'і Экзюперы выхоўваліся паводле хрысціянскіх запаведзяў — прычым вера не выказвалася ў марных словах, а была часткаю глыбокага ўнутранага жыцця кожнага. Менавіта вера стрымлівала дзяцей ад лішніх пытанняў, змушаючы самастойна задумвацца над жыццёвымі супярэчнасцямі. Калі Бог такі добры, то чаму павінен памерці 15-гадовы хлопчык? Магчыма, з гэтага пытання пачыналася пастаянная ўнутраная работа ў душы Антуана, які стаў задуменным і маўклівым. Пазней ён з горыччу скажа: *«Варта толькі падрасці, як міласэрны Бог пакідае вас на волю лёсу»...* Дарэчы, у каледжы за звычку Антуана глядзець у неба і яго задуменнасць сябры далі яму мянушку «Лунацік», што вельмі яго злавала — ён усё жыццё быў рассеяным (мог не зачыніць кабіну ў самалёце!), але быў смелым, таварыскім, вясёлым, справядлівым, шчодрым.

У 1919 годзе на экзаменах у ваенна-марскую вучэльню Тоніо (так звалі яго ў сям'і) «зрэжацца» ... на сачыненні: ён атрымае самы нізкі бал з-за прынцыповага нежадання раскрыць прапанаваную тэму ў фальшыва-патрыятычным стылі. І ён стаў... студэнтам архітэктурнага аддзялення Парыжскай акадэміі мастацтваў, але хутка зразумеў, што яго пакліканне — авіяцыя, і першае яго апавяданне мела запаветную назву «Лётчык». Тады яму было 26 гадоў, і ў гэтыя дзве стыхіі — неба і творчасць — ён увайшоў амаль адначасова.

Будучы вельмі моцна прывязаным да неба і літаратуры, ён яшчэ мацней, як дзіця, быў усё жыццё прывязаны да маці, і з узростам гэтая прывязанасць (пяшчота!) узрастала. Маці была для яго першым дарадцам і крытыкам — сапраўдным сябрам. Лісты да маці ахопліваюць найбольшую частку жыцця Экзюперы — з яго 17-ці гадоў, калі ён паступаў у ваенна-марскую вучэльню, і да 1944 года. Апошні ліст яна атрымала пасля яго гібелі, у 1945 годзе.

Лісты пачынаюцца двума нязменнымі зваротамі: «Дарагая



Замак Ла Моль, дзе Антуан правёў гады свайго маленства.



Маці Антуана дэ Сэнт-Экзюперы — Марыя дэ Фанскаломб.

мама!», «Мамачка!» і заканчваюцца подпісамі-запэўніваннямі: «Ваш пачцівы сын Антуан», «Ваш вялікі сын Антуан», «Любячы Вас сын Антуан». Гэта — лісты-аповеды і споведзі, юнацка-мужчынскія справаздачы і просьбы (у тым ліку — у юнацтве — цукерак і шнуркоў для чаравікаў). Матчына любоў сілкавала Экзюперы, вучыла ахвярнасці і шчодрасці і, як у маленстве, давала пачуццё абароненасці. *«Вы — лепшае, што ёсць у мяне ў жыцці,* — піша Экзюперы ў адным з ранніх лістоў. — *Сёння я, як хлопчык, сумую па дому <...>. Вы — адзінае суцяшэнне, калі мне становіцца сумна. <...> З Вамі я быў у бяспецы, я належаў толькі Вам, і гэта было так хораша. Вось і цяпер усё гэтак жа. Толькі Вы — абарона, толькі Вы ўсё ведаеце і можаце суцешыць мяне, так ці інакш я ўсё роўна адчуваю сябе зусім маленькім хлопчыкам. Да пабачэння, мама. У мяне працы — вышэй за галаву. Тут, як і ў Сэн-Морысе, квакаюць жабкі, але яны тут квакаюць значна горш!..»*

Жабкі — гэта вельмі важныя «персанажы», бо хто ж першы палохае і здзіўляе дзіця, калі яно робіць (таксама першыя) крокі па зялёнай траве?.. Яны ўсё жыццё побач з намі — усмешлівыя, лупатыя і трошкі страшныя, асабліва калі не квакаюць, а ўпарта-няўцямна разглядаюць цябе, падскокваючы да самых ножак...

Экзюперы вельмі часта з замілаваннем згадвае ў лістах да маці шчаслівае дзяцінства і нават прызнаецца: *«Я не вельмі ўпэўнены, што жыў пасля таго, як прайшло дзяцінства...»*

Між тым яго жыццё было заўсёды вельмі напоўненым. І шчасцем — таксама. Ён быў шчаслівы ў небе, у нядоўгім каханні і ў доўгім, верным, сапраўдным мужчынскім сяброўстве (зрэшты, ён прыгожа сябраваў і з жанчынаю — Рэнэ дэ Сассін, аб чым сведчаць яго лісты (1923–1930 гг.).

Калі чытаеш гэтыя лісты і кніжкі ў часавай паслядоўнасці, з радасцю і лёгкім сумам бачыш, адчуваеш, разумееш, як дзіця, хлопчык, юнак вырастае ў мудрага мужчыну. Праўда, лісты пішуцца радзей, і ўжо не пра ўсё расказваецца, маўляў, штодзённае жыццё такое нязначнае, аднастайнае, а пра ўнутранае жыццё гаварыць цяжка — *«стрымлівае нейкае пачуццё сарамлівасці». «А між тым,* — піша Антуан маці, — *Вы не можаце сабе ўявіць, наколькі гэта ўнутранае жыццё — адзінае, што мае для мяне значэнне. У ім адбываецца пераацэнка ўсіх каштоўнасцяў і нават у тым, што тычыцца думак пра іншых. Мне ўсё роўна, што нехта «добры», таму што яго вельмі лёгка чымсьці кранучь. Мяне — такога, якім я ёсць,* — *трэба шукаць у тым, што я пішу,* — *гэта добрасумленна вывераны і асэнсаваны вынік усяго, што я думаю і бачу. <...> Я, мама, хутчэй жорсткі ў адносінах да сябе самога і маю права не прымаць у іншых тое, што не прымаю і выпраўляю ў самім сабе. <...> Трэба прабачыць мне, што я не ўвесь на паверхні,*



Антуан дэ Сэнт-Экзюперы. 1921 г.

*а глыбока ўнутры. Я такі, якім магу быць, і гэта часам нават цяжкавата. Вельмі мала людзей, з якімі я па-сапраўднаму шчыры і якія хоць на кропельку ведаюць мяне. Вы сапраўды адзіная, каму я больш за ўсіх даю ўсяго сябе <...>, таму што было б поўнай адсутнасцю годнасці прапаноўваць сябе кожнаму...»*

Як ніхто з пісьменнікаў, Экзюперы ў сваіх кнігах і лістах раскрыў сваю душу ў паслядоўнасці яе духоўнага ўзрастання і яе напаўнення. Няма сумнення ў тым, што ён быў не проста веруючым чалавекам, а сапраўды глыбока веруючым, але звычка жыць *«не на паверхні»*, а *«глыбока ўнутры»*, напэўна, не дазваляла яму шмат гаварыць і пісаць пра гэта. Нездарма ж лічыцца, што самыя інтымныя стасункі чалавека — гэта стасункі з Богам. Прысутнасць Божая, жыццё ў Яго прысутнасці і ў лістах, і ў кнігах пісьменніка больш чытаюцца па-за тэкстам і ў метафарычнасці тэксту. Будучы ліцэістам, Экзюперы захоплена піша маці пра дзівосна прыгожыя старонкі Бібліі: *«...які цуд, якая прастасць, якая веліч стылю і часта — якая паэзія запаведзяў*

<...> *шэдэўры заканадаўчай думкі і здаровага сэнсу. Усе законы маралі ўражваюць сваёй прадуманасцю і прыгажосцю: гэта цудоўна»* (Парыж, ліцэй Сэн-Луі, 1918 год). У больш сталым узросце ён піша пра тое, што ў яго цяпер так мала патрэбаў, што, здаецца, ён мог бы жыць у кляштары. Вядома, у гэтым ёсць яго своеасаблівая іронія лётчыка, які не раз адчуваў сваю адзіноту ў небе ці ў пустыні, куды вылятаді яго крылатыя машыны. Магчыма, ён так любіў і неба, і пустыню, і адзіноту, што сярод зорак і камянёў адчуваў дыханне Стварца і ўсёй планеты і асабліва востра ўсведамляў, наколькі моцныя повязі кожнага чалавека з усім чалавецтвам, і ўсе людзі ў свеце — як адзіная Божая тканка. З'яўленне Маленькага прынца ў пустыні перад лётчыкам, які пацярпеў аварыю, — гэта знакава-сімвалічнае нагадванне даросламу чалавеку пра яго *«ўнутраную радзіму»*, пра яго дзяцінства, а знікненне Маленькага прынца — гэта трагедыя дарослага, у душы якога гіне дзіця.

Між тым сцэна смерці Маленькага прынца пры ўсёй яе казачнасці была напісаная Экзюперы пад уплывам уласнага досведу: пасля аварыі ў Лівійскай пустыні ён расказваў у лісце свайму сябру пра тое, што адчуваў, паміраючы ад прагі ў пясках. Тады яму здалося, што каля яго з'явілася высокая маўклівая Дзева. *«Яна напаіла мяне, Яна праліла ў маю душу бязмежны спакой разам з малаком зорак. Я быў ахоплены невымоўным бязмерным шчасцем і не спадзяваўся дажыць да раніцы* <...> *У мой апошні час Яна накрыла мяне агромністым аксамітным покрывам...»*

Магчыма, так у яго свядомасці зліваліся ў той момант вобразы зямной маці і Божай Маці... А знайшлі яго тады ў пясках — арабы...



Антуан дэ Сэнт Экзюперы каля самалёта.

Калі пачалася Другая сусветная вайна, ён быў мабілізаваны і ўжо 4 верасня 1939 года прыбыў на ваенны аэрадром у Тулузу, у сваю часць. Але дактары прызналі яго не прыдатным для службы ў ваеннай авіяцыі — і па ўзросце, і па стане здароўя. Яму было 39 гадоў, аднак пасля некалькіх аварый (першая — у 1923 годзе, з праломам чэрапа) ён з цяжкасцю ўціскваў сваё амаль двухметровае цела ў самалёт і нават лётны камбінезон нацягваў з дапамогаю сяброў. Але ён перамог і сваё цела, і медыцыну, і 3 лістапада 1939 года быў залічаны ў авіячасць дальняй разведкі.

У адным з лістоў ён коратка сфармулюе кірунак сваіх творчых высілкаў у кнігах, напісаных падчас вайны: *«Заходняя хрысціянская цывілізацыя сама вінаватая ў тым, што апынулася пад пагрозаю. Што яна зрабіла за апошнія восемдзесят гадоў, каб прыцягнуць сэрцы людзей да сваіх вартасцяў?* <...> *Маё пакаленне гуляла на біржы, абмяркоўвала ў барах мадэлі аўтамабіляў і кузаваў, займалася агіднай спекуляцыяй на амерыканскіх таварах...»*

Свае думкі пра разбурэнне духоўнай культуры і неабходнасць яе адраджэння А. дэ Сэнт-Экзюперы ўвасобіць у кнізе «Ваенны лётчык» (1942), забароненай акупацыйнымі ўладамі, — у 1943 годзе яе падпольна выдалі ў Ліёне ўдзельнікі руху Супраціўлення. Гэтая кніга (аповед лётчыка пра свой адзін дзень на вайне) была годным адказам перадавой французскай культуры на злачынствы фашызму, якія Экзюперы бачыў у жахлівых маштабах з вышыні палёту. Пад пагрозаю было ўсё, што ён любіў, але ён хацеў удзельнічаць у вайне *«не з-за сваёй любові»*, а *«паводле сваёй унутранай веры»*. Таму свае думкі пра адраджэнне духоўнасці ён увасобіў у вобразе сабора і камянёў, якія некалі складалі сабор, а цяпер былі разрозненыя — разрозненыя людзі, якія, *«аб'яднаўшыся, маглі б скласці сабою сабор, ператвараюцца ў груду камянёў, якія сваім цяжарам трушчаць адзін аднаго»*. Магчымасць знішчыць фашызм Экзюперы бачыў у абуджэнні прагі чалавека да Ісціны, да духоўнага фармавання асобы і яе здольнасці стаць часткаю агульнай вялікай садружнасці ўсіх людзей. Экзюперы лічыў,



Антуан дэ Сэнт-Экзюперы ў кабіне самалёта.

што кожны чалавек павінен разумець сваю асабістую адказнасць за тое, што адбываецца на зямлі, за грахі ўсіх людзей. «*Кожны — за ўсіх*». Словы «*...я адказны*», — пісаў ён, — «*павінны быць дэвізам годнасці кожнага чалавека*». «*Гэта — вера ў дзеянні*».

Працытую некалькі думак паводле майго любімага выдання ў сіняй вокладцы (мой пераклад з рускай мовы можна апраўдаць маёю любоўю да Экзюперы).

*«У мяне няма ні адчування вялікай небяспекі (рыхтуючыся ў палёт, я хваляваўся куды мацней), ні такога пачуцця, быццам я выконваю вялікі абавязак. Бітва паміж Захадам і нацызмам на гэты раз, у межах маіх дзеянняў, зводзіцца да кіравання рукаяткамі, рычагамі і кранікамі. Так і павінна быць. Любоў сакрыстыяніна да Бога зводзіцца да любові запальваць свечкі. Сакрыстыянін размеранымі крокамі ходзіць па касцёле, якога ён не заўважае, і задаволены тым, што кандэлябры расквечваюцца ў яго адзін за адным. Калі ўсе свечкі запаленыя, ён пацірае рукі. Ён ганарыцца сабою. Я таксама выдатна адрэгуляваў крок вінтоў і трымаю курс з дакладнасцю да аднаго градуса...»*

*«...Ноччу, калі падводзяцца вынікі, Бог часова пазбаўляе людзей магчымасці карыстацца іх багаццямі. І пакуль людзі будуць адпачываць, расціснуўшы да раніцы пальцы па волі неадольнага сну, перада мною ясней паўстане захаваная імі спадчына. Можа быць, тады мне раскрыецца тое, што цяжка перадаць словамі. Я прыду да агню, як сляпы, якога вядуць за далоні. Ён не змог бы апісаць агонь, але ўсё ж такі ён яго знайшоў. Магчыма, так і мне з’явіцца тое, што трэба абараняць, тое, чаго не бачна, але што жыве, падобна палаючым вуголлям, пад попелам вясковых начаў. Мне не выпадае чакаць адмены вылету. <...> Але я хацеў бы своечасова атрымаць тое, чаго заслужыў. Я хацеў бы мець права на любоў. Я хацеў бы зразумець, за каго паміраю <...> Цяпер я не адчуваю любові, але калі сёння вечарам мне нешта адкрыецца, значыць я папрацаваў ужо раней, носячы камяні для нябачнага збудавання. Я сам рыхтую сваю ўрачыстасць, і я не маю права гаварыць, што ўва мне раптам узнік нехта іншы, бо гэтага іншага ствараю я сам. Ад усіх маіх ваенных прыгодаў я не чакаю нічога, апрача гэтай павольнай падрыхтоўкі...»*



Пасля аварыі ў Лівійскай пустыні. 1936 г.



Антуан дэ Сэнт-Экзюперы з жонкаю Кансуэлай. 1931 г.

*«Жыць — гэта паступова нараджацца. Было б занадта проста мець ужо гатовыя душы!»*

*«Калі чалавеку для таго, каб ён адчуў сябе чалавекам, трэба ўдзельнічаць у спаборніцтве ў бегу, спяваць у хоры або ваяваць, то гэта ўжо і ёсць тыя повязі, якімі ён імкнецца звязаць сябе з іншымі людзьмі і з усім светам. Але ж якія нетрывалыя такія повязі! Сапраўдная духоўная культура цалкам запаўняе чалавека, нават калі ён не рухаецца. <...> Унутранае жыццё дамініканіна, які моліцца, насычанае да бязмежнасці. Чалавекам у поўнай меры ён становіцца менавіта тады, калі, укленчыўшы, нерухома застывае ў малітве. <...> Бязмежнасць, падараваная мне домам майго маленства <...> — вось тыя кволыя, бясцэнныя багацці, якімі ўзнагароджвае толькі духоўная культура, таму што бязмежнасць існуе толькі для духу, а не для вачэй...»*

*«...І я працягваю свой палёт <...> Я зніжаюся ў кірунку нямецкіх пазіцый з хуткасцю 800 кіламетраў у гадзіну <...> для таго, каб яны пайшлі прэч з нашай зямлі.*



Сэнт-Экс сярод сяброў па эскадрыллі.
18 чэрвеня 1944 г.

*<...> Я іду на смерць. Я іду на рызыку. Я прымаю не бой. Я прымаю смерць. Мне адкрылася вялікая ісціна. <...> Кожная кулямётная чарга <...> — як пацеркі ружанца. Тысячы ружанцаў імкнуцца да нас, іх пругкія ніткі расцягваюцца да магчымага і рвуцца на нашай вышыні. <...> Уся раўніна працягнула да мяне свае ніткі і тчэ вакол мяне бліскучую сетку <...> Гэты дождж узыходзячага агню неабходны <...>, каб ты нарэшце паўстаў перад трыбуналам Страшнага Суду. Вось тады ты ўсё зразумееш. <...> Агонь вызваліў цябе не толькі ад плоці, але адначасова і ад культу плоці. Чалавек перастае цікавіцца сабою. Яму важнае толькі тое, да чаго ён далучаны. Паміраючы, ён не знікае, а зліваецца з гэтым. Ён не страчвае, а знаходзіць сябе <...> Адзін этап адсутнічае — няма страху. І я жыву не чаканнем смерці ў кожную бліжэйшую секунду: я жыву ўваскрэсеннем, што настае адразу ўслед за папярэдняй секундай. Я жыву ў якімсьці струмені радасці. У няспынным патоку ўзрушэння. І раптам мне сапраўды становіцца хораша. Быццам кожную секунду мне зноў дарыцца жыццё. <...> Я жывы. Я яшчэ жывы. Я ўсё яшчэ жывы. Я ператварыўся ў крыніцу жыцця. <...> О, ці ведаюць тыя, хто страляе ў нас знізу, што яны ў нас выкоўваюць?»*

Кніга «Ваенны лётчык» — гэта роздум пра самае галоўнае: быць ці не быць чалавеку Чалавекам, ці здолее кожны нарадзіць у сабе Чалавека, адказваючы не толькі за сябе, але і несучы на сабе грахі кожнага, адказваючы за іх. Вярнуць людзям жыццё Духу, а не толькі Розуму, — аднавіць хрысціянскія асновы цывілізацыі — *«спадчынніцы Бога»* — у гэтым Экзюперы бачыў выратаванне ад фашызму і ўвогуле ад зла бездухоўнасці. Ён, які амаль нічога не баяўся, са страхам думаў пра тое, што на вайне ў кожную хвіліну ў кімсьці са смяротных можа быць недарэчна забіты Моцарт. Ці ж толькі на вайне?..

У абарону гэтых жа вартасцяў было напісанае і «Пасланне да заложніка», адрасаванае сябру — Леону Верту, які знаходзіўся ў нацысцкім палоне (яму Экзюперы прысвяціў і «Маленькага прынца»), але галоўная размова пісьменніка з самім сабою і людзьмі павінна была адбыцца ў іншай кнізе, якую ён сам задумваў як выніковую, — Экзюперы назваў яе «Цытадэль» і рабіў накіды да яе задоўга да вайны. Гэта мусіла быць своеасаблівая біблія, якая дапамагала б людзям узводзіць у сваіх сэрцах цытадэль чалавечнасці. Экзюперы верыў, што чалавек здольны да перамогі над самім сабою, што людзям вельмі патрэбная вада з чыстых, глыбокіх калодзежаў і зорнае неба над галавою, але трэба кожны дзень, як Маленькі прынц, клапаціцца пра *«сваю ружу»* — сваю душу, узрошчваць свае сады Духу. Калі б ён не верыў у тое, што закінутае ім у кнігі зерне павінна ўзысці, наўрад ці ён стаў бы расказваць нам гісторыю пра мілае дзіця з астэроіда пад нумарам В-612.

...Нядаўна, гледзячы па тэлевізары «Тэрыторыю памылак», дзе сур'ёзныя мужчыны (дактары, кандыдаты, фізікі і матэматыкі) гаварылі пра дзівосную магчымасць падарожнічаць у мінулае і будучыню, а таксама пра зніклых людзей і цягнікі, якія потым з'яўляліся «там і там», я пачула пра самалёт-прывід, які лятае недзе над вадою, па ўсіх прыкметах, заблукаўшы яшчэ з часоў вайны. І я падумала пра Экзюперы. Яго самалёт знік з «планеты людзей», упаўшы ў мора...

Як і Маленькі прынц, Экзюперы загінуў імгненна. Маленькага прынца ўджаліла змяя, а лётчыка з яго самалётам — варожыя кулі. Гэта было 31 ліпеня 1944 года на трасе Аннэсі — Грэнобль. Антуан-Мары-Ражэ дэ Сэнт-Экзюперы (Тоніо, Сэнт-Экс) любіў гэтыя мясціны, бо непадалёку, на зямлі, знаходзіўся замак Сэн-Морыс, дзе ў чароўным дзяцінстве ён быў такі абаронены і такі шчаслівы...

Выкарыстаная літаратура:
1. Антуан де Сент-Экзюпери. Планета людей. — Минск, 1976.
2. Марсель Мижо. Сент-Экзюпери. — Москва, 1963 (серия ЖЗЛ).

# КНІГА-ВІТРАЖ




*Габрусь, Т. В.*
*Сакральнае дойлідства Беларусі: 1000-гадовая спадчына = Сакральное зодчество Беларуси: 1000-летнее наследие = The Sacral Architecture of Belarus: Millennial Legacy / Т. В. Габрусь. — Мінск : Беларуская навука, 2014. — 483 с., іл.*
*ISBN 978-985-08-1718-1.*

Тамара Віктараўна Габрусь — слынная даследчыца гісторыі архітэктуры і манументальнага мастацтва Беларусі — аўтар сотняў навуковых артыкулаў і шматлікіх кніг, што складаюць падмурак нашае айчыннае гістарыяграфіі па праблемах станаўлення, развіцця і аховы здабыткаў беларускае даўніны. Яе кнігі «Помнікі манументальнага дойлідства Міншчыны» (1991), «Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё: Готыка і рэнесанс у сакральным дойлідстве Беларусі» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) сталі неад'емнаю часткаю нашае культурнае прасторы, багатымі крыніцамі для вывучэння нацыянальнае спадчыны. Таму заўсёдная цікавасць да яе кніг цалкам натуральная. А па эксперыментальным падручніку «Мастацтва бачыць свет» (2000), у якім прымала ўдзел Т. Габрусь, вывучылася ды ўзгадавалася пакаленне беларускіх школьнікаў.

Новая кніга Тамары Габрусь, «Сакральнае дойлідства Беларусі: 1000-гадовая спадчына», прысвечаная нашай храмавай архітэктуры, сталася яшчэ адным важкім унёскам славутай даследчыцы ў скарбонку айчыннае навукі. Гэтае багата ілюстраванае выданне вобразна прадстаўляе стрыжнёвую плынь манументальнай культавай архітэктуры Беларусі ад Ранняга Сярэднявечча да нашае сучаснасці, рэпрэзентуючы эвалюцыю светапоглядных і эстэтычных уяўленняў, а таксама змены веравызнаўчых, сацыяльных і палітычных прыхільнасцяў беларускага народа. Сакральны будынак ёсць спецыфічнаю візуальна-семіятычнаю адзінкаю, што фіксуе ключавыя рэлігійна-культурныя зместы. Уяўленне аб «святым месцы» транслюе лакальныя гістарычныя сэнсы і звязаныя з імі візуальныя маркеры на абжытую прастору ў цэлым. Сабраны ў кнізе матэрыял яскрава сведчыць пра велізарнае багацце невымоўнага хараства, што засталося нам у спадчыну. Выданне такога роду друкуецца ўпершыню ў выглядзе багата ілюстраванага даведніка. Прэзентаванае на выставе «Выдавецкі дом «Беларуская навука»: адметныя выданні 2014» у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі, гэтае выданне атрымала дыплом 1-й ступені «За ўклад у захаванне духоўнае спадчыны», стаўшы лаўрэатам 54-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі». «Сакральнае дойлідства Беларусі: 1000-гадовая спадчына» выйшла адначасна на беларускай, рускай і англійскай мовах, бо прызначанае для самага шырокага кола чытачоў.

Сакральная архітэктура, якой прысвечаная новая кніга Тамары Габрусь, нясе не толькі функцыянальную і эстэтычную нагрузку, але выконвае яшчэ і семіятычную функцыю, выступаючы сродкам паведамлення: і як аб'ект сацыякультурных зносінаў, і як знакавы комплекс, з дапамогаю якога адбываецца перадача інфармацыі і звязаных з ёю эмоцый, мнеманічных зместаў, псіхалагічных установак і нормаў. У самым агульным сэнсе сакральная архітэктура служыць формаю фіксацыі, трансляцыі і прэзентацыі базісных культурных архетыпаў. Ад самага пачатку хрысціянства на нашай зямлі храмавае будаўніцтва спалучае ў сабе рысы традыцыяў паўднёвае Візантыі і заходніх краінаў, такім чынам транслю-

ючы нам праз вякі культурныя архетыпы з усіх куткоў Еўропы. Пра гэта Тамара Габрусь піша ў пачатку сваёй кнігі, раскрываючы ва ўсіх дэталях гісторыю нашага сакральнага дойлідства за 1000 гадоў! Аўтарка падрабязна спыняецца на самых вытоках, ад першых хрысцянскіх святыняў, што паўсталі ў нашым краі на мяжы X і XI стагоддзяў, ад полацкага Сафійскага сабору. У першай частцы кнігі змешчаная ўся, без выняткаў, гісторыя культавага будаўніцтва, ад сівых часоў готыкі да нашых дзён. Пры гэтым разглядаюцца не толькі асобныя сакральныя збудаванні, але і іх сукупнасць, узаемная стылістычная сувязь, эстэтычная і семантычная пераемнасць, а таксама іх назвы, тытулы і прысвячэнні, што з'яўляюцца спецыфічнымі семіятычнымі адзінкамі. Важна і тое, што Тамара Габрусь прасочвае непарыўную сувязь, у яе дыялектычным адзінстве, архітэктурных школаў і народных традыцыяў дойлідства ўсіх славянскіх народаў з Еўропаю. Важна і тое, што даследчыца знітавала сучасныя практыкі інтэпрэтацыі культурнае і рэлігійнае спадчыны з працэсам станаўлення нацыянальнае школы вывучэння гісторыі архітэктуры і аховы помнікаў.

У частцы «Мураваны летапіс» змешчаныя, нібы ў зіхоткім вітражы, дзясяткі каляровых здымкаў хрысціянскіх храмаў розных перыядаў, часам з дадаткам абмерных планаў. Выстаўленыя ў храналагічным парадку, па часе збудавання святыняў, гэтыя ілюстрацыі даюць нам панарамнае ўяўленне і пра зменлівасць стыляў, і пра рэгіянальныя адрозненні гэтае часткі нашае нацыянальнае спадчыны. Тут можна ўбачыць на фота не толькі першыя цэрквы Полацка і Гродна, але і раннія гатычныя касцёлы XIV і XV стст. у Навагрудку, Уселюбе, Ішкалдзі. Чытач можа назіраць, як паступова збліжаюцца прынцыпы архітэктанічнага формаўтварэння ў хрысціянскіх храмах усіх канфесій у XVII–XVIII стагоддзях, калі і цэрквы, і касцёлы будаваліся ў супольным рэчышчы пануючага тады стылю барока. І менавіта ў тую эпоху былі ўзведзеныя такія, сусветнага маштабу, шэдэўры нашае архітэктуры, як касцёл Адшукання Святога Крыжа ў Гродне, Мікалаеўская царква ў Магілёве, іншыя праваслаўныя ды ўніяцкія цэрквы і касцёлы, пра якія піша Тамара Габрусь; яна прыклала шмат намаганняў, каб гэтыя шэдэўры не заставаліся ананімнымі. Дзякуючы старанням даследчыцы ў нашую культурную прастору вернутыя імёны дзясяткаў выбітных дойлідаў, гэткіх, як Марцін Фалькоўскі, Андрэй Асікевіч, Францішак Карава ды многія іншыя.

Сімвалічны перанос сакральных сэнсаў, рэалізаваных архітэктурнымі сродкамі, што фарміруюць асаблівую камунікатыўную прастору культуры, часам суправаджаецца спробамі прамога капіявання зыходных узораў. І гледзячы фотаздымкі з гэтае кнігі, мы бачым, як эпоха класіцызму амаль сцёрла канфесійныя адрозненні паміж рознымі хрысціянскімі цэрквамі, калі ўзоры, запазычаныя ў антычным свеце, шматкроць паўтораныя ў еўрапейскіх архітэктурных школах, лёгка і натуральна капіяваліся на сценах цэркваў і касцёлаў Беларусі.

Упершыню ў нашай гістарыяграфіі, менавіта ў гэтай кнізе аўтарства Тамары Габрусь, у адзін непарыўны шэраг узораў храмавага дойлідства розных эпохаў былі пастаўленыя і такія шэдэўры архітэктуры Заходняе Беларусі міжваеннага часу, як касцёлы святых Пятра і Паўла ў Ражанцы Шчучынскага раёна, Унебаўзяцця Панны Марыі ў Начы, святога Ліна ў Пелясе, Маці Божай Ружанцовай у Радуні, праваслаўны Пакроўскі сабор у Баранавічах ды многія іншыя храмы, якія да таго даследчыкі абміналі ўвагаю.

У трэцяй частцы кнігі, што завецца «Драўляныя шэдэўры», прадстаўленыя дзясяткі храмаў, якія цудам ацалелі да нашых дзён праз стагоддзі. І тут мы бачым выдатныя фотаздымкі, што з найлепшых ракурсаў прэзентуюць гэтыя ўнікальныя здабыткі нашае даўніны. Ад самых старадаўніх, такіх як колішні касцёл, а цяпер царква святой Параскевы Пятніцы ў Збірагах, пад Брэстам, якой ужо паўтысячы гадоў, і Спаса-Праабражэнскае царквы пач. XVII ст. у Порплішчы Докшыцкага раёна, да такіх шэдэўраў міжваеннага дойлідства Заходняе Беларусі, як касцёл святых Пятра і Паўла, пастаўлены архітэктарам Львом Вітанам-Дубяйкоўскім у Дрысвятах, на Браслаўшчыне, у 1920-я гг., і царквы Нараджэння Багародзіцы ў Лінове на Пружаншчыне. Завяршае гэты шыкоўны вітраж каляровых ілюстрацыяў фота навюткае царквы Серафіма Сароўскага ў Мінску, збудаванай у 2000 годзе.

Гэтыя асноўныя часткі кнігі суправаджаюць дыхтоўныя каментары, указальнік аб'ектаў і слоўнік «Асноўных тэрмінаў і паняццяў сакральнага дойлідства», што робіць выданне карысным для кожнага, хто пачынае сваё знаёмства з тым велізарным скарбам, які пакінулі нам продкі за тысячу гадоў, перадаўшы багацце эмацыйных, эстэтычных і духоўных сэнсаў, якімі напоўнена кожная, нават самая сціплая, беларуская святыня.

*Сяргей Харэўскі,*
*мастацтвазнаўца.*

Андрэй Шпунт

# «ГАЛАНТНЫЙ ВЕК»...

## Развагі пра кнігу «„Галантный век“ в гербах городов Беларуси: историко-геральдичекое исследование» / С.Е.Рассадин. — Минск: Беларуская навука, 2013. — 102 с.

На працягу 2001 г. мінскі часопіс «Архівы і справаводства» друкаваў серыю артыкулаў доктара гістарычных навук Сяргея Рассадзіна пад агульнаю назваю «Галантный век» городской геральдики Беларуси». Увазе грамадства прапанавалася выснова аб тым, што заганаю нашых гарадскіх гербаў часоў Станіслава Аўгуста з'яўляецца іх каталіцкі, а значыць «клерикальный», «реакционный» рэлігійны характар, адсутнасцю якога адрозніваюцца створаныя ў той жа перыяд для захопленых земляў былога Вялікага Княства Літоўскага гербы з Расійскай імперыі. У адказ у гарадзенскім часопісе «Герольд Litherland» быў надрукаваны артыкул «Клерыкальныя» беларускія гарадскія гербы ад Станіслава Аўгуста Панятоўскага» [9], дзе гаварылася аб няслушнасці высноваў С. Рассадзіна. І вось у 2013 г. у выдавецтве «Беларуская навука» ўбачыла свет манаграфія С. Рассадзіна «Галантный век» в гербах городов Беларуси: историко-геральдичекое исследование» [15], у аснову якой ляглі таксама публікацыі ў часопісе «Архівы і справаводства».

Засяродзім увагу на тым, на чым пабудавана кніга, — супрацьпастаўленні *«явно реакционной, упаднической»* каталіцкай беларускай гарадской геральдыкі часоў Станіслава Аўгуста і расейскіх гербаў, падараваных Кацярынай II нашым гарадам.

З 14-ці гарадскіх гербаў, дараваных прывілеямі Станіслава Аўгуста ад 1792 г., да рэлігійных можна аднесці менш за палову:

Браслаў — «Вока Боскага Наканавання»;

Прывалка — «У блакітным полі арханёл Міхал у блакітным панцыры і чырвонай мантыі з залатою тарчаю і чырвонымі маланкамі ў правай руцэ. У нізе — чорны д'ябал у чырвоным агні»;

Радашковічы — «У сярэбраным полі св. Стэфан, пабіты камянямі»;

Угор'е — «У сярэбраным полі св. Юры перамагае цмока»;

Цырын — «У блакітным полі стаіць алень св. Губерта»;

Шэрашова — «У блакітным полі ў чырвона-залатым строі арханёл Габрыэль з лілеяй у руцэ, злева — пальма».

С. Рассадзін далучае яшчэ сем гербаў — Астрыны, Ашмянаў, Барысава, Воўпы, Гараднoй, Геранёнаў і Радуні. Заўважым, што аўтар манаграфіі ігнаруе два агульныя падыходы да прынцыпу будавання геральдычных класіфікацый:

1. Падзел гербаў робіцца на аснове паходжання. З улікам паходжання, напрыклад, алень як эмблема ўладальніцкага герба трапляе ў групу ўладальніцкіх гербаў; алень св. Губерта трапляе ў групу рэлігійных гербаў; проста алень, як эмблема сама па сабе, трапляе ў групу анімалістычных гербаў. Адна толькі група ўладальніцкіх гербаў можа аб'ядноўваць у сабе ўсю разнастайнасць эмблемаў геральдычнай класіфікацыі.

2. Падзел гербаў робіцца на аснове падабенства. Эмблемы групуюцца паводле прынцыпу ўжывання, як сродкі вытворчасці ці прадметы культуры, нарэшце, па простым падабенстве. Такім чынам, усе выявы аленяў трапілі б у адну групу — анімалістычную [8].

Герб можа мець прыкметы розных групаў, але мае дачыненне толькі да адной, бо ў кожным гербе ёсць ці дамінуючая фігура ці ганаровае месца ў шчыце, калі такой фігуры няма.

АСТРЫНА: «Башта, на якой рука ў даспехах з палашом».

Мы адносім гэты герб да групы архітэктанічных (з прыкметаю уладальніцкага). Як і большасць нацыянальных архітэктанічных гарадскіх гербаў, ён адлюстроўвае не рэальны помнік архітэктуры, а саму ідэю горада. Ад уладальніцкай групы — «збройная рука з шабляй» як адзін з варыянтаў «Малой Пагоні» (калі на шчыце прыведзены не ўвесь герб «Пагоня», а толькі яго элемент. *«Однако формальный подход представляется здесь явно недостаточным*, — сцвярджае С. Рассадзін.

---

**Андрэй ШПУНТ** — беларускі гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989—1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.



Астрына, 1792 г.




Ашмяны, 1792 г.



Барысаў, 1792 г.

*Обратим внимание: неизвестный художник на военно-оборонительных качествах изображаемого объекта внимание зрителя не акцентирует. <...> это скорее символ неподвластности времени.*

*<...> В «herbie» Остприны также выше башни изображена еще одна, по-видимому, тоже главная во всей композиции фигура, а именно «ręka zbrojna w górę z pałaszem wyniesiona». Очевидно, что это — десница с мечем Господним* [15, с. 42—43].

Па-першае, уся архітэктура, змешчаная ў палях тагачасных гербаў, відавочна з’яўлялася ўвасабленнем цвярдыні, што бароніць вернікаў — жыхароў горада (а вернікамі былі ўсе) ад націскаў варожых сілаў, але гэта не дае падставы звязваць архітэктанічныя гербы з гербамі рэлігійнымі; паводле гэтага штучнага прынцыпу ўся разнастайнасць геральдычных фігураў апынулася б у адной групе — «рэлігійнай», бо па сутнасці тлумачэнне амаль любога сімвала мае працяг у рэлігійнай плоскасці, не важна — каталіцкай, праваслаўнай ці ўвогуле паганскай. І, па-другое, тое ж самае можна аднесці і да ўзброенай рукі з шабляй на версе даха як дэталі ўладальніцкага герба.

АШМЯНЫ: «... на адным баку рука, якая трымае шалі, на другім баку — тарча, паміж імі цяля з надпісам пад ім “Memoria Stanislai Augusti 1792 (у памяць Станіслава Аўгуста)».

*«Весы — светский символ <...> атрибут одной из языческих богинь, а именно Фемиды. С другой стороны, в католической эмблематике весы — атрибут Архангела Михаила <...>. Эти же Весы воздаяния ассоциируются и с самим Иисусом Христом. Характерная для эмблем 1792 г. католическая специфика заставляет предполагать, что и «herb» Ошмян также не выпадает из общего контекста»* [15, с. 54—55].

Мы адносім гэты герб да групы алегарычных (з прыкметаю ўладальніцкага), што сімвалізуюць характар горада (прамысловы, культурны, памежны і г.д.), прылады працы, сімвалы і прадукты вытворчасці, ваенныя атрыбуты; атрыбуты навукі і культуры; геаграфічнае становішча горада, узнікненне горада (назва мясцовасці, іншыя асаблівасці і г.д.); іншыя славутасці.

БАРЫСАЎ: «У сярэбраным полі сярэбраная зачыненая брама, над ёю св. Пётр на воблаку».

*«Но ведь это не городские Борисова, а именно райские врата. Об этом красноречиво свидетельствует изображенная над ними сверху фигура Святого Апостола Петра с ключами от этих врат в руке»* [15, с. 43].

Мы адносім гэты герб да групы архітэктанічных (з прыкметаю рэлігійнага), што сімвалізуюць архітэктуру дадзенага горада ці архітэктуру ўвогуле, па сутнасці — сам горад, яго ідэю.

ВОЎПА: «У блакітным полі — бабёр».

Мы адносім гэты герб да групы анімалістычных. Паходжанне анімалістычных гербаў гэтага перыяду незразумелае. Безумоўна, гэтая фігура, як і любы іншы сімвал, мае тлумачэнне. Бабёр, заўсёды заняты стваральнаю працаю, стаў сімвалам працавітасці, а ў хрысціянскай традыцыі — аскетызму. С. Рассадзін не бачыць анімалістычнага характару гэтага герба. *«Очевидно, что расшифровка истинной символики эмблемы <...> требует отказа от попыток примитивного истолкования. <...> бобр в католической традиции служил символом аскетизма <...>. Итак, в эмблеме <...> по-видимому, нашла свое отражение отнюдь не фауна Беларуси, а символика католицизма* [15, с. 49—50].

Тлумачэнне сімволікі бабра зразумелае і не абвяргае анімалістычнага характару герба Воўпы. Выснова С. Рассадзіна не дадае нічога новага, а «неявный религиозный смысл» можна пры жаданні ўбачыць практычна ў любым гербе.

ГАРАДНАЯ: «Лось, які мае залатыя рогі».

Мы адносім гэты герб да групы анімалістычных. Як і ў прыкладзе з гербам Мсціслаўля, С. Рассадзін упарта не звяртае ўвагі на апісанне, ці *blason*, змешчаны ў прывілеі. Згадаем, што дакументальныя крыніцы маюць прыярытэт перад крыніцамі



Радунь, 1792 г.



Мсціслаў, 1632 г.
(рэканструкцыя А.Цітова).



Мсціслаў, 2001 г.

сфрагістычнымі, а тым больш апісанне мае прыярытэт перад выяваю, што мы бачым на прыкладзе Гарадной. Але... цытуем далей.

*«Таким образом, вопреки содержащемуся там же блазонированию, на эмблеме в "дипломе" Городной изображен не лось, а олень. <...> Олень — символ набожности в христианской иконографии»*. Далей ідуць разважанні наконт таго, як павінен выглядаць сапраўдны *Alces alces*, і ў якасці высновы чытаем: *«Возможно, мы имеем дело здесь не с простой ошибкой, а с некой контаминацией»* [15, с. 44].

Напэўна, пісар ці нейкі чыноўнік, які намаляваў лася так, як умеў, вельмі здзівіўся б, даведаўшыся, што зрабіў не «просто ошибку», а нейкую «контаминацию»...

ГЕРАНЁНЫ: «У зялёным полі чырвонае палаючае сэрца, пранізанае мячом».

Мы адносім гэты герб да групы «іншыя гарадскія гербы», паколькі нічога не можам сцвярджаць адносна яго паходжання. А. Цітоў пакінуў яго за межамі класіфікацыі «ў сувязі з незразумеласцю сімволікі» [4, с. 39]. *«Между тем,* — сцвярджае С. Рассадзін, — *пылающее, мечем пронзенное сердце относится к основному фонду католической эмблематики»* [15, с. 42].

Па-першае, у каталіцкай іканаграфіі Найсвяцейшае Сэрца Езуса і Беззаганнае Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі выяўляюцца адпаведна з цярновым вянком і ружовым. Па-другое, паводле прывілея Станіслава Аўгуста ад 25 траўня 1792 г., апісанне герба наступнае: «няўдзячнае сэрца, пранізанае мячом» [2, арк. 64 зв.]. Цяпер зразумела, чаму няма вянка цярновага ці ружовага. Акрэсленне «няўдзячнае сэрца» выразна сведчыць аб тым, што галоўная фігура геранёнскага герба не мае дачынення да «основного фонда католической эмблематики». Аналогію можна правесці з уладальніцкімі гербамі «Кара» («Оброна»): «сэрца, прабітае стралой» [18, s. 131.]; «Прыяцель»: «сэрца, прабітае стралой на місе» [18, s. 133.]; з гербамі «Лянген» («Прыяцель змененны») [19, s. 275] і «Вакоўскі» [19, s. 314].

РАДУНЬ: «У сярэбраным полі чырвоны рак».

Мы адносім гэты герб да групы ўладальніцкіх гарадскіх гербаў, але з умоўнасцю, якая выцякае з таго, што не вызначана яго дакладнае паходжанне. Гэтая акалічнасць дала падставу А. Цітову аднесці герб Радуні да «падгрупы штучных гербаў, якія маюць выявы геральдычных і негеральдычных жывёлаў» [4, с. 31]. У дадзеным выпадку гэта герб «Варня» («Borewa»), ці проста «Rak»: «У сярэбраным полі чырвоны рак у слуп» [20, s. 157]. Аднак С. Рассадзін прапануе наступнае тлумачэнне: *«Белорусский фольклор демонстрирует отрицательное отношение к этому персонажу. <...> Однако королю Станиславу II Августу мнение местного pospolstwa вряд ли было известно. <...> он, похоже, руководствовался совсем другими представлениями. В теологической схоластике католической Европы отношение к раку было совсем иным — сугубо положительным* [15, с. 53—54].

Што ж, відавочна, каралеўскія пажалаванні гарадскіх гербаў грунтаваліся не на «идеологических основаниях белорусского фольклора».

У наступным раздзеле распавядаецца, як трэба рабіць сапраўдную геральдыку, — «Согласно герольдии правилам». *«Случилось так, что явно реакционная тенденция окатоличивания компенсировалась совсем другой, подчеркнуто светской тенденцией развития геральдики городов Беларуси. <...> Разработанные ею* (Расійскай Геральдмейсцерскай Канторай (далей — Кантора; заўв. А.Ш.) *в то время гербы для наших городов представляли собой один из результатов неуклонного поступательного развития в России геральдического искусства»* [15, с. 57].

З захопам нашых земляў Расейскай імперыяй новыя гаспадары, безумоўна, мелі патрэбу ў бачных сведчаннях сваёй улады, і гарадскія гербы прыйшліся тут вельмі дарэчы. Немагчыма згадзіцца з тым, што замест «ад-



Геранёны, 1792 г.



Мазыр, 1577 г. (рэканструкцыя А. Цітова).



Мазыр, 2001 г.

сталых, рэакцыйных, клерыкальных, каталіцкіх» гербаў мы былі ашчасліўленыя прадуктамі «*неуклонного поступательного развития геральдического искусства*». Адзначым найбольш характэрныя рысы расейскай гарадской геральдыкі, шырокае ўвядзенне якой пачалося падчас рэформаў Пятра І. Рэвалюцыйная ломка традыцыйнага расійскага грамадска-палітычнага ладу жыцця мела супярэчлівы характар. Еўрапейскія новаўвядзенні, перанесеныя на іншую глебу, часта выглядалі штучна. Штучнасць прысутнічала і ў геральдыцы. Расійскія гербы для беларускіх гарадоў мелі тыя ж асаблівасці, што і гербы па ўсёй імперыі, якім уласцівыя агульныя рысы: наяўнасць больш чым адной фігуры, натуралістычнасць, прысутнасць перспектывы, падзелы палёў, — гэта значыць процілегласць таму, што адрознівала нашы гарадскія гербы, якія па сваіх знешніх формах у цэлым ствараліся пад уплывам заходнееўрапейскай геральдыкі, але з захаваннем мясцовых традыцый, што выявілася ў адмове ад шэрагу канструктыўных і стылёвых яе асаблівасцяў — шматфігурнасці, шматпалёвасці і г.д. Гарадскі герб у ВКЛ XV–XVIII стст. — гэта, як правіла, адно поле, адна фігура, адна-дзве эмалі, адзін метал. Дзяржаўны стыль расійскай герольдыі быў далёкі ад канонаў геральдычнага мастацтва [21, s. 245].

Мэтанакіраванае скасаванне беларускіх гарадскіх гербаў з'яўлялася часткаю расійскай палітыкі, у якой гербы сталі адным са шматлікіх элементаў — з іх будавалася сістэма распрацаваных урадам захадаў па ўзмацненні ўласных пазіцый [17, с. 223]. Расійскі геральдыст Н.Ф. Дзямідава на прыкладзе гарадскіх гербаў і пячатак Башкірыі XVII–XVIII стст. сцвярджае, што расійскія гарадскія гербы часта мелі палітычную нагрузку, паколькі іх стваральнікі недвухсэнсоўна ставілі перад сабой мэту праслаўлення самадзяржаўя і зацвярджэння яго ўлады.

Гербы ператтвараліся ў своеасаблівыя сімвалы каланіяльнай палітыкі імперыі [13]. Сцвярджэнне аб замене ўсіх беларускіх гарадскіх гербаў датычыць і тых нешматлікіх, дзе захаваліся старыя эмблемы, паколькі нават усяго толькі новая мастацкая рэдакцыя [5, с. 98] арганічна ўпісала «новыя» старыя гербы ў шэраг расійскіх. Цалкам страцілі свае гербы Менск, Магілёў, Віцебск, Гарадок, Слуцк, Полацк, Сураж, Чэрыкаў, Чавусы, Слонім, Орша, Брэст, Кобрын, Пружаны, Ліда, Дзісна, Гродна, Ашмяны, Ваўкавыск, Гомель, Мсціслаў.

Рэлігійныя гербы, створаныя ў традыцыях каталіцкай іканаграфіі, дзе ўжываліся некананічныя з пункту гледжання праваслаўя сюжэты, як, напрыклад, у гербе Кобрына (св. Ганна і Найсвяцейшая Панна Марыя з Дзіцем) прынялі на сябе наймацнейшы ўдар. Ацалеў толькі наваградскі герб, ды і тое фігура арханёла Міхала перамясцілася ў другое, менш ганаровае поле [6, с. 69–70].

Можна наракаць на незнаёмства пісараў, чыноўнікаў вялікакняскай (ці каралеўскай) канцылярыі з мастацтвам геральдыкі, але не пісары і чыноўнікі стваралі тыя гербы, яны ўсяго толькі спрабавалі больш-менш дакладна перавесці ў матэрыяльную плоскасць іх апісанне (blason).

Шматлікія гарады і мястэчкі на працягу сваёй гісторыі ў нас і ў іншых краінах маглі мець не адзін герб, таму часам паўставала пытанне, які ўсё ж абраць — ці самы старажытны, ці той, што выкарыстоўваўся найбольш працяглы час, ці, нарэшце, спыніцца на апошнім? Для тых, хто ведае гісторыю нашай Бацькаўшчыны не па бээсэсэраўскіх дапаможніках, адказ відавочны. Для аднаўлення герба дастаткова толькі апісання, і вось тут справа геральдыста, як свайго роду рэстаўратара, зрабіць так, каб ён адпавядаў патрабаванням геральдыкі як мастацтва і навукі. Зноў жа, у еўрапейскай геральдыцы ёсць шмат прыкладаў, калі старажытныя (і не вельмі) гербы карэктаваліся стылістычна, удасканальваліся ў сувязі з патрабаваннямі часу — і гэта ўсё, што можна дазволіць, што



Гарадная, 1792 г.



Ваўкавыск, XVI ст. (рэканструкцыя А.Цітова).



Ваўкавыск, 2001 г.

не павінна змяняць сутнасць самога герба.

С. Рассадзін слушна гаворыць пра недапушчальнасць *«неприязненного избирательного отношения»* [15, с. 94] да гарадскіх гербаў «галантного века» і пра тое, што *«памятники исторической геральдики находятся выше приходящих симпатий и антипатий»* [15, с. 94]. Так, але відавочна, што размова ідзе не пра гэта — не можа герб, дадзены чужынскаю ўладаю, замяніць айчынны. Гэты чужынскі герб, пры пэўных умовах, можа існаваць толькі тады, калі быў дадзены ўпершыню (такія прыклады ёсць у Польшчы), і гэта таксама будзе актам гістарычнай справядлівасці, які не павінен здзяйсняцца за кошт знішчэння нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны. Але што мы бачым? Аўтар манаграфіі, у свой час працуючы ў Дзяржаўным камітэце па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь, па службовых абавязках меў дачыненне і да нашай геральдычнай спадчыны. Гартаючы старонкі кнігі, мы праходзім праз «галерэю дасягненняў», здзейсненых падчас яго кіраўніцтва ў адносінах да наступных гербаў часоў ВКЛ:

Барысаў. Герб 1792 г., нададзены Станіславам Аўгустам. «У сярэбраным полі сярэбраная адчыненая брама, над ёю св. Пётр на воблаку»; з 2000 г. існуе ў рэдакцыі расейскай герольдыі — з зачыненаю брамаю [12, с.173–174].

Гомель. Замест герба 1560 г., нададзенага Жыгімонтам Аўгустам паводле апісання з прывілея «з гербом крыжа» [3], які, па словах С. Рассадзіна, «был гомельчанами, наверное, уже основательно забыт» [16, с. 115], горад у 1997 г. зноў атрымаў герб, нададзены расейцамі ў 1856 г. — «В голубом поле <...> золотая лежащая рысь» [12, с.102–103].

Мсціслаў. Замест герба 1632 г., нададзенага Уладзіславам IV Вазам, «меч са шчытом наверсе» [22, s. 406]; горад у 2001 г. атрымаў герб, сканструяваны С. Рассадзіным, — «В серебряном поле <...> из голубого облака выходит длань Господня, вооруженная стальным мечом с золотой рукоятью, под ней герб Мстиславского княжества — красный волк, повернутый вправо» [12, с.230—231].

Мазыр. Герб 1577 г., нададзены Стэфанам Баторыем, — «У блакітным полі чорны арол з шыльдай з літарай «S» [5, с. 72]. З 2001 г. існуе ў рэдакцыі расейскай герольдыі — без шыльды з каралеўскай манаграмай і ў іншай стылістыцы [12, 120—121].

Ваўкавыск. Замест герба, які існаваў, магчыма, з 1503 г. паводле прывілея вялікага князя Аляксандра, «ваўчыная галава» [1], горад у 2001 г. атрымаў герб, створаны на аснове атрыманага ад расейцаў у 1845 г., — «В голубом поле серебряный волк» [12, с.146—147]. (Больш падрабязныя звесткі змешчаны ў нашых публікацыях [7; 9; 10; 11]).

На заканчэнне лічым неабходным зрабіць яшчэ некаторыя заўвагі.

Аўтар не шкадуе дыфірамбаў у адрас Кацярыны II і дэманструе нядбайнасць пры кожнай нагодзе, калі гаворка ідзе пра Касцёл, Рэч Паспалітую, наш народ і нашы гербы, што выяўляецца ў іранічным пераходзе на польскую мову: Matka Boska, herb, «herby», местное pospolstwo і г. д.

Адносна шэрагу гербаў перыяду ВКЛ, што датычыць абгрунтавання выяваў ці каляровых (і канструкцыйных) характарыстык, у нас ёсць толькі гіпатэтычныя дапушчэнні, што тлумачыцца недасканаласцю апісанняў. Але С. Рассадзін «зняў» усе пытанні, аб чым красамоўна сведчаць, напрыклад, сцвярджэнні кшталту: *«символика рисунка в привилее Геранёнам целиком понятна»* [15, с. 42], *это явно не просто обозначение некоего объекта оборонительного зодчества <...>. Очевидно, что это — десница с мечем Господним.* (Астрына) [15, с. 42—43]. *Итак, это, de facto не лось, а золоторогий олень»* (Гарадная) [15, с. 44].

Нарэшце, наступныя пасажы, якія пасуюць хутчэй да бээсэсэраўскіх дапаможнікаў, чым



Воўпа, 1792 г.



Гомель, 1560 г.
(рэканструкцыя А. Цітова).



Гомель, 1856 г.

да кнігі, выдадзенай сучасным дзяржаўным выдавецтвам, пасажы, якія сведчаць аб дрэнным веданні аўтарам манаграфіі айчыннай гісторыі, і якія, на наш погляд, зневажаюць рэлігійныя пачуцці беларускага народа, які жыве ў краіне, дзе канфесійная «лінія падзелу» фактычна праходзіць па саміх сем'ях: *«бобр в католической традиции служил символом аскетизма, который практиковался, однако, далеко не всеми монахами»* [15, с. 49—50]. *«Вся эта нововведенная клерикальная символика была именно католической. <...>». «Herby» от Станислава II Августа за 1792 г. также представляют собой красноречивое свидетельство того, что этот курс окатоличивания упорно проводился в жизнь вплоть до самого конца существования Речи Посполитой»* [15, с. 56]. *«Явно реакционная тенденция окатоличивания»* [15, с. 57]. *«Появление же в 1781 — 1796 гг. <...> целой серии екатерининских гербов <...> сделалось в геральдике городов Беларуси неким противовесом клерикально-католическому началу, которое внесли в нее станиславовские «herby» 1792 г. Уже сама объективность требует признать, что подчеркнуто натуралистический характер этих разработанных Герольдмейстерской конторой гербов, возможно, лучше соответствовал ментальности тогдашнего населения Беларуси, где в целом преобладали во всяком случае не католики»* [15, с. 75].

Дарэчы, танальнасць высноваў С. Рассадзіна нічым не адрозніваецца ад той, якою прасякнута савецкая кніга Я. Мараша «Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века» (Мінск, 1974) [14].

Пажадаем аўтару манаграфіі пацікавіцца, колькі ў тым «галантном веке» прадстаўнікоў Касцёла — нашых суайчыннікаў (і не толькі) працавала на ніве навукі, культуры і мастацтва — усяго таго, што складае гонар і аздобу нашага Краю.

1. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Фонд. 1710. Ваўкавыскі гродскі суд. — Воп. 1. — Спр. 32. Акт экстракта подтвердительного привилея короля Александра волковысским мещанам на магдебургское право. 1790 г. — Л. 401—403 зв.
2. Расійскі Дзяржаўны архіў старажытных актаў (РДАСА). Фонд. 389. — Воп. 1. — Спр. 556. Подтвердительные грамоты и привилегии городам и местечкам. 1791–1792 гг.
3. Спірыдонаў, М. Гербы гарадоў феадальнай Беларусі / М.Спірыдонаў // Маладосць. — Мінск. — 1990. — № 12. — С. 156–163.
4. Цітоў, А.К. Гарадская геральдыка Беларусі / А.К.Цітоў. — Мінск: Полымя, 1989. — 207 с.
5. Цітоў, А.К. Геральдыка беларускіх местаў / А.К.Цітоў. — Мінск: Полымя, 1998. — 287 с.
6. Шпунт, А.А. Рэлігійныя гарадскія гербы Беларусі / А.А.Шпунт // Наша вера. — 2002. — № 2. — С. 68–71.
7. Шпунт, А.А. Гарадскія гербы Беларусі з прыкметамі гербаў рэлігійнай групы / А.А.Шпунт // Наша вера. — 2002. — № 3. — С. 74–77.
8. Шпунт, А.А. Класіфікацыя гарадской геральдыкі Беларусі / А.А.Шпунт // Вес. Нац. акад. навук Беларусі. Сер. гуманітар. навук. — 2004. — № 1. — С. 47–55.
9. Шпунт, А.А. «Клерыкальныя» беларускія гарадскія гербы ад Станіслава Аўгуста Панятоўскага / А.А.Шпунт // Герольд Litherland. — 2004. — № 3-4. — С. 72–76.
10. Шпунт, А.А. Рассадзін С.Я., Міхальчанка А.М. Гербы і сцягі гарадоў і раёнаў Беларусі / А.А.Шпунт // Герольд Litherland. — 2004. — № 3-4. — С. 123—135. — Рэц. на кн.: Рассадзін, С.Я. Гербы і сцягі гарадоў і раёнаў Беларусі / С.Я.Рассадзін, А.М Міхальчанка. — Минск: Беларусь, 2005. — 128 с.
11. Шпунт, А.А. Гарадская геральдыка Магілёўшчыны XVI-XVIII стст./ А.А.Шпунт // Шляхі Магілёўскай гісторыі: Зборнік навуковых прац удзельнікаў IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі, Магілёў, 23–24 чэрвеня 2005 г. / МДУ імя А.А.Куляшова; уклад. І.А.Пушкін, В.В.Юдзін — Магілёў, 2005. — С. 74–79.
12. Адамушко, В.И. Гербы и флаги Беларуси / В.И.Адамушко, М.М.Елинская. — Минск: Беларусь, 2006. — 256 с.
13. Демидова, Н.Ф. Отражение политики русского правительства в Башкирии в гербах и печатях её городов XVII — XVIII вв. / Н.Ф. Демидова // Южно-Уральский археографический сборник. — Уфа, 1973. — Вып. 1. — С. 112–121.
14. Мараш, Я.Н. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века / Я.Н.Мараш. — Мінск: Вышэйшая школа, 1974. — 288 с.
15. Рассадин С.Е. Галантный век в гербах городов Беларуси: историко-геральдическое исследование / С.Е.Рассадин. — Минск: Беларуская навука, 2013. — 102 с.
16. Рассадин, С. «Галантный век» городской геральдики Беларуси / С.Рассадзін // Архівы і справаводства. — 2001. — № 4. — С. 108–117.
17. Соболева, Н.А. Российская городская и областная геральдика XVIII—XIX вв. / Н.А.Соболева. — Москва: Наука, 1981. — 263 с.
18. Cetwiński, M. Herby, legendy, dawne mity / M.Cetwiński, M.Derwich. — Wrocław: Krajowa agencja wydawnicza, 1987. — 319 s.
19. Gajl, T. Polskie rody szlacheckie i ich herby. / T.Gajl. — Białystok: Dom wydawniczy Benkowski, 2003 — 233 s.
20. Górzyński, S. Herby szlachty polskiej / S.Górzyński, J.Kochanowski. — Warszawa: Uniwersytet Warszawski, Alfa, 1994. — 176 s.
21. Kuczyński, S.K. Polskie herby ziemskie: Geneza, treści, funkcje / S.K.Kuczyński. — Warszawa: Wydawnictwo naukowe PWN, 1993. —334 s.
22. Rimša, E. Lietuvos didžiosios kunigaikštystes miestu antspaudai / E.Rimša. — Vilnius: Žara, 1999. — 765 s.

Валерый Калясінскі нарадзіўся ў 1960 годзе ў Мінску.
У 1991–1997 гг. вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на кафедры скульптуры.
У 1998–2001 г. стажыраваўся ў Творчых акадэмічных майстэрнях Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.
У 2000 г. уступіў у Беларускі саюз мастакоў.
У 2002–2006 гг. вучыўся ў аспірантуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.


Скульптар В. Калясінскі ў Багданаве. 2012 г.

# АДНАВІЦЬ І ЎВЕКАПОМНІЦЬ, АБО СКУЛЬПТУРНАЕ КРЭДА ВАЛЕРЫЯ КАЛЯСІНСКАГА

На беларускай зямлі створана шмат розных скульптурных помнікаў, мемарыяльных знакаў. Але ці ведаем мы сёння па-сапраўднаму сваю гісторыю? У наш час усё новыя факты слаўнай мінуўшчыны раптоўна ўсплываюць на паверхню, усё новыя імёны дастойных асобаў з'яўляюцца з небыцця. Каб яны ізноў не забыліся, патрэбна іх сучасная мемарыялізацыя.

Асаблівая і вельмі важная тэма ў сучаснай скульптуры — хрысціянскія вобразы змагароў за веру, яе герояў і пакутнікаў. І не толькі з часоў ранняга хрысціянства, але і з мінулага стагоддзя з яго ганебнымі праявамі бязбожніцтва, амаральнасці і ўсёдазволенасці.

На такім праблемным фоне недастаткова распрацаваных і здзейсненых задач творчасць мінскага скульптара Валерыя Калясінскага падаецца вельмі цікавую і паслядоўнаю. Ён імкнецца, каб яго прафесійная дзейнасць запаўняла «белыя плямы» ў нашай нацыянальнай памяці, выхоўвала адукаваных, духоўна-прасвятлёных асобаў.

Яшчэ ў 1994 годзе, калі Валерый Калясінскі вучыўся на кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, упершыню ў жанры гістарычнага партрэта ў беларускай пластыцы ён стварыў бюст і медальён, прысвечаныя каралю Стэфану Баторыю, якія цяпер знаходзяцца ў Гродне, дзе ўладар Рэчы Паспалітай жыў у рэнесанснай рэзідэнцыі да канца сваіх дзён. Бронзавы бюст быў устаноўлены ў правай наве гродзенскага фарнага касцёла Францішка Ксавэрыя. Пад бюстам быў таксама размешчаны памятны медальён з адпаведнымі подпісамі. Гэты першы сакральны твор маладога скульптара адразу арганічна ўпісаўся ў інтэр'ер святыні, дзе захавалася вельмі шмат узораў барочнай скульптуры.

Мінула 20 гадоў, і ў сувязі з рознымі перастаноўкамі (падчас рэстаўрацыі алтарных кампазіцый) бюст быў перанесены ў левую наву касцёла — у вялікую нішу, але чамусьці без медальёна. Натуральна, што варта было б аднавіць цэльную кампазіцыю, якою яна была першапачаткова, бо гэта ўжо самакаштоўная гістарычная з'ява, якую нельга «карэктаваць» адвольна.

Захоплены вобразам вялікай духоўнай асобы, скульптар стварыў мадэль коннага помніка Стэфана Баторыя, які планаваўся для адной з новых гродзенскіх плошчаў у гонар караля. Але гэты праект, мабыць, яшчэ справа будучыні, а пакуль бронзавая мадэль знаходзіцца ў зборах Гродзенскага абласнога гісторыка-археалагічнага музея.

Пасля гэтага важнага каралеўскага вобраза малады скульптар актыўна звярнуўся да мемарыялізацыі іншых гістарычных асобаў, якія звязаны з гісторыяй хрысціянства на Беларусі. Ён




Мемарыяльная шыльда благаслаўлёных Ахілеса і Германа каля пяршайскага касцёла. 2011 г.

не адмаўляўся ад любой працы, якая можа ўзбагаціць патрэбную мемарыяльную інфармацыю.

У 1999 годзе В.Калясінскі ўпершыню ў айчынным мастацтве стварыў вялікі бронзавы бюст і мемарыяльную шыльду ў памяць ксяндза пробашча Антонія Курыловіча (1876–1954) у гродзенскім касцёле кляштара бэрнандынаў, дзе святар доўгі час займаўся вялікаю душпастырскаю дзейнасцю. Дзякуючы яго тытанічным намаганням хрысціянскія і культурна-асветніцкія традыцыі на Гродзеншчыне не былі парушаныя, нягледзячы на страшэнныя наступствы войнаў, палітычных і ідэалагічных падзелаў і забаронаў. Скульптар адлюстраваў святара як вельмі дасціпнага, шчырага, прынцыповага і моцнага духам чалавека. Менавіта такім асобам і наканавана ў самыя адказныя і складаныя перыяды гісторыі зберагаць і благаслаўляць сапраўдныя каштоўнасці, без якіх у грамадства няма будучыні.

З Гродна ў 1920-я гг. была звязана таксама духоўная дзейнасць святога пакутніка Максімільяна Кольбэ. Але толькі ў 2005 годзе ў гродзенскім касцёле францішканскага кляштара скульптару было даручана стварыць мемарыяльны знак з дзвюма каронамі ў гонар святара-асветніка і ахвярнага хрысціяніна, які аддаў сваё жыццё за іншага чалавека. Белая карона з лілеямі — сімвал чысціні, і чырвоная, з шыпамі-цернямі — сімвал пакутніцтва за веру. У аўтара гэтай выразнай кампазіцыі са светлага сілуміну і чырвонай бронзы ўжо быў вопыт працы з гэтай тэматыкай — у 1997 годзе ён выканаў у поўны рост скульптуру Максімільяна Кольбэ для польскай каталіцкай місіі ў Люрдзе (Францыя). Магчыма, калі-небудзь падобная скульптура з’явіцца і ў тых месцах Гродна, якія яшчэ памятаюць прысутнасць святога Максімільяна.

Валерый Калясінскі не абмінуў творчай увагаю і Валожынскі раён Міншчыны, які перажыў цяжкую ваенную гісторыю барацьбы і супрацьстаяння падчас Другой сусветнай вайны ў 1939–1945 гады. Сярод тагачасных герояў і пакутнікаў былі і ксяндзы, якія ахвяравалі сваё жыццё дзеля міласэрнасці і сапраўлнай любові да людзей.

У пяршайскім касцёле святога Юрыя ў 2011 г. майстрам была ўсталявана мемарыяльная шыльда, прысвечаная памяці пробашча Рогера Свідэрскага, які аднавіў гэтую святыню ў 1990-я гады.

У той самы час скульптар стварае для пяршайскага касцёла ўнікальную кампазіцыю — рэліквіярый благаслаўлёных айцоў пакутнікаў Ахілеса і Германа, якія загінулі ад рук фашысцкіх карнікаў у 1943 г. за сувязі з




Рэлiквiярый благаслаўлёных Ахілеса і Германа. 2011 г.

партызанамі Валожыншчыны. На рэліквіярыі адлюстраваныя паўфігуры пакутнікаў, якія падтрымліваюць крыж збаўлення, што сам Бог Айцец спаслаў ім з неба на аблачынцы. У пакутнікаў засяроджаныя і непахісныя абліччы. Яны духоўна падрыхтаваныя да любога выпрабавання і ахвяры ў імя хрысціянскіх ідэалаў. Знізу кампазіцыю дапаўняюць сімвалічныя пальмовыя галінкі — атрыбуты пакутнікаў і несмяротнасці, і надпіс на лацінскай мове — *«Pax et bonum»* (*«Мір і дабро»*). Рэліквіярый, якому ў сучаснай скульптуры няма аналагаў, настолькі ўразіў святароў і вернікаў, што скульптара папрасілі выканаць яшчэ некалькі аўтарскіх варыянтаў гэтай кампазіцыі — цяпер яны знаходзяцца ў касцёлах Лодзі і Граёва ў Польшчы.

Апрача таго, на прылягаючай да касцёла тэрыторыі Валерый Калясінскі усталяваў на вялікім гранітным пастаменце мемары-




Бюст і мемарыяльная шыльда ксяндзу пробашчу Антонію Курыловічу ў гродзенскім бэрнардынскім касцёле. 1999 г.

яльную шыльду з партрэтнымі выявамі благаслаўлёных Ахілеса і Германа. Падобная кампазіцыя была створана скульптарам і на месцы іх пакутніцкай смерці ў вёсцы Баравікоўшчына. Нарэшце пасля доўгага забыцця і нікчэмнага замоўчвання мясцовыя людзі і пілігрымы маюць магчымасць і месца, дзе можна памаліцца і пакласці кветкі ў памяць благаслаўлёных святароў у іх санктуарыі.

Вельмі шмат працуе скульптар над вобразам незабыўнага кардынала Казіміра Свёнтка (1914–2011). Валерый Калясінскі шчыра захоплены яго непахіснаю воляю і моцаю духу, якія дапамаглі святару пераадолець усе выпрабаванні лёсу, які правёў яго праз сталінскі ГУЛАГ і рэпрэсіі. Скульптара прыцягвае вялікая духоўнасць кардынала Казіміра Свёнтка, які быў душою хрысціянскага адраджэння на Беларусі ў 1950-я — 1990-я гг. Ён добра ведаў гэтага выключнага пастыра, удзельнічаў у набажэнствах, якія праводзіў кардынал у Мінску. Так неўзабаве ўзнікла ідэя стварыць скульптурны вобраз сучаснага павадыра людзей, якія мкнуцца да духоўнага ачышчэння. Ужо ў 1996 годзе з'явіўся скульптурны праект, які паступова ўдасканальваецца і чакае сваёй рэалізацыі для пінскіх, пружанскіх або мінскіх святыняў.

Вялікім духоўным аўтарытэтам для скульптара з'яўляецца таксама славуты мастак-адраджэнец культуры беларускага, польскага і літоўскага народаў Фердынанд Рушчыц (1870–1936). В. Калясінскі неаднойчы быў на месцы яго радавой сядзібы побач з вёскаю Багданава ў Валожынскім раёне, дзе засталіся руіны дома, у якім была майстэрня мастака, а на месцы старога саду — былыя калгасныя свінарнікі. Так руйнавалася і знявечвалася пасля вайны памяць пра вялікага творцу на яго радзіме ажно да пачатку 1990-х гадоў. Потым прыйшло разуменне прыналежнасці яго таленту да нашай айчыннай культуры, але ніяк не знойдуцца сродкі на мемарыяльнае аднаўленне памятнага месца, дзе мастак стварыў усе свае шэдэўры і жыў да канца сваіх дзён. В. Калясінскі вырашыў зрабіць мемарыяльны знак у выглядзе капліцы на тым месцы, дзе была сядзіба і творчая майстэрня мастака, але гэта патрабуе грунтоўнага ўпарадкавання ўсёй прылеглай тэрыторыі, клопатнага ўзгаднення ў самых розных інстанцыях. Таму скульптар пачаў з больш рэальных для асабістага выканання скульптурных частак агульнай задумы. У аднаўленым багданаўскім касцёле святога Міхала, пабудаванага на падмурках знішчанай падчас вайны старой святыні, ён стварыў мемарыяльную шыльду




Бюст і медальён Стэфана Баторыя ў гродзенскім фарным касцёле. 1994 г.

ў памяць хросту Ф. Рушчыца ў гэтым храме.

На двары касцёла плануецца стварыць унікальны памятны знак з рэльефнай шыльдай і ўсталяваць яго на тым месцы, з якога мастак у 1899 г. намаляваў свой выдатны сімвалічны пейзаж «Каля касцёла» (знаходзіцца ў экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь). Дзякуючы матэрыяльнай падтрымцы нашчадкаў Рушчыца ў Варшаве шыльда ўжо выканана ў матэрыяле, і неўзабаве адбудзецца адкрыццё гэтага памятнага знаку.

В. Калясінскі стварае свае скульптуры, рэльефныя памятныя знакі не толькі ў метале. Ён часта наладжвае пленэры скульптуры ў камні ў Івянцы, Ашмянах, Светлагорску. У 2011 годзе скульптар выканаў сімвалічную кампазіцыю «Вечны адпачынак дай ім, Пане...» на даваенных могілках у вёсцы Вялікія Эйсманты, што на Гро-



Праект статуі Казіміра Свёнтка. 1996 г.

дзеншчыне. Анёл, высечаны з граніту, сцеражэ духоўны спакой на могілках, каб памяць пра людзей хрысціянскай веры ніколі не згасала, каб могілкі з часам станавіліся гістарычнай нацыянальнай каштоўнасцю, мемарыялам памяці для духоўна выхаваных нашчадкаў, сведчаннем паважлівых адносінаў да нашых землякоў, родных і блізкіх. «Анёл» В. Калясінскага як бы заклікае да такіх адносінаў у нашым грамадстве, каб не заставалася болей, як было ў недалёкім бязбожным мінулым, пакінутых і занядбаных месцаў вечнага спачынку.

Немагчыма не адзначыць і вялікі ўклад В. Калясінскага ў развіццё сучаснага медальерства. Ён паслядоўна і мэтанакіравана распрацоўвае юбілейныя манетападобныя жэтоны і медалі, прысвечаныя самым розным значным падзеям. Не толькі помнікі маюць магчымасць прыгадваць сучаснікам пра слаўнае былое, але і маленькія манеты і медалі, у якіх ёсць большыя шанцы захавацца ў розных калекцыях на працягу стагоддзяў і сведчыць перад будучыняй пра нашу жывую гістарычную памяць. Скульптарам ужо створана цэлая серыя такіх ювелірных кампазіцый, прысвечаных хрысціянству на Беларусі: манетападобны жэтон да 350-годдзя абраза Маці Божай Кангрэгацкай у Гродне, медаль у гонар Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, нацельныя абразкі з выявамі Маці Божай Будслаўскай і Маці Божай Жыровіцкай. Яны служаць справе духоўнага прасвятлення, а таксама неаднойчы ўжо экспанаваліся на выставах, іх з вялікім задавальненнем набываюць у свае калекцыі нумізматы Беларусі, Расіі, Польшчы і іншых краінаў.

Скульптар не абмяжоўваецца супрацоўніцтвам толькі з католікамі. Ён з задавальненнем адгукаецца і на праекты праваслаўнай канфесіі, бо з'яўляецца шчырым прыхільнікам еднасці ўсіх хрысціянаў. Пры ўездзе ў Пяршаі ім была створана ў 2001 годзе кампазіцыя з выяваю Маці Божай, паабапал якой усталяваныя высокія праваслаўны і каталіцкі крыжы. Кампазіцыя была асвечана святарамі гэтых канфесій. Яна нясе ў сабе добрую ідэю, пачэрпнутую з Евангелля, — «каб усе былі адно» (Ян 17, 22). В. Калясінскі выдатна разумее, што абраны ім творчы шлях не ўсланы ружамі. Яму



Праект статуі Максімільяна Кольбэ. 1987 г.

даводзіцца шмат падарожнічаць, актыўна працаваць, каб годна ўзняць гістарычную і хрысціянскую тэматыку. Але ў гэтым і ёсць сапраўднае прызначэнне скульптара-наватара: служыць сваім талентам вялікай справе вяртання гістарычнай памяці. Ужо сёння яго шматгранная творчасць выклікае вялікае захапленне і прызнанне ў грамадстве. Няхай і надалей спрыяюць шчыраму майстру Божая ласка і дух стваральніцтва.

*Яўген Шунейка*

---

**Яўген ШУНЕЙКА** — кандыдат мастацтвазнаўца, дацэнт, прафесар кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай акадэміі мастацтваў. Закончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1978). Аўтар шматлікіх публікацый па гісторыі і сучаснасці сусветнага і беларускага мастацтва. Член Саюза беларускіх мастакоў.

# CONTENTS

The new issue of the quarterly magazine «Our Faith» is remarkable by related publications devoted to the Dominican Order and a figure of St. Dominic. There are «A Short Essay About the Early Days of the Dominican Order» (Y. Shedzko), article «On the Ways of St. Dominic» (V. Buival) and «Order of Preachers on the Belarusian Land» (R. Zianiuk). A. Zhlutka in his article «Blessed Vit — the First Bishop of the Lithuania-Belarus: Through the Thorns to Holiness» writes about the mysterious figure of one of the brightest representatives of this order. M. Milavitski OP in his article «For the Sake of Preservation of Historic Heritage» also tells about the activities of the Dominicans in Belarus. Y. Shedzko offers to the readers an interview «To Come to Meet...» with a Dominican father Bruno Cadoré – the Master of the Order of Preachers (p. 2-33).

In the column "Poetry" you will find the poems by V. Zuyonak and G. O. Cott (translated from German by J. Semjonowa-Herzog) (p. 34-37).

Literary critic T. Nuzhdzina (Mazyr) devoted her article "Nil Gilewicz and His Lyrical Hero on the Path to Divinity" to the works of the famous national poet of Belarus (p. 38-43).

"Christianization of Belarus: Versions, Hypothesis, Evidences in the Monuments of the Ancient Belarusian Literature" is a joint study of the experts of antiquity U. Karotki and Zh. Nekrashevich-Karotkaya. (p. 44-49).

M. Skobla in the essay "From the Rib of the Belarusian Willow" writes about the book "Powerful Spell of Spirit: Larysa Hienijusz in memoirs, letters, archival materials" (2015) (p. 50-53).

In memory of the famous French aviator and writer, a Catholic Antoine de Saint-Exupéry we place article by L. Kaminskaya "To Live is to Gradually Born..." (p. 54-59).

S. Hareuski in his article "Book - Stained-Glass Window" writes about the new book by Doctor of Arts T. Gabrus "Sacral Architecture of Belarus: 1000-year-old Heritage" (2014) (p. 60-61).

Historian A. Shpunt in the article "«Gallant century»..." analyzes the book by S. Rassadzin of urban heraldry (p. 62-67).

Art historian Y. Shuneyka in the essay "To Restore and Immortalize..." tells the story about the creative work of modern Belarusian sculptor V. Kaliasinski, who is active in the sacred sculptures (p. 68-71).

# RESÜMEE

Die neue Nummer der Vierteljahreszeitschrift „Unser Glaube" zeichnet sich durch eine Reihe von Publikationen aus, die dem Dominikanerorden und dem heiligen Dominikus gewidmet sind. Es handelt sich um: „Ein kurzer Abriss über die Anfänge der Existenz des Dominikanerordens" (von J. Schedsjko), den Artikel „Auf den Wegen des heiligen Dominikus" (von W. Bujwal) und „Der Orden der Prediger in Belarus" (von P. Sjanjuk). A. Shlutka schreibt in dem Artikel „Der selige Veit – der erste Bischof von Litauen-Belarus: durch das Rauhe zur Heiligkeit" über die geheimnisvolle Gestalt eines der markanten Vertreter dieses Ordens. M. Milawizki OP berichtet in dem Artikel „Um Erhaltung des historischen Erbes willen" auch über die Tätigkeit der Dominikaner in Belarus. J. Schedsjko präsentiert den Leserinnen und Lesern das Interview „Kommt entgegen ..." mit dem Dominikaner Pater Bruno Cadoré – dem Generalmagister des Ordens der Prediger (S. 2-33).

Die Rubrik „Poesie" enthält die Gedichte von W. Sujonak und G. O. Cott (aus dem Deutschen übersetzt von J. Semjonowa-Herzog) (S. 34-37).

Die Literaturwissenschaftlerin T. Nushdsina (Mosyr) hat ihren Artikel „Nil Gilewitsch und sein lyrischer Held auf dem Weg zum Göttlichen" dem Schaffen des bekannten belarussischen Volkspoeten gewidmet (S. 38-43).

„Die Christianisierung von Belarus: Versionen, Hypothesen, Zeugnisse in Denkmälern alter belarussischer Literatur" heißt die gemeinsame Studie von U. Karotki und S. Nekraschewitsch-Karotkaja, den Kennern des Altertums (S. 44-49).

M. Skobla schreibt im Essay „Aus der Rippe der belarussischen Weide" über das Buch „Des Geistes mächtiger Zauber: Larissa Genijusch in Erinnerungen, Briefen, Archivmaterialien" (2015) (S. 50-53).

Dem Andenken an den berühmten französischen Piloten, Schriftsteller und Katholiken A. de Saint-Exupéry ist der Artikel „Leben heißt allmählich geboren zu werden" von L. Kaminskaja gewidmet (S. 54-59).

S. Chareuski stellt im Artikel Buch-Glasmalerei das neue Buch der Doktorin der Kunstwissenschaft T. Gabrusj "Sakrale Baukunst in Belarus: 1000-jähriges Erbe" (2014) vor (S. 60-61).

Der Historiker A. Spunt analysiert im Artikel „«Galantes Jahrhundert»..." das Buch von S. Rassadsin über die Heraldik (S. 62-67).

Der Kunstwissenschaftler J. Schunejka erzählt im Essay „Erneuern und verewigen ..." über das Schaffen eines der modernen belarussischen Bildhauer, W. Kaljasinski, der in der sakralen Kunst aktiv arbeitet (S. 68-71).

# PODSUMOWANIE

Nowy numer kwartalnika „Nasza wiara" charakteryzuje się publikacjami poświęconymi zakonowi dominikanów i postaci św. Dominika: „Krótki zarys o początkach istnienia zakonu dominikanów" (J. Szedźko), artykuł „Szlakami świętego Dominika" (W. Bujwał) i „Zakon Kaznodziejski na ziemiach Białorusi" (R. Zianiuk). A. Żłutko w artykule „Błogosławiony Wit – pierwszy biskup Litwy-Białorusi: przez ciernie do świętości" pisze o zagadkowej postaci jednego z najwybitniejszych przedstawicieli tego zakonu. M. Miławicki OP w artykule „Dla zachowania historycznego dziedzictwa" również opowiada o działalności dominikanów na Białorusi. J. Szedźko proponuje czytelnikom wywiad „Wychodzić naprzeciw..." przeprowadzony z ojcem dominikaninem Bruno Cadoré – generałem Zakonu Kaznodziejskiego (s. 2-33).

W rubryce „Poezja" zamieszczone zostały wiersze W. Zujonka i G. O. Kotta (przekład z j. niemieckiego A. Siamionowej Herzog) (s. 34-37).

Literaturoznawca T. Nużdzina (Mazyr) poświęciła swój artykuł „Nil Gilewicz i jego liryczny bohater na drodze do Boskości" twórczości znanego narodowego poety Białorusi (s. 38-43).

„Chrystianizacja Białorusi: wersje, hipotezy, dowody w zabytkach starożytnej literatury białoruskiej" – tak nazywają się wspólne badania znawców starożytności U. Karotkaga i Ż. NiekraszewiczKarotkaj (s. 44-49).

M. Skobła w eseju „Z «żebra» białoruskiej wierzby" pisze o książce: „Ducha potężne czary: Łarysa Geniusz we wspomnieniach, listach, materiałach archiwalnych" (2015) (s. 50-53).

Pamięci znamienitego francuskiego pilota i pisarza, katolika Antoine'a de SaintExupéry'ego poświęcony został artykuł Ł. Kamińskiej „Żyć – to stopniowo się rodzić..." (s. 54-59).

S. Chareuski w artykule „Książkawitraż" pisze o nowej książce doktora historii sztuki T. Gabruś „Sakralna architektura Białorusi: 1000letnie dziedzictwo" (2014) (s. 60-61).

Historyk A. Szpunt w artykule „«Szarmancki wiek» ..." analizuje książkę S. Rassadzina o miejskiej heraldyce (s. 62-67).

Znawca sztuki J. Szunejka w eseju „Odnowić i uwiecznić..." opowiada o twórczości jednego z współczesnych białoruskich rzeźbiarzy – W. Kaliasińskiego, który aktywnie pracuje w rzeźbie sakralnej (s. 68-71).

# SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" si distingue per una serie di pubblicazioni dedicate all'ordine domenicano e alla personalità di San Domenico quali "Un breve compendio sugli inizi della storia dell'ordine domenicano" (J. Šedzko), articoli "Per le via di San Domenico" (V. Bujval) e "L'Ordine dei Predicatori nelle terre bielorusse" (R. Zianiuk). A. Žlutka nell'articolo "Vit benedetto – il primo vescovo di Litva-Bielorussia: tra le spine – alla santità" scrive della figura misteriosa di uno dei rappresentanti più brillanti dell'ordine. Anche M. Milavizki OP nell'articolo "Per conservare l'eredità storica" racconta dell'attività dei domenicani nelle terre bielorusse. J. Šedzko propone all'attenzione dei lettori l'intervista "Esce incontro a..." con padre domenicano Bruno Cadore, Maestro generale dell'Ordine dei Predicatori (p. 2).

Nella rubrica *Poesia* sono collocate le opere di V. Zujonak e G. O. Cott (traduzione dal tedesco di A. Semjonowa-Herzog) (p. 2).

La studiosa di letteratura T. Nuždina (Mazyr) ha dedicato il suo articolo "Nil Ghilevič e il soggetto lirico delle sue opere sulla strada verso la Divinità" all'opera del famoso poeta insignito del titolo "Poeta del Popolo della Bielorussia".

"La cristianizzazione della Bielorussia: versioni, ipotesi, testimonianze in monumenti di antica letteratura bielorussa" è uno studio comune dei conoscitori dei tempi antichi U. Karotki e Ž. Nekraševič-Karotkaya.

M. Skobla nel saggio "Dalla "costola" del salice bielorusso" scrive del libro "Il forte incanto dello spirito: Larissa Gheniuš nei ricordi, lettere, materiali d'archivio" (2015).

L'articolo di L. Kaminskaya "Vivere vuol dire nascere gradualmente..." è dedicato alla memoria del celebre pilota e scrittore francese, cattolico di confessione Antoine de Saint-Exupéry.

S. Khareuski nell'articolo "Un libro-vetrata" scrive del nuovo libro del Dottore di ricerca in storia dell'arte T. Gabrus "Architettura sacrale della Bielorussia: l'eredità millenaria" (2014).

Lo storico A. Špunt nell'articolo "«Secolo galante»…" analizza il libro di S. Rassadin sull'araldica urbana.

Il critico d'arte J. Šunejka nel saggio "Rinnovare ed eternare…" racconta dell'opera dello scultore contemporaneo bielorusso V. Kaliasinski attivo nella scultura sacra.

---

На 1-й ст. вокладкі — Фра Беата Анжэліка. Св. Дамінік. (1437). Фрагмент алтара з касцёла св. Дамініка. Г. Перуджа.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 2 (72)/2015.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 26.06.2015 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак №        .*
*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж» Ліцэнзія № 02330/250 ад 27.03.2014.*
*Вул. Каліноўскага, д. 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*

# Шляхамі святога Дамініка



*Тыцыян. Св. Дамінік. К. 1565 г.*
*Рым, Галерэя Баргезэ.*



*Св. Дамінік.*
*Фрэска ў касцёле св. Дамініка*
*ў Балоньі. XIII–XIV стст.*



*Гаспар дэ Краер. Св. Дамінік. 1655 г.,*
*Музей дэль Прадо, Мадрыд.*



*Фра Беата Анжэліка. Св. Дамінік у малітве.*
*Фрагмент фрэскі ў кляштары св. Марка*
*ў Фларэнцыі. 1440–1441 гг.*

